Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 7 (4653) 17 лютага 2012 г.

Калонка рэдактара



Таццяна СІВЕЦ

## Дзень роднай мовы

Напэўна, калі б мяне прымусілі раз на год гаварыць, прыкладам, па-японску, я пачувалася б так, як многія сённяшнія школьнікі, якім, "ні з пушчы, ні з бору", загадалі адзначыць гэты дзень размовамі выключна па-беларуску. Упэўнена, што маўчанне, якім быў бы атулены гэты дзень, не дадало б прыязных пачуццяў ні да японскай мовы, ні да таго, хто ўсё гэта прыдумаў…

Аднак маўчанне — не заўсёды найлепшая стратэгія. Вось і бібліятэкары падчас аднаго з апошніх "круглых сталоў", прысвечаных папулярызацыі айчыннай кнігі, са скрухай прызналіся, што сучасныя школьнікі практычна не цікавяцца выданнямі на роднай мове. Чаму? Можа быць, справа ў рускамоўных сем'ях, у якіх яны выхоўваюцца? Але ж з уласнага досведу ведаю, што бацькі самых адданых беларускай мове асоб заўжды гаварылі з дзецьмі па-руску, а то і наогул былі ўраджэнцамі іншых краін…

Значыць, справа найперш ва ўласным жаданні маладога чалавека спазнаць тую загадкавую "родную мову", якая "з легендаў і казак былых пакаленняў…", якая "мілей найбагатшай чужой"… А імкненне гэтае ўзнікне, калі бацькі ці настаўнік або бібліятэкар своечасова падкажуць не толькі "праграмныя творы", але і кнігі пра сучаснае жыццё (о дзіва!) на беларускай мове, прапануюць пагартаць "Літаратуру і мастацтва", "Маладосць" ці "Полымя"… І няхай на матэматыцы ці на занятках па англійскай школьнік будзе карыстацца іншымі мовамі, але ў яго не ўзнікне пытанне, як у маіх колішніх вучняў, чаму на перапынках настаўнік беларускай мовы і літаратуры звяртаецца да іх па-беларуску… Прымус выклікае адмоўную рэакцыю — нельга палюбіць па загадзе, а вось шчырая зацікаўленасць можа здзейсніць што заўгодна!

На старонках сённяшняга "ЛіМа" — шмат цікавых артыкулаў, інтэрв'ю, крытычных аглядаў. У некаторых з іх так ці інакш закранаецца "моўнае пытанне". Да прыкладу, Васіль Снусцік прапануе задумацца пра працяг традыцый перакладу беларускай літаратурнай класікі на іншыя мовы свету, пашырыць выкарыстанне інтэрнэту ў гэтай справе, пра стан дзяржаўнай мовы разважае дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі Аляксандр Лукашанец, кнізе даследчыка-мовазнаўца Алеся Каўруса прысвечана ажно дзве рэцэнзіі…

Можна, канечне, сказаць, што няма часу, жадання, адшукаць іншыя нагоды, а можна не баяцца памылак, не ківаць на сям'ю і школу, а проста пачаць гаварыць і чытаць па-беларуску — не толькі ў Дзень роднай мовы.

Проста таму, што ВАМ так хочацца!

# Захоплены жыццём

**У Міхася Стральцова быў Боскі дар. Яго цікавіла плынь жыцця. Напэўна, Усявышняму падабалася гэтая якасць, бо той даволі рана забраў творцу на свой нябесны Парнас. Нам жа засталіся кнігі, напісаныя Міхасём Стральцовым пра нас. На старонках яго твораў мы не сустрэнем ні авантурных учынкаў, ні мудрагеліста закручаных сюжэтаў, ні гучных слоў. Мы не будзем атаясамліваць сябе з рамантычнымі героямі і гераінямі. Але, пазнаёміўшыся з кнігамі Міхася Стральцова, мы абавязкова задумаемся пра сябе, свой лёс, жыццё.**



Людміла ТРУХАН,
фота Уладзіміра Крука

Бывае так, што раптам прыходзіць творца, са з'яўленнем якога мы разумеем: у літаратурным жыцці нешта адбылося. Перад намі паўстае чалавек, які не толькі па-майстэрску валодае словам, але і здольны адчуць і адлюстраваць духоўны стан грамадства на пэўным этапе. Такой асобай у літаратуры шасцідзясятых гадоў з'яўляецца Міхась Стральцоў.

Менавіта інтэлектуальнасць, высокая культура пачуццяў і разважлівы аналіз праблем сучаснасці робяць такімі дасканалымі і па-чалавечы цёплымі навелы Стральцова. Густ пісьменніка адчуваецца ў вытанчанай "простасці", з якой той гаворыць пра найскладанейшыя пачуцці. Глыбокі псіхалагізм, веданне чалавечай натуры можна прасачыць ва ўнутраных маналогах герояў, у логіцы іх учынкаў. І разам з тым трэба адзначыць, што не адбываецца бесцырымоннага гвалту над увагай чытача, які адчувае сябе суразмоўцам героя, а зусім не ахвярай шматслоўнага выступоўцы. Герой М. Стральцова далікатна запрашае нас у свой унутраны свет, напоўнены сумненнямі, ваганнямі, спробамі адшукаць ісціну.

Выкладчык Лагацкі з апавядання "Блакітны вецер" "…зайздросціў людзям, што ўмелі ўкладваць сваю душэўную гаспадарку", для якіх усё проста і зразумела. Лагацкі тлумачыць нежаданне пайсці на праводзіны да маладзейшага суседа сваёй нібыта чэрствасцю, раўнадушшам, боязню незнаёмай кампаніі, справамі. Але міжволі ўзнікае адчуванне, што ён беражэ сваю індывідуальнасць, свой стан душы. Ён і сапраўды не разумее простых рэчаў, што ставіць яму ў віну ягоны больш сучасны сябар. Затое ўсе шматлікія героі М. Стральцова валодаюць высокай культурай пачуццяў.

Вельмі часта яны імкнуцца вырашыць праблему, адшукаць ісціну ў дыялогу. Здаецца, чым больш высокі ўзровень інтэлекту мае чалавек, тым больш ён схільны да сумненняў, бо заўважае не толькі сваю "праўду жыцця". Адсюль і шматлікія разважанні, і спрэчкі герояў з самімі сабой (яны надта далікатныя, каб навязваць сваё меркаванне астатнім).

Тонкі і незвычайна прыгожы ў творах М. Стральцова дыялог чалавека і прыроды. Знoў хочацца даць слова Майстру: "Я люблю, калі пахне пылам, а ў тую вясновую раніцу вуліца пахла яшчэ і свежымі булкамі, і духмянай кавай, і цвярозлівым халадком маладой зялёнай лістоты" ("Сена на асфальце"). Пахі вады, грыбоў, дажджу, сена напаўняюць творы Стральцова, паказваюць ягонаму герою рознабаковасць і шматаблічча праяў жыцця. І герой разумее прыроду, больш за тое — адказвае ёй успамінамі, асацыяцыямі, думкамі.

Уважлівы чытач можа прасачыць адну з асаблівасцей душэўнага стану стральцоўскіх персанажаў: яны не хлусяць самім сабе. Уласную шчодрасць і шчырасць аўтар непасрэдна перадае Міколу ("Восеньскі ўспамін"), Вольцы з аднайменнага апавядання, Васілю ("Двое ў лесе"). Героі, адчуўшы дыскамфорт у сваёй душы, не спрабуюць заглушыць яго штодзённай мітуснёй, забавамі, шматлікімі самаапраўданнямі. Трэба зрабіць так, як падказвае сэрца — вось адзінае выйсце з крызісу, вось выратаванне ад згрызот сумлення і пакутлівых думак. І як цяжка бывае адшукаць свой шлях у свеце, напоўненым спакусамі… Але героі вартыя свайго творцы, яны больш за ўсё цэняць жыццё, лічаць сваю душэўную гармонію абавязковай умовай самаідэнтыфікацыі ў Сусвеце.

Можна заўважыць, як пасля роздумаў, унутраных дыялогаў, адкінуўшы сумненні, чалавек здзяйсняе ўчынак, які скідае камень з ягонай душы. Менавіта так, перапыняючы гульні з сабой, чалавек перастае быць марыянеткай, вызваляецца з палону абставін і з-пад уплыву іншых людзей, становіцца свабодным.

Варта адзначыць, што Міхась Стральцоў належыць да пакалення шасцідзясятнікаў, якое часта называюць "філалагічным". Людзі гэтага часу навучыліся бачыць радасць у самых простых і натуральных жыццёвых праявах, бо яшчэ памяталі жахі нядаўняй вайны.

У навелах пісьменніка заўсёды шмат святла і паветра. Менавіта ў такой атмасферы ідзе жыццё яго герояў. Яны вылучаюцца сваёй здольнасцю не баяцца любых сітуацый, а таксама абсалютнай унутранай свабодай і духоўным здароўем. Героі навелы "Сена на асфальце" даюць чытачу магчымасць меркаваць пра сябе па тых лістах, якія яны пішуць. Скарыстоўваючы эпісталярны жанр (навела складаецца з трох лістоў і трох невялічкіх апавяданняў), аўтар прыводзіць чытача да разважанняў над вечнымі тэмамі кахання, сяброўства, пошуку месца ў жыцці, што турбуюць герояў. Але што за пошукі, што за пытанні хвалююць, напрыклад, Віктара ці дзядзьку Ігната? Цікава, што людзі, задаволеныя жыццём, якія атрымліваюць асалоду ад самога існавання, усё ж такі адчуваюць сябе трошкі на ўзбочыне агульнай плыні. Здаецца: што з таго, што раней яны жылі ў вёсцы, а цяпер — у горадзе?

(Заканчэнне на стар. 6).

## Пунктірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб узнагараванні 49 работнікаў розных сфер дзяржаўнымі ўзнагародамі Беларусі. У тым ліку ганаровае званне "Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь" нададзена салістам Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Аксане Волкавай і Уладзіміру Громаву. Званне "Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь" — балетмайстру-пастаноўшчыку Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі Аляксандру Аляшкевічу. Ганаровае званне "Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь" — галоўнаму інжынеру ААТ "Паліграфкамбінат імя Я. Коласа" Аляксандру Аксёненку.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расіі Віктара Праскурына з 60-годдзем. "Беларускія гледачы цэняць Вас як аднаго з выдатных майстроў сучаснага тэатра і кінематографа, чыё мастацтва ўмацоўвае масты сяброўства і супрацоўніцтва паміж нашымі народамі", — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванні народнай артыстцы СССР Людміле Касаткінай у сувязі са смерцю яе мужа, народнага артыста СССР Сяргея Коласава. "Сяргей Коласаў увайшоў у гісторыю як пачынальнік жанру шматсерыйных фільмаў на савецкім тэлебачанні, — гаворыцца ў спачуванні. — Беларускія гледачы заўжды высока цанілі талент Сяргея Коласава. Яго сыход з жыцця мы ўспрынялі як незаменную духоўную страту".

✔ Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Кітаі Віктар Буры сустрэўся з намеснікам упраўлення міжнародных сувязей Міністэрства культуры КНР Се Цзыньнам. Падчас сустрэчы абмяркоўваўся парадак правядзення Дзён культуры Беларусі ў Кітаі, прызначаных на восень гэтага года. Гутарка ішла таксама пра падпісанне пратакола аб супрацоўніцтве паміж Міністэрствамі культуры Беларусі і Кітая, арганізацыі гастроляў творчых калектываў дзвюх краін, удзеле артыстаў у разнастайных конкурсах і фестывалях.

✔ Вежа з гадзіннікам — пазнавальны атрыбут Нясвіжскага палаца Радзівілаў — рыхтуецца да рэканструкцыі. Неабходнасць яе была выклікана тым, што, паводле ацэнкі спецыялістаў, вежа ў цяперашнім выглядзе не адпавядае гістарычнаму абліччу. Пасля правядзення работ вежа набудзе першапачатковы барочны выгляд.

✔ "Альфа Радыё" ў Год кнігі абвяшчае конкурс на лепшы сцэнарый рэкламы айчыннай альбо замежнай кнігі. Удзел у конкурсе можа ўзяць кожны жадаючы. Лепшыя ідэі лягуць у аснову ролікаў, якія будуць рэгулярна гучаць у эфіры.

✔ Музей міфаў і забабонаў адкрыты пры забаўляльна-культурным комплексе "Бубнолка" Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці. Ён уяўляе сабой экспазіцыю драўляных скульптур пад адкрытым небам. У музеі можна пабачыць фігуры багіні кахання Лады, Вадзяніка, Лесавіка, Савы і іншых персанажаў славянскай міфалогіі. Тут жа размешчаны "Дуб жаданняў" і "Калодзеж прадказанняў". Экспазіцыя музея пастаянна папаўняецца.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Кніга вучыць, выхоўвае, раіць

**Уладзімір САСНОЎКІН**

"Кніга — мой лепшы сябар" — так назвалі цікавае мерапрыемства ў СШ № 1 г. Чавусы. У госці да вучняў і настаўнікаў завіталі члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Дуктаў, Валянцін Крыжэвіч і Мікола Салаўцоў.

Вядучая мерапрыемства Алеся Фаміна распавяла пра восьмы цуд свету, якім, на яе думку, з'яўляецца кніга. Яна расказала пра новае літаратурнае выданне пісьменнікаў Магілёўшчыны — альманах "Прыдняпроўе", які выйшаў напрыканцы мінулага года ў абласной друкарні імя Спірыдона Собаля. З гэтым выданнем школьнікі ўжо паспелі азнаёміцца. Падчас сустрэчы яны абмяркоўвалі змест альманаха і нават дэкламавалі вершы, якія найбольш спадабаліся.

Пра справы літаратараў вобласці расказаў старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Дуктаў. З уласнай творчасцю пазнаёмілі юных чытачоў празаік, намеснік галоўнага рэдактара чавускай раённай газеты "Іскра" Валянцін Крыжэвіч і паэт, кіраўнік гуртка "Юны журналіст і літаратар" Дома дзіцячай творчасці горада Чавусы Мікола Салаўцоў. Шмат хто з вучняў школы робіць свае першыя крокі ў паэзіі, займаючыся ў Цэнтры дадатковай адукацыі школьнікаў і моладзі горада Чавусы. Некаторыя з іх адважыліся прачытаць свае творы перад сябрамі і гасцямі.

Пісьменнікі падарылі школьнай бібліятэцы ўласныя кнігі і кампакт-дыск са сваімі творамі.

## Дарогай жыцця

**Таіса ГУРКО**

З нагоды 70-годдзя з дня нараджэння кінарэжысёра, мастака, пісьменніка Дзмітрыя Міхлеева ў Музеі гісторыі беларускага кіно прайшоў яго творчы вечар, арганізаваны Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. Ва ўтульнай зале музея кіно сабраліся родныя і блізкія, сябры і калегі. Як водзіцца, былі і віншаванні, і цёплыя словы ў адрас юбіляра. Дэманстраваліся дакументальныя стужкі — рэжысёрскія работы Д. Міхлеева "Косава", "Штрыхпункцір" (пра народнага артыста СССР і Рэспублікі Беларусь Г. Аўсяннікава), кліп-балада "Званічка" (з удзелам вакальнай групы "Чысты голас"), "Дарогі жыцця" (пра народнага артыста Беларусі, кампазітара Л. Захлеўнага).

## Стасункі

# У атмасферы сяброўства і згоды

**Беларусь і Карэя адзначылі 20 год з усталявання дыпламатычных адносін паміж дзяржавамі.**

**Ульяна БЯЛОВА, фота аўтара**

Урачысты вечар наведалі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Карэя ў Рэспубліцы Беларусь Кан Вон Сік, намеснік міністра міжнародных спраў нашай краіны Аляксандр Гур'янаў, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі, кіраўнік рабочай групы беларуска-карэйскага міжпарламенцкага супрацоўніцтва Аляксандр Юшкевіч.

"Нягледзячы на геаграфічную аддаленасць, за 20 гадоў дыпламатычных адносін дзвюм краінам удалося дасягнуць добрых вынікаў", — падкрэсліў у сваёй прамове Кан Вон Сік. Ён упэўнены, што за гады сваёй незалежнасці Беларусь зрабіла значныя крокі ў насці па вывучэнні карэйскай мовы і культурныя цэнтры.

Рэспубліка Карэя дасягнула значных вынікаў у палітыцы, эканоміцы і IT-тэхналогіях. Пра гэта сведчаць правядзенне саміта 2010 года "Вялікай дваццаткі" ў Сеуле і прызначэнне для будучых Алімпійскіх гульняў-2018 карэйскага горада Пхенчхан.

Аляксандр Гур'янаў зазначыў, што беларусы, на долю якіх выпала шмат выпрабаванняў, — працавіты і талентарны народ. Мірная палітыка кіраўніцтва робіць нашы краіны вельмі падобнымі. Гэта адкрывае вялікую колькасць перспектыў двухбаковага супрацоўніцтва, у якім асаблівую ролю выконваюць дыпламаты. За апошнія гады прайшло шмат сустрэч на вышэйшым узроўні, падпісана больш як 20 міжурадавых пагадненняў. Адным з напрамкаў далейшага супрацоўніцтва намеснік міністра вылучыў стасункі на рэгіянальным узроўні, адзін з паспяховых прыкладаў — Мінск і Сеул.



навуцы і эканоміцы і валодае вялікім патэнцыялам для развіцця супрацоўніцтва па ўсіх напрамках.

Сёння краіны з цікавасцю знаёмяцца з культурнымі набыткамі адна адной. Беларускія калектывы ўдзельнічаюць у творчых конкурсах у Сеуле, а прадстаўнікі Карэі прыязджаюць да нас. На новы ўзровень выходзіць і навукова-адукацыйнае супрацоўніцтва. З кожным годам павялічваецца колькасць карэйскіх студэнтаў, якія навучаюцца ў беларускіх ВНУ, адкрываюцца спецыяльнасці

Прадстаўнік беларускіх парламентарыяў Аляксандр Юшкевіч павіншаваў удзельнікаў урачыстай сустрэчы і падкрэсліў, што 20 год — гэта толькі пачатак і наперадзе беларусаў і карэйцаў чакае на многа больш, чым было дасягнута. Святочны настрой стваралі карэйскі хор і танцавальны калектыў "Арыран", а таксама беларускі вакальна-танцавальны ансамбль "Белы птах".



# «Паспяховая жанчына — гэта паспяховае грамадства»

**Вольга ПАЛОМЦАВА, фота Алены Ермаловіч**

**"Калі выхоўваеш мужчыну — выхоўваеш індывідуальнасць, калі выхоўваеш жанчыну — выхоўваеш грамадства", — такая думка гучала рэфрэнам на міжнароднай навуковай канферэнцыі "Сям'я і жанчына ў сучасным свеце: сацыяльныя і культурныя аспекты", якую правёў Інстытут філасофіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі разам з Пасольствам Ісламскай Рэспублікі Іран у Рэспубліцы Беларусь.**

"Нягледзячы на адрозненні паміж краінамі, праблемы ў нас агульныя: умацаванне ролі сям'і, спрыянне рэалізацыі жаночых сваіх творчых магчымасцей, — падкрэсліў Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Ірана ў Беларусі Сейед Абдала Хасейні. — І мы павінны вучыцца адзін у аднаго лепшым набыткам у гендарнай палітыцы". Пра актуальнасць гэтага пытання сведчыць удзел у канферэнцыі старшыні Праўлення Нацыянальнага банка Беларусі, старшыні Беларускага саюза жанчын Надзеі Ермаковай, старшыні Пастаяннай камісіі па адукацыі, навуцы, культуры і сацыяльным развіцці Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Антаніны Моравай, навукоўцаў і грамадскіх дзеячаў, якія непасрэдна ўплываюць на прававое поле нашай дзяржавы.

Упершыню ў нашай краіне была здзейснена спроба абгрунтаваць мадэль дзяржаўнай палітыкі і працы грамадскіх інстытутаў, накіраваную на рэалізацыю прынцыпаў роўнасці сацыяльных правоў і магчымасцей мужчын і жанчын.

У межах форуму адбылася прэзентацыя кнігі "Зборнік законаў аб жанчыне і сям'і ў Ісламскай Рэспубліцы Іран" — першага рускамоўнага каменціраванага збору заканадаўчых і нарматыўна-прававых актаў Ірана, што датычаць сямейных адносін і становішча жанчыны ў іранскім грамадстве, удзельнікі высока ацанілі выстаўку жывапісных твораў Махмуда Фаршчыяна, фотавыстаўку, якая адлюстроўвала ўдзел іранскіх жанчын у жыцці краіны (навуцы, культуры, мастацтве, спорце), выстаўку тканых карцін, а таксама стэнд кніг Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі "Сям'я і жанчына ў сучасным свеце".

***На здымку:** Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Ісламскай Рэспублікі Іран у Рэспубліцы Беларусь Сейед Абдала Хасейні і намеснік старшыні Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксандр Цыганаў.*

Літабсягі

# Паэтычны настрой прозы

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**Апошняй навінкай РВУ "Літаратура і Мастацтва" стала празаічная кніга Навума Гальпяровіча "На трапяткім агні". Яе прэзентацыя адбылася ў рамках XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.**

Адкрываючы мерапрыемства, галоўны рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва" Таццяна Сівец назвала кнігу свайго старэйшага калегі адкрыццём. Мяркую, ужыванне такога эпітэта цалкам лагічна. Як вядома, Н. Гальпяровіч з'яўляецца аўтарам 11 паэтычных зборнікаў, а таксама некалькіх дакументальных выданняў (у прыватнасці, пра родны Полацк). Першая і дагэтуль адзіная кніга яго прозы выйшла ў бібліятэчцы часопіса "Маладосць" у далёкім 2001 годзе. З таго часу аўтарам было напісана нямала навел, апавяданняў і эсэ, якія друкаваліся на старонках перыёдыкі, у зборніках лірыкі і калектыўных выданнях. Але, як прызнаўся сам Н. Гальпяровіч, яны з'яўляліся толькі дадаткам да Яе Вялікасці Паэзіі, таму пэўны час ён нават саромеўся друкаваць іх. Тым больш што апавяданні мелі дастаткова інтымны, камерны характар. На шчасце для чытачоў і слухачоў Гальпяровіча (нездарма пісьменнік Анатоль Бутэвіч адзначыў, што беларуская радыё гаворыць словамі Навума Якаўлевіча), празмерная сціпласць аўтара была пераадолена. У выніку з'явілася кніга "На трапяткім агні", а чытачы нарэшце змаглі пазнаёміцца з Гальпяровічам-празаікам.

Значная частка твораў мае дакументальную аснову. Цікава, што імёны некаторых дзеючых асоб пісьменнік змяніў, а вось іншыя пакінуў. Як прызнаўся сам Н. Гальпяровіч, адзін чалавек нават пакрыўдзіўся на яго за напісанае. Але мяркую, што астатняя аўдыторыя ўспрыме "На трапяткім агні" па-іншаму. Нездарма аўтар, паводле ўласных словаў, імкнуўся казаць пра людзей добрае.

Адным з герояў прэзентацыі стаў акцёр Алег Вінярскі, які бліскуча ўвасобіў перад прысутнымі апавяданне "Веласіпед", змешчанае ў кнізе. Гісторыя пра хлапчука, яго мару катацца на веласіпедзе і шлях, які быў выбраны для яе ажыццяўлення, засведчылі пра шчырасць, мяккі лірызм і лёгкую іронію, што ўласцівыя творам Н. Гальпяровіча. Цікава, што зямляк аўтара, пісьменнік Алесь Савіцкі, прызнаўся: прыкладна такая ж гісторыя адбылася ў даваенным Полацку ў часы яго дзяцінства.



Прычым чарга на яго веласіпед была распісана на два месяцы наперад, а хтосьці купляў месца ў ёй за два мяхі яблыкаў.

Бадай, усе ўдзельнікі прэзентацыі адзначылі паэтычны настрой новай кнігі Н. Гальпяровіча, якая абавязкова выкліча цікавасць у чытачоў.

3-пад пяра

Вялікую колькасць прыхільнікаў сабраў Міжнародны фестываль-кінакааперацыя "Cinema Perpetuum Mobile", арганізаваны Мінскім кінаклубам пры падтрымцы Белвідэацэнтра. Фестываль незалежных фільммейкераў мае пэўную асаблівасць: спецыяльна да ўдзелу ў ім здымаюцца кароткаметражныя стужкі на тэму "вечны рухавік" — вечнае мастацтва, ідэя, свабода, жыццё, супярэчнасць. Мінчане і госці сталіцы ўбачылі 190 стужак з 35 краін свету, сярод якіх былі і лепшыя работы студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Цэлы тыдзень — з 13 па 18 лютага — у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы праходзіць пад знакам Свята закаханых. Якія вершы Янкі Купалы былі напісаны пад уздзеяннем гэтага светлага пачуцця? Што нагул вядома пра асабістае жыццё паэта і яго захапленні? Адказы на гэтыя і многія іншыя пытанні наведвальнікі знаходзяць у музеі. Шчаслівы вынік кахання — вяселле. У сям'і жанчыне адводзіцца важная роля — вернай спадарожніцы, сябра, ахоўніцы сямейнага агменю. У Янкі Купалы была такая каханая — Уладка Станкевіч. У гасцей музея ёсць унікальная магчымасць наведаць выстаўку, якая прысвечана Уладзіславе Францаўне, жонцы паэта.

**Вольга ПАРХІМОВІЧ**

Напярэдадні Дня Святога Валянціна ў клубе "Салтайм" адбыўся незвычайны канцэрт "Прызнанні". Папулярныя ў моладзевым асяроддзі музычныя калектывы "Нельга Забыць" (акустык-рок), "ВЕРАСЕНЬ" (рок), "White Night Blues" (блюз), "3-Zna" (альтэрнатыўны рок) і бард Паліна Рэспубліка прадэманстравалі прысутным, як можна прызнавацца ў каханні ў розных музычных стылях. У цэнтры ўвагі "Прызнанняў" паўстала ўсё багацце гукавой палітры, усе выяўленчыя магчымасці гітарнай музыкі. Канцэрт стаўся сумесным праектам барда Вольгі Акуліч і прома-групы "ВЮ". Аўтарам ідэі выступіла паэтэса Віка Трэнас.

**Паліна ПРЫГОДЗІНА**

Артлінія

# Дзе музыка, там і каханне

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

**Не адзін толькі Дзень святога Валянціна ёсць у закаханых. Усе дні года — для іх! З гэтым цяжка не пагадзіцца, апынуўшыся ў творчай атмасферы Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра. Свята ўсіх закаханых мінула, ды наступным вечарам тут палымнелі сапраўдныя жарсці. На сцэне, вядома: у прэм'еры тэатралізаванай канцэртнай праграмы "Полымя кахання".**

Аўтар гэтага творчага праекта, мастацкі кіраўнік калектыву Адам Мурзіч падчас сустрэчы з журналістамі патлумачыў, што новая работа скіраваная на развіццё класічнага напрамку ў рэпертуары тэатра. Для яго артыстаў, музыкантаў "Полымя кахання" — захапляльная магчымасць падтрымаць творчы тонус, павысіць градус прафесійнага майстэрства ва ўсім вакальным цэху, а таксама ў аркестры. У імпрэзе адмысловым чынам спалучыліся шчырыя, адухоўленыя, пранікнёныя ўзоры вакальнай лірыкі Сяргея Рахманінава (1-е аддзяленне) і яго дэбютная аднаактовая опера "Алека", напісаная паводле паэмы Аляксандра Пушкіна "Цыганы". Нягледзячы на камерны характар праграмы, яе стваральнікам (музычны кіраўнік і дырыжор Юрый Галяс, рэжысёр-пастаноўшчык Ганна Маторная, мастак Любоў Сідзельнікава) і артыстам удалося пазбегнуць стылістыкі касцюміраваных філарманічных вечароў і парадаваць публіку не падборкай рамансаў і операў у канцэртным выкананні, а творам тэатральнага мастацтва. Дакладней, музычнатэатральнага.



Дзівосныя рахманінаўскія рамансы, у адмыслова зрэжысіраваным парадку гучання, утварылі жывую нізку вобразаў, ад якой працягнулася найтанчэйшая духоўная повязь з пачуццёвым светам лірыка-псіхалагічнай оперы, прадстаўленай у канцэртна-сцэнічным выкананні.

"Алека" — сур'ёзны і складаны музычны матэрыял, які вымагае магутных оперных галасоў і, вядома ж, акцёрскага майстэрства. Можна было б запрасіць на вядучыя партыі калег з Вялікага тэатра, на сцэне якога гэтая опера С. Рахманінава ідзе ўжо не адзін сезон, аднак... Аднак такі падыход супярэчыў бы мэтам праекта, тым болей што сёння ў калектыве БДАМТ ёсць свае салісты, здатныя годна спяваць класіку і спраўляцца са складанымі акцёрскімі задачамі. Выканаўчы склад "Алека" рыхтаваўся без дублёраў: Земфіра — Лідзія Кузьміцкая, Малады цыган — Яўген Ермакоў, Старая цыганка — Святлана Мацiеўская. З-за адсутнасці свайго саліста-баса на ролю Старога цыгана запрасілі Дзмітрыя Трафімука з НАВТ Беларусі, дзе партыі першага плана ён ніколі не спяваў. А ўвасобіць вобраз галоўнага героя, Алека, прапанавалі Уладзіславу Успенскаму — салісту Маладзёжнай акадэміі Марыінскага тэатра Санкт-Пецярбурга, нашаму земляку, вучню А. Мурзіча.

***На здымку: дырыжор Юрый Галяс, лаўрэат міжнародных конкурсаў Лідзія Кузьміцкая і мастацкі кіраўнік БДАМТ, заслужаны работнік культуры Беларусі Адам Мурзіч.***

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару выдавецтва "Мастацкая літаратура" Шніпу Віктару Анатольевічу ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю МАЦІ.

Калектыў УП "Мастацкая літаратура" выказвае шчырае спачуванне галоўнаму рэдактару выдавецтва Шніпу Віктару Анатольевічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю МАЦІ.

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" выказвае шчырае спачуванне галоўнаму рэдактару выдавецтва "Мастацкая літаратура" Шніпу Віктару Анатольевічу ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю МАЦІ.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырае спачуванне галоўнаму рэдактару выдавецтва "Мастацкая літаратура" Шніпу Віктару Анатольевічу з выпадку напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" выказвае шчырае спачуванне супрацоўніцы Вользе Амельчанцы ў сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам — смерцю МАЦІ.

Повязі

# «Туш спявае песню ў вершах…»

**Выстаўка каліграфічных прац майстра Лі Цзо адкрылася ў галерэі "Мабільная" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Экспазіцыю склалі больш як 60 каліграфічных твораў. Ініцыятарамі выстаўкі выступілі Саюз пісьменнікаў Беларусі і Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ.**

Ірына АЛЯКСАНДРАВА,
фота Валерыя Харчанкі

Каліграфія — неад'емная частка кітайскай культуры. Для заходніх традыцый не характэрна звязваць гэтак шмат з уменнем прыгожа пісаць. Хаця ў эпоху Сярэднявечча, калі кнігі яшчэ былі рукапіснымі, падобны талент і ў нас цаніўся высока, бо даваў чалавеку магчымасць забяспечана прыгожа жыццё. Успрымаць каліграфію як мастацтва і атрымліваць асалоду ад сузірання слоў, старанна выведзеных старажытнымі прыстасаваннямі для пісьма, — гэта даступна і нам. Каб было інакш, то не выклікаў бы, пэўна, такой цікавасці ў суайчыннікаў праект факсімільнага выдання таго ж "Слуцкага Евангелля" ці перспектыва факсімільнага выдання "Жыція Еўфрасінні Полацкай". Аднак шчырая і кранальная вера кітайцаў у тое, што майстэрства каліграфіі мяняе жыццё чалавека, а каліграфічны твор у доме можа паўплываць на дасягненне сямейнай гармоніі, для нас пакуль неспасцігальныя.

І ўсё ж ёсць штосьці незвычайна прыцягальнае ў пісьмёнах, нанесеных майстрам на спецыяльна і прыдзірліва адабраную аснову. Цяпер гэта не заўжды шоўк, як патрабуе кітайская традыцыя. Гэта можа быць і папера. Але — самая лепшая. Атласная, з далікатным залатым цісненнем, празрыста-зіхатлівая, як рысавая пудра.

Майстар Лі Цзо парадаваў беларускіх прыхільнікаў яшчэ і тым, што пераклаў для іх тэксты сваіх каліграфічных твораў, якія аказаліся вытанчанымі аўтарскімі вершамі. "Туш спявае песню ў вершах, пэндзаль грае на струнах паперы". "Без старання нічога не зробіш, толькі вялікая мэта дае табе сапраўдную сілу". "Асенняя воды зыходзяць патокам і на ўсход, і на захад. Толькі маладосць застаецца, імкнучыся да вялікай мэты".

Лі Цзо — прафесійны каліграф, пераможца шэрагу каліграфічных конкурсаў у сябе на радзіме. Працуе выкладчыкам кітайскай мовы на факультэце міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Жаданнем зблізіць кітайскі і беларускі народы выклікана ідэя пазнаёміць нашых аматараў прыгожага з традыцыямі каліграфіі. А для суайчыннікаў Лі Цзо рыхтуе іншы падарунак — перакладае на кітайскую мову творы сучасных беларускіх пісьменнікаў, сваіх сяброў з Саюза пісьменнікаў Беларусі.



***На здымку: майстар Лі Цзо. Чалавек з такім прыгожым почыркам не можа мець дрэнны характар.***

# Выток наш і аснова

Ірына ТУЛУПАВА

**21 лютага ва ўсім свеце адзначаецца Міжнародны дзень роднай мовы. Напярэдадні яго на пытанні “ЛіМа” адказаў дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы, член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Беларускага і Міжнароднага камітэтаў славістаў Аляксандр Лукашанец.**



**— Аляксандр Аляксандравіч, Міжнародны дзень роднай мовы — знакавы для ўсіх краін, але чым ён адметны для Беларусі? Ёсць асаблівасці падыходу да яго святкавання?**

— Ідэя Міжнароднага дня роднай мовы агульная для ўсіх: падтрыманне нацыянальных моў і культур, захаванне нацыянальнай адметнасці і нацыянальнай самабытнасці, забеспячэнне права кожнага грамадзяніна карыстацца роднай моваю і стварэнне ўмоў для гэтага з боку дзяржаўных органаў улады. Для розных краін і народаў у залежнасці ад канкрэтнай моўнай сітуацыі актуальнасць Дня роднай мовы набывае сваю спецыфіку. У нашай краіне гэты дзень мае асаблівае значэнне. Святкаванне яго ў Беларусі істотна адрозніваецца ад многіх іншых краін, у тым ліку і суседніх. Для большасці краін свету, напрыклад, правядзенне Міжнароднага дня роднай мовы накіравана на падтрыманне моў нацыянальных меншасцей, павышэнне іх грамадскага статусу і пашырэнне ў практычным ужытку. Спецыфіка Беларусі заключаецца ў тым, што аб'ектам першаступеннай увагі становіцца менавіта беларуская мова — дзяржаўная мова краіны і мова нацыянальнай большасці. Нягледзячы на самы высокі заканадаўчы статус беларускай мовы, сёння існуюць сур'ёзныя праблемы з яе рэальным выкарыстаннем у большасці афіцыйных сфер зносін. Інакш кажучы, асноўная ўвага ўдзяляецца пытанню прывядзення рэальнай моўнай сітуацыі ў адпаведнасць з існуючым заканадаўствам у моўнай сферы. Другі аспект праблемы, які патрабуе самай пільнай увагі, заключаецца ў тым, што праблемы паўнавартаснага функцыянавання мовы актуальныя не толькі для моў нацыянальных меншасцей, але і для моў з высокім заканадаўчым статусам. Пры гэтым часта аказваецца, што мове нацыянальнай большасці значна цяжэй вырашыць гэтыя праблемы, чым мове нацыянальнай меншасці.

**— Якія ўстановы і арганізацыі найбольш актыўна адзначаюць гэты дзень?**

— На працягу ўжо многіх гадоў Міжнародны дзень роднай мовы набывае ў нашай краіне агульнадзяржаўнае гучанне. Практычна ва ўсіх міністэрствах і ведамствах, арганізацыях і ўстановах праводзяцца розныя мерапрыемствы, у якіх найбольш актыўна ўдзельнічаюць установы адукацыі ўсіх узроўняў, выдавецкія арганізацыі, творчыя саюзы, навукова-даследчыя ўстановы гуманітарнага профілю, СМІ і інш. У акадэмічным Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы таксама ладзяцца розныя мерапрыемствы, прымеркаваныя да Міжнароднага дня роднай мовы, а нашы супрацоўнікі актыўна выступаюць з дакладамі і лекцыямі пра беларускую мову ў розных арганізацыях, у студэнцкіх аўдыторыях, перад школьнікамі.

**— У тых працэсах, якія адбываюцца ў сучаснай беларускай мове, што ёсць аб'ектыўнага і суб'ектыўнага?**

— На пачатку XXI стагоддзя беларуская мова — гэта высокаразвітая літаратурная мова, якая можа паспяхова абслугоўваць усе камунікатыўныя сферы жыцця грамадства. Яе сістэма дынамічна развіваецца ў рэчышчы агульных тэндэнцый для сучасных славянскіх моў: да інтэрнацыяналізацыі і нацыяналізацыі. З першай тэндэнцыяй звязана інтэнсіўнае папаўненне слоўнікавага складу беларускай мовы актуальнай лексікай іншамоўнага паходжання і яе адаптацыяй. З другой — пашырэнне ў маўленні тых сродкаў, якія падтрымліваюць і ўмацоўваюць нацыянальную спецыфіку беларускай мовы ў параўнанні з суседнімі блізкароднаснымі мовамі, перш за ўсё рускай. Зразумела, што ў непасрэднай моўнай практыцы праяўляюцца асабістыя і нават групавыя суб'ектыўныя густы і схільнасці карыстальнікаў, аднак усё гэта з часам нівеліруецца і застаецца толькі тое, што найбольш адпавядае сістэме мовы і практычным патрэбам камунікацыі.

**— Мова адлюстравана ў літаратуры. Згадваючы творчасць беларускіх класікаў, чые юбілеі мы святкавалі летась і будзем яшчэ святкаваць у 2012-м (Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка), як асэнсоўваецца іх унёсак у развіццё мовы?**

— Зразумела, мастацкая літаратура істотна ўплывае на развіццё сістэмы літаратурнай мовы, садзейнічае ўзбагачэнню яе слоўнікавага складу, павышае прэстыж і аўтарытэт мовы наогул. Таму многія выдатныя беларускія пісьменнікі і паэты сваёй творчасцю, сваім мастацкім талентам зрабілі важкі ўнёсак у развіццё і ўдасканаленне беларускай мовы. Безумоўна, неацэннае значэнне ў гэтых адносінах мае спадчына нашых класікаў Максіма Багдановіча, Якуба Коласа і Янкі Купалы, якія стаялі каля вытокаў новай беларускай літаратурна-пісьмовай мовы. Значны ўплыў на яе развіццё аказалі таксама многія іншыя выдатныя майстры слова XX стагоддзя. Сваёй творчасцю яны вывелі беларускую мову на высокі ўзровень, яна заняла належнае месца ў сям'і славянскіх моў і моў свету.

**— Мова развіваецца, пісьмовая ў тым ліку. Прымаюцца правілы правапісу, і вось ужо інтэрнэт мы пішам з малой, а не вялікай, як нядаўна, літары. Але якая форма больш правільная: Раство, Ражаство ці Нараджэнне Хрыстова, Ефрасіння альбо Еўфрасіння, ангел альбо анёл; як перакласці “изустный журнал путешественника”, як выбраць найбольш аптымальны варыянт ужытку?**

— Зразумела, што любая натуральная мова, у тым ліку і беларуская, пастаянна развіваецца і ўдасканальваецца. Гэта знаходзіць сваё адлюстраванне перш за ўсё ў слоўнікавым складзе, які найбольш аператыўна рэагуе на змены ў жыцці грамадства. Выкарыстанне пісьмовай мовы рэгламентуюць правілы правапісу. Усе гэтыя змены накіраваны ў першую чаргу на ўдасканаленне пісьмовай практыкі, аптымізацыю працэсу навучання, пашырэнне беларускай мовы ў сферы афіцыйнага ўжытку. Таму змены, якія адбываюцца на розных узроўнях моўнай сістэмы, як правіла, заканамерныя і апраўданыя. Так, сучаснае напісанне слова *інтэрнэт* з малой літары апраўдана таму, што яно адносіцца да разраду агульных (а не ўласных) назоўнікаў і знаходзіцца ў радзе такіх найменняў, як *пошта, тэлеграф, тэлефон*.

У сучаснай беларускамоўнай практыцы пашыраны найменні *Ражджаство, Раство, Ражаство, Нараджэнне Хрыста* (*Нараджэнне Хрыстова*), *Божае Нараджэнне, Каляды*, якія з'яўляюцца, па сутнасці, сінонімамі. У дадзеным выпадку размова павінна ісці не пра тое, якая форма больш правільная, а пра сферы мэтазгоднага выкарыстання гэтых найменняў. Так, царкоўнаславянізм *Ражджаство* пашыраны ў афіцыйным праваслаўным набажэнстве, і гэта цалкам апраўдана, бо ў гэтай сферы царкоўнаславянізмы з'яўляюцца дарэчнымі. Словы ж *Раство*, *Ражаство* трэба разглядаць як народна-гутарковыя варыянты царкоўнаславянізма *Ражджаство*. Яны абсалютна дарэчныя ў гутарковым маўленні носьбітаў беларускай мовы. Выраз *Божае Нараджэнне* больш пашыраны ў каталіцкім богаслужэнні, г. зн. мае сваю сферу функцыянавання. На мой погляд, найбольш адпавядае нормам сучаснай беларускай літаратурнай мовы выраз *Нараджэнне Хрыста* (*Нараджэнне Хрыстова*), які дакладна перадае сутнасць паняцця і дазваляе захаваць неабходную ўрачыстасць стылю ў афіцыйным набажэнстве. А вось павіншаваць каго-небудзь вельмі дарэчна “*з Калядамі*”.

Выкарыстанне форм жаночага імені *Ефрасіння* і *Еўфрасіння* таксама стылістычна абумоўлена. Форма *Еўфрасіння* з'яўляецца старой формай сучаснага праваслаўнага жаночага імені *Ефрасіння*.

Гэтаксама выкарыстанне слоў *ангел* і *анёл* звязана з моўнымі асаблівасцямі праваслаўнага і каталіцкага набажэнства.

Нарэшце, пры перадачы рэдкаўжывальных іншамоўных выразаў кшталту “*изустный журнал путешественника*” трэба імкнуцца не да дакладнага перакладу кожнага слова, а да найбольш адэкватнага адлюстравання сэнсу выразу. У прыведзеным канкрэтным выпадку самым карэктным адпаведнікам рускага “*изустный журнал путешественника*” магло б стаць беларускае “*гукавы часопіс падарожніка*” ці “*гукавы дзённік падарожніка*”.

**— Беларусь рыхтуецца да чарговага Міжнароднага з'езду славістаў. Чым ён можа стаць для навукі і практыкі?**

— Сапраўды, у 2013 годзе ў Мінску адбудзецца XV Міжнародны з'езд славістаў. Гэта найбуйнейшы навуковы міжнародны форум, на якім абмяркоўваюцца праблемы існавання і вывучэння славянскіх моў, літаратур і культур. Праводзяцца з'езды, пачынаючы з 1929 года, рэгулярна кожныя пяць гадоў на чарзе ў розных славянскіх краінах. У іх бяруць удзел вядомыя вучоныя-славісты з розных славянскіх і неславянскіх краін. У Беларусі такі з'езд праводзіцца ўпершыню і мае агульнадзяржаўнае навуковае і культурнае значэнне. Ён дазволіць прадэманстраваць міжнароднай навуковай гуманітарнай супольнасці ўзровень беларускай нацыянальнай навукі, будзе садзейнічаць пашырэнню славістычных даследаванняў у нашай краіне, даследаванню сувязей беларускай мовы з іншымі славянскімі мовамі. Акрамя таго, значэнне гэтага з'езда яшчэ і ў тым, што сам факт правядзення яго ў нашай краіне з'яўляецца сведчаннем таго, што Рэспубліка Беларусь — гэта асобная незалежная славянская краіна са сваёй арыгінальнай мовай, самабытнай нацыянальнай літаратурай, багатай культурай і традыцыямі.

## Глыбокае-2012

# Слова роднае, стваральнае

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

— Прыязджайце на свята працаўнікоў аграпрамысловага комплексу. Будзе весела і цікава! — гасцінна запрасіла напрыканцы мінулай восені намеснік старшыні Глыбоцкага райвыканкама Галіна Унуковіч.

Мы з удзячнасцю прынялі прапанову.

…У Засвільскім Доме культуры няма дзе яблыку ўпасці. Героі ўрачыстасці — ветэраны працы, лепшыя хлебаробы, жывёлаводы, рабочыя і спецыялісты перапрацоўчых прадпрыемстваў… Ім уручаюцца грашовыя прэміі, падарункі. А самадзейныя артысты прысвячаюць песні — народныя, вясёлыя, сардэчныя. Гучаць-пераліваюцца маладыя, сакавітыя галасы. Шчыруе родная мова! Гэтае прыгожае шматгалоссе раптам дапаўняе яркае, вобразнае віншаванне дырэктара Празароцкай сярэдняй школы Вольгі Гінько — таксама на чысцюткай беларускай мове, — якое суправаджаецца дружнымі апладысментамі. Заключнае слова бярэ старшыня райвыканкама Алег Мархат. Некалькі слоў прамаўляе па-руску, затым лёгка пераходзіць на беларускую мову і заканчвае выступленне вершам пра хлеб, урадлівую ніву, руплівўца-сейбіта і сінія салаўіныя ранкі.

Кожны раз, бываючы на Глыбоччыне, пераконваюся, што тут роднае, беларускае слова ніколі не было ў заняпадзе, яно і сёння смела гучыць не толькі ў вёсках, але і на гарадскіх вуліцах, у дзяржаўных установах. Ды і самі назвы населеных пунктаў сведчаць пра самабытны характар і майстэрства іх працавітых жыхароў. На ўзнікненне геаграфічных назваў найбольш значны ўплыў аказалі народны, гістарычны, этнічны і лінгвістычны фактары. Прыслухайцеся: Дзегцяры, Леднікі, Шубнікі, Скарабатуны, Бондары, Ганчары, Ткачэўшчына, Краўцы, Кавалі, Леснікі… Пра багацце жывёльнага свету гаворыць вёскі Ласі, Лісіцы, Ластаўкі, Ласёва, Барсукі, Дразды, Галубы, Бобрыкі, Гарнастаі, Бабруйшчына.

Назвы большасці гарадскіх вуліц гучаць па-беларуску, а некаторыя з іх названы ў гонар вядомых землякоў-пісьменнікаў — Тамаша Ляшонка, Лявона Ракаўскага — аўтара кніг “Генералісімус”, “Суvoраў”, “Кутузаў”, “Канстанцін Заслонаў”, а таксама стваральніка дэндралагічнага саду Віктара Ламакі, выдатнага вучонага-будаўніка Юрыя Сабалеўскага.

Райвыканкам плануе напярэдадні Дня беларускага пісьменства ўсталяваць памятныя мемарыяльныя дошкі на будынках, у якіх некалі жылі Вацлаў Ластоўскі, Язэп Драздовіч, Тадэвуш Даленга-Мастовіч, Давід Перальман, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы авіяканструктар Павел Сухі і іншыя таленавітыя глыбачане.

Таленты тут заўсёды па-сапраўднаму цанілі і шанавалі.

**Газета “Літаратура і мастацтва” — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

# ЛіМ: 1941 год

Вольга ПАСІЯК

Кавалкі старонак. Месцамі тэксты амаль нечытэльныя. Папера захавала энергетыку той далёкай вайны. Цікава, але чамусьці такое ўражанне застаецца толькі ад нумароў за гэты, 1941-ы, год. "ЛіМ" трыццатых іншы, у ім свая мелодыя горычы, свой непакой. А тут незнарок ловіш сябе на думцы: падарунак лёсу — да апошняй хвіліны жыць надзеяй на лепшае і не ведаць сваёй будучыні. Нават калі заўтра вайна… І нават калі ў паветры прадчуванне вайны, якое становіцца відавочным толькі праз дзесяцігоддзі.

Ад першага нумара 1941 года патыхае нейкай містыкай. Магчыма, віной таму супадзенне лічбаў, якое адразу кідаецца ў вочы — першы нумар аднячасова пяцісоты. Але такі своеасаблівы юбілей газета ніяк не адзначыла, сціпла пераключыўшы ўвагу чытачоў на падвядзенне вынікаў мінулага года: *"1940 год з'явіўся годам выдатных творчых дасягненняў для тэатраў Савецкай Беларусі. Аб іх сведчыць ужо дэкада беларускага мастацтва, якая з вялікім поспехам прайшла ў Маскве"* (ЛіМ, 1941, 4 студзеня). Так, тэатр становіцца ключавой тэмай года. У кожным нумары вострыя на язык крытыкі абмяркоўваюць чарговы сцэнічны поспех ці пракол. Самі сабой у памяці ўсплываюць знакамітыя радкі: "Усё жыццё — тэатр, а…" А працяг вы ведаеце.

На гэтай сцэне традыцыйна пачэснае месца займаюць нагоды для свята і жалю. Вось ужо ўвесь народ смуткуе з прычыны 17-й гадавіны з дня смерці таварыша Леніна. А тут самы час адзначыць падзею дзяржаўнай важнасці — маршалу Савецкага Саюза Кліменту Варашылаву споўнілася 60 год. І, бясспрэчна, з 1 студзеня кожны абавязаны распачаць інтэнсіўную падрыхтоўку да 25-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Дый Сталінскую прэмію за выдатныя заслугі ў галіне мастацтва і культуры прысудзілі, расстаўляючы прадказальныя акцэнты: *"Ні ў адной краіне, ні ў адну эпоху клопаты аб развіцці культуры і мастацтва з боку ўрада не дасягнулі такіх маштабаў, якіх дасягнулі яны ў нашай сацыялістычнай радзіме"* (ЛіМ, 1941, 22 сакавіка). Сярод шматлікіх прозвішчаў з усяго Савецкага Саюза, якія вядомы сёння кожнаму больш-менш адукаванаму чалавеку, знаходзім і нашых сапраўды таленавітых землякоў: *"Мы ганарымся тым, што ў ліку сталінскіх лаўрэатаў ёсць пяць прадстаўнікоў беларускага савецкага мастацтва: праслаўлены пясняр беларускага народа Янка Купала, народная артыстка СССР Л. Александроўская, выдатны майстар беларускага тэатра Г. Глебаў, таленавіты сатырык-драматург К. Крапіва, малады кампазітар, аўтар адной з лепшых савецкіх опер А. Багатыроў"* ("У пушчах Палесся" — **В. П.**) (ЛіМ, 1941, 22 сакавіка).

Прадчуванне вайны, здаецца, было закладзена ў першаснову сістэмы. Яно пранікала ў кожную шчыліну свядомасці, паралізуючы ўсе жывыя клеткі. *"Савецкі народ ні на адну хвіліну не забывае ўказанняў геніяльнага Сталіна аб тым, што Савецкі Саюз знаходзіцца ў капіталістычным акружэнні, што магчымы ўсялякія нечаканасці, калі вораг паспрабуе на нас напасці. Чырвоная Армія, выхаваная партыяй Леніна-Сталіна, гатова ў любы час стаць на абарону савецкай зямлі і разбіць ворага, які памкнецца напасці на нас, на яго тэрыторыі"* (ЛіМ, 1941, 12 красавіка).

А тут чарговая архіважная задача — "ператварыць беларускія балоты ў квітнеючыя палі і лугі": *"Гэта рашэнне мае велізарнае народнагаспадарчае значэнне. Урад і партыя намецілі праграму далейшага ўздыму калгаснага земляробства Беларускай ССР на бліжэйшыя пятнаццаць год"* (ЛіМ, 1941, 15 сакавіка). Праз прызму часу ўважлівы назіральнік адчайна выкрыкне: "Што ж вы робіце?" Дый навошта, бо мірнага жыцця засталося занадта мала? Але цяпер судзіць лёгка, бо час умела расставіў усё па сваіх месцах. А тады… *"Кадры нашай мастацкай інтэлегенцыі разумеюць, што без авалодання марксісцка-ленінскай тэорыяй, без павышэння свайго ідэйнага і культурнага ўзроўню нельга паспяхова развіваць савецкае мастацтва, выхоўваць працоўных у духу камунізма"* (ЛіМ, 1941, 18 студзеня). Неўміручыя ідэалы будаўніцтва "светлай будучыні" сталіся непахісным пастулатам.

Здаецца, асноўныя ўдары ў той час мужна адбівала паэзія, якой прыпісалі вузкую, практычную функцыянальнасць, дзе няма месца творчасці. *"Наша партыйная прэса, у прыватнасці газета "Праўда", не раз выступала супроць таго струменя банальшчыны і пашляцыны, якія часам праяўляюцца ў творчасці паасобных паэтаў. Мы маглі назіраць, як самая звычайная "цыганшчына" спрабавала паланіць эстрадны рэпертуар. Былі спробы некаторых крытыкаў зрабіць паэтэсу Ахматаву ледзь не сцягам нашай паэзіі. У самыя напружаныя моманты нашага жыцця, калі ўвесь савецкі народ праяўляў высокія прыклады мужнасці і гераізму, знаходзіліся паасобныя паэты, якія лічылі магчымым займацца бесклапотным канарэечным цілікannем"* (ЛіМ, 1941, 25 студзеня). Так расстаўляе прыярытэты Міхась Лынькоў.


Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА САВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР І ҮПРАЎЛЕННЯ ПА СПРАВАХ МАСТАЦТВАЎ ПРЫ СНК БССР
№ 5 (504) | Субота 1 лютага 1941 года | Цана 20 кап.
Наша проза
Новыя творы — Якуб Колас
На „крэсах усходніх"
Раздзел III з часткі II паэмы*)

А што ўзамен? Аўтар "Міколкі-паравоза" выносіць сваю прапанову: *"Нам патрэбна вялікая і мужная паэзія, паэзія, прасякнутая страснай чалавечай думкай, высокімі пачуццямі чалавека-грамадзяніна, чалавека-будаўніка і барацьбіта. Нам патрэбна паэзія пачуццяў грамадзян сацыялістычнай радзімы, грамадзян, якія рашуча змагаюцца за мір для сваёй радзімы, вядуць вялікую барацьбу за лепшую будучыню ўсяго чалавецтва. Змаганне за гэтую паэзію — наша задача"* (ЛіМ, 1941, 25 студзеня). Практычнасцю абмяжоўвае творцаў і другая вядомая асоба — Пятрусь Броўка: *"У чым правы нашы крытыкі? У тым, што яны завайстраюць увагу на пачуцці часу. Калі яны гавораць аб тым, што нам, паэтам, трэба адчуваць час, што трэба быць больш суровымі, больш мабілізаванымі, яны бясспрэчна правы. Калі яны ідуць супроць цвяцістасці ў паэзіі, супроць вычурнасці, яны таксама правы"* (ЛіМ, 1941, 25 студзеня).

На шчасце, не застаюцца за бортам і замежныя творцы — газета аддае даніну павагі геніяльнасці Г. Гейне ў дзень 85-годдзя з дня яго смерці: *"Гейне быў любімым паэтам Шумана: "скачкі настрояў", глыбокая і вострая іронія любоўнай прыроды — усё гэта радніла паэта і кампазітара"* (ЛіМ, 1941, 15 лютага). Уражвае і такая нататка пра аднаго з прадстаўнікоў варожага капіталізму: *"Радыё прынесла навіну аб вулічнай катастрофе, якая адбылася ў Нью-Йорку з вядомым скрыпачом Фрыцам Крэйслерам, у выніку якой музыкант атрымаў цяжкія раненні. Цяжка пераацаніць значэнне гэтага выдатнага мастака для сучаснага мастацтва, бо яно даўно перашагнула рамкі скрыпічнага выканальніцтва: ні адна з галін сумежных мастацтваў не пазбегла яго ўплыву, і ён па праву заняў адно з першых месц сярод буйнейшых музыкантаў нашага стагоддзя"* (ЛіМ, 1941, 10 мая). Так і напрошваецца пытанне: ці не спрацаваў у бальшавіцкім друку прынцып, які набіў аскоміну, — пра памерлых альбо добра, альбо ніяк?

…Апошні нумар "ЛіМа" за 1941 год выйшаў 21 чэрвеня. Яго ключавой тэмай сталі гастролі маскоўскага МХАТа ў Мінску. Па іроніі лёсу, на наступны дзень пачалася вайна, дзе многім было наканавана стаць… зусім не статыстамі. Наступны нумар газеты ўбачыў свет толькі 10 красавіка 1945 года.

# Пра патрыярхаў і не толькі

Сяргей ЖОЛУД

## У студзеньскім нумары часопіса «Беларуская думка» чытач знойдзе шмат надзённых матэрыялаў.

Так, адразу тром знакавым падзеям у культурным жыцці краіны (90-годдзю адкрыцця ў Беларусі першага класічнага ўніверсітэта — БДУ, 120-м угодкам з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча і 90-годдзю стварэння Інстытута беларускай культуры) прысвечаны артыкул прафесара Алега Яноўскага "Беларусь, рэвалюцыя, культура: успрыняць, прыняць, аб'яднаць".

Серыю запланаваных часопісам публікацый, прысвечаных Году кнігі, адкрывае навуковы артыкул дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Рамана Матульскага, у якім разглядаюцца асноўныя тэндэнцыі развіцця кнігадрукавання Беларусі ў перыяд з 1918 па 1990 гады ва ўзаемасувязі з сацыяльна-палітычнымі і эканамічнымі працэсамі ў грамадстве.

У студзені "Беларуская думка" працягвае сумесны з Нацыянальнай акадэміяй навук Рэспублікі Беларусь праект "Патрыярхі беларускай навукі". Гэтым разам — аповед пра вядомага беларускага вучонага, буйнога спецыяліста ў галіне тэарэтычнай фізікі, метадалогіі і гісторыі навукі, прафесара, члена-карэспандэнта НАН Беларусі Льва Тамільчыка, які за паўстагоддзя выкладчыцкай дзейнасці ў Беларускім дзяржаўным універсітэце накіраваў у спрыяльнае рэчышча навукі некалькі дзясяткаў таленавітых студэнтаў. Дарэчы, Леў Тамільчык вядомы ў беларускім навуковым асяроддзі і як актыўны барацьбіт з псеўданавукай.




У сваім эксклюзіўным інтэрв'ю выданню старшыня Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў Лідзія Ярмошына расказвае пра дзейнасць галоўнага выбарчага органа краіны, акцэнтуе ўвагу на найбольш значных момантах выбарчага заканадаўства, выказвае асабістае стаўленне да адной з галоўных у гэтым годзе ў грамадска-палітычным жыцці нашай дзяржавы падзей — маючых адбыцца парламенцкіх выбараў.

Пра задачы, якія стаяць перад сістэмай эканамічнага правасуддзя на сучасным этапе развіцця нашай дзяржавы — у гутарцы Галіны Махнач са старшынёй Вышэйшага Гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь Віктарам Камянковым. У прыватнасці, ён засяроджвае ўвагу на зменах у Гаспадарчым працэсуальным кодэксе, пры гэтым асаблівая ўвага надаецца альтэрнатыўным формам гаспадарчага правасуддзя і мерам, якія прымаюцца судаўнікамі гаспадарчых судоў па іх укараненні.

Цікавым падаецца і артыкул "Армія народа" Германа Маскаленкі, які выступае ў падтрымку выбранай кіраўніцтвам Беларусі мадэлі арганізацыі абароны нашай Айчыны. Аўтар пацвярджае сваю пазіцыю прыкладамі з нядаўняга мінулага і дня сённяшняга. У прыватнасці ён з пазіцый простага чалавека абгрунтоўвае мэтазгоднасць стварэння ў Беларусі войск тэрытарыяльнай абароны. Актуальнымі падаюцца і тыя раздзелы артыкула, дзе журналіст разважае пра вытокі патрыятызму, прыводзіць прыклады амерыканскага вопыту ваенна-патрыятычнага выхавання моладзі.

Нядаўна споўнілася 20 гадоў беларуска-кітайскаму партнёрству. Гэтай падзеі прысвечаны артыкул "Стратэгія ўзаемадзеяння", аўтарамі якога з'яўляюцца прафесар Леў Крыштаповіч і кандыдат палітычных навук Аляксандр Філіпаў. У сваім матэрыяле яны разглядаюць шматлікія грані беларуска-кітайскага супрацоўніцтва за апошнія два дзясяткі гадоў.

З іншых публікацый студзеньскага нумара "Беларускай думкі" таксама можна даведацца пра праблемы развіцця канкурэнцыі на айчынным рынку жыллёва-камунальных паслуг, развіцці ў апошнія два дзесяцігоддзі энергетычнай галіны краіны, сацыяльна-эканамічным супрацоўніцтве асобных беларускіх і польскіх рэгіёнаў і інш. Часопіс таксама друкуе вынікі сацыялагічнага апытання, праведзенага аналітычным цэнтрам ЕсооМ і прысвечанага вынікам мінулага года як для Беларусі ў цэлым, так і для кожнага яе грамадзяніна.

# Пра шматколернасць гаварыцэ...

Васіль СНУСЦІК

**І раней, і часам сёння, стараючыся вывесці формулу паспяховасці развіцця нацыянальнай літаратуры, мы часта прыводзім факты ўдалага шэсця беларускага мастацкага слова па свеце. Стараліся сябраваць не толькі з літаратурамі суседзяў, а і ў далёкія краіны зазіралі.**

Несумненна, перакладам паэзіі, прозы на іншыя мовы спрыялі і іншыя, непараўнальна болей высокія ідэалагічныя і эканамічныя магчымасці. Знаходзячыся ў складзе Савецкага Саюза, Беларусь і беларускія пісьменнікі шмат што маглі сабе дазволіць. Было ў тых магчымасцях і такое, што пераклады ажыццяўляліся і выдаваліся на месцы, у Мінску, Маскве, а пасля ўжо перасылаліся, распаўсюджваліся ў іншых краінах, у залежнасці ад таго, на якой мове ў іх размаўлялі. Як прыклад — кнігі Максіма Танка на англійскай, арабскай, іспанскай мовах былі выдадзены ў Мінску. Друкаваліся творы беларускіх пісьменнікаў і ў маскоўскім шматмоўным часопісе "Савецкая літаратура". Відавочна, што была ў гэтым некаторая штучнасць, бо часам спрацоўвалі суб'ектыўныя механізмы цікаўнасці да нацыянальных літаратур. Перакладалі перш-наперш лаўрэатаў, народных пісьменнікаў. Хаця большасць іх твораў і была вартая ўвагі. Іншая справа, што не дужа шырокім быў калідор, праз які можна было набыць вядомасць у свеце. Ды сёння, на вялікі жаль, калідор гэты стаў яшчэ вузейшым.

Калі ўжо выбралі ў якасці прыкладу Танка, то хацелася б задацца і такім пытаннем. Сёлета адзначаецца 100-годдзе з дня нараджэння вялікага беларускага паэта. Пайшоў ён з жыцця ў 1995 г., амаль да самай смерці з'яўляліся публікацыі перакладаў з яго паэзіі ў розных краінах. У 1987-м выйшла кніга па-каракалпакску ў Нукусе (Узбекістан), у 1989-м — на туркменскай мове ў Ашхабадзе, у 1986 — 1987 гадах — паэтычныя зборнікі на малдаўскай, літоўскай, сербалужыцкай... А колькі публікацый, як сведчыць біябібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменнікі", было ў 1982-м — трэба разумець, да 70-годдзя народнага паэта Беларусі! Можа, і сёлетні, год 100-годдзя Максіма Танка, будзе ўрадлівым на публікацыю перакладаў яго паэзіі на іншыя мовы?.. Наўрад ці.

Але ж давайце крыху паразважаем. Давайце адкінем убок размовы пра тое, што парушыліся сувязі, знішчаны колішнія масты дружбы, братэрства літаратур. Яно, магчыма, і так. Але вось ужо трэцяе дзесяцігоддзе Беларусь заяўляе пра сябе як самастойная, суверэнная дзяржава. Дыпламатычным стасункам Рэспублікі Беларусь з цэлым шэрагам краін сёлета спаўняецца 15 — 20 гадоў. Нашмат прасцейшымі сталі паездкі — турыстычныя, дзелавыя — у самыя далёкія ад нас краіны. Што ўжо казаць пра інтэрнэт-прастору, новыя магчымасці імгненных электронных стасункаў. Апошняя акалічнасць ужо актыўна прымаецца да ўвагі і беларускімі пісьменнікамі. Канечне, у большай ступені — з пакалення маладзейшых.

Але ж размова пра класікаў, пра іх далейшую дарогу ў свет іншых мастацкіх культур. Напісанае Коласам, Купалам, Багдановічам, Куляшовым, Танкам, Быкавым, Шамякіным, Мележам — хіба гэта і сёння не прадмет нацыянальнага гонару?! На мой погляд, мы ў стане прапагандаваць беларускую літаратуру ў свеце. Патрэбны толькі жаданне і сістэмная праца. Ужо не адзін год, пачынаючы з 2007, Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь у Дзень беларускага пісьменства ладзіць "круглыя сталы" з удзелам літаратараў розных краін свету. За гэты час у Мінску і іншых гарадах Беларусі пабывалі пісьменнікі з Расіі, Сербіі, Балгарыі, Чарнагорыі, Польшчы, Казахстана, Украіны, Таджыкістана, Літвы, Босніі і Герцагавіны... Склаліся пэўныя стасункі. Пачалі актыўней друкавацца ў замежжы сучасныя беларускія аўтары. Відавочна, мерапрыемствы такога кшталту трэба праводзіць і ў звязку з юбілейнымі датамі. Таму лагічна задацца наступнымі пытаннямі. А ці запрошаны будуць замежныя літаратары на ўрачыстасці ў знак 130-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа і Янкі Купалы, 100-годдзя Максіма Танка?

Некалі ўражлівай падзеяй стала выданне кнігі аднаго верша Янкі Купалы "А хто там ідзе?" на розных мовах свету. Ці планецца штосьці падобнае? Выдатна, што Беларускі фонд культуры ажыццявіў выданне "Дзікага палявання караля Стаха" Уладзіміра Караткевіча на чатырох мовах. Значыць, ёсць магчымасць, ёсць досвед і ёсць патэнцыял працы ў гэтым кірунку. Варта толькі пашырыць усё гэта, развіць, надаць сур'ёзную ўвагу. А мо ў тых ці іншых клопатах, ініцыятывах варта аб'ядноўвацца розным грамадскім, дзяржаўным і навуковым інстытутам?.. Важна, безумоўна, каб у стасунках з тымі ці іншымі літаратурамі былі генератары, свайго роду актывісты. Як, дарэчы, у Беларусі, так і ў замежжы. Выбітны прыклад — руплівасць доктара філалагічных навук, прафесара БДУ Івана Чароты. Ён не толькі на беларускую перакладае паэзію і прозу літаратур народаў былой Югаславіі, але і робіць адваротныя пераклады — з беларускай на сербскую, чарнагорскую. Між іншым, і выхаванец беларускага літаратурнага асяроддзя — перакладчык беларускай прозы на нямецкую мову Уладзімір Чапега. Такіх энтузіястаў знайсці няпроста. Яны самі прыходзяць у свет мастацтва.

Але варта шукаць апірышча на глебе іншамоўных літаратур. Хіба не змаглі б гэтаму паспрыяць нашы дыпламатычныя місіі ў іншых краінах? Няўжо культура, літаратура не павінна быць гэткім жа стратэгічным кірункам у іх рабоце, як і знешнеэканамічныя, гандлёвыя адносіны?.. Хаця б дзеля таго, каб нагадаць свету, што мы ёсць, што мы нечага вартыя, што наша мастацкае слова можа быць роўным у стасунках з іншымі нацыянальнымі літаратурамі.

Так, складана прыйсці ў краіны Азіі, Афрыкі, не ведаючы мьянмскай, тайскай, в'етнамскай, малагасійскай, лаоскай, інданезійскай (у Інданезіі жыве 231 мільён чалавек, і там працуе беларускае пасольства!), бенгальскай, пушту, дары... Але і ў далёкіх краінах ведаюць калі не знаёмую нам рускую, то хаця б англійскую, французскую, партугальскую, іспанскую мовы. Масты братэрства з суседзямі — гэта добра. І іх варта ўсталёўваць і ўмацоўваць. Масты для паразумення з усім светам, уваходжання ў прастору іншых цывілізацый — відавочна, не меншая патрэба часу. І ніякімі адгаворкамі кшталту "а ці цікавая наша літаратура народу самой Беларусі", тут, пэўна, мы не апраўдаемся. Дарогі трэба выбудоўваць у розных кірунках. Адзін з іх — засваенне сусветнай мастацкай прасторы. Усе магчымасці ў беларускага слова для гэтага ёсць.

# Захоплены жыццём

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).

І тут паўстае яшчэ адна спроба спалучыць гарадскую і вясковую свядомасць. Увогуле, дыялог паміж гэтымі сусветамі вядзецца ў літаратуры працяглы час. Напрыклад, для Мацея Бурачка (Ф. Багушэвіч "Дудка беларуская") горад уяўляўся зусім чужой і незразумелай стыхіяй, а для лірычнага героя М. Багдановіча вясковыя краявіды былі падставай для рэфлексій, успамінаў, асацыяцый. У горад, праўда, па розных прычынах, ад меркантыльных да высокіх, імкнуліся героі Л. Калюгі і М. Гарэцкага.

А вось у Міхася Стральцова людзі з вясковымі каранямі ўжо абжыліся ў горадзе, завялі маёмасць, сяброў, суседзяў, патрапілі ў гарадскі рытм жыцця — словам, знешне сталі гараджанамі. Але ж іх генетычная памяць належыць вёсцы, яе ўкладу, сялянскай працы, якая падпарадкоўваецца перш за ўсё прыродзе і таму розная ў кожны сезон, а не аднастайная, як у горадзе. Здаецца, Віктар і Ігнат больш арганічна адчуваюць сябе а чацвёртай гадзіне раніцы, калі няма яшчэ машын і людзей, што ствараюць такую дарэмную мітусню. "Недзе за горадам узыходзіла сонца. Яно не адзывалася яшчэ ў горадзе, але я ведаў: сонца ўзыходзіла" ("Сена на асфальце"). Раптам Віктар разумее, што для ўсіх штодзень узыходзіць адно і тое ж сонца, што родны пах сена можна адчуць і сярод каменных гмахаў, што, зрэшты, існуе найвышэйшая сусветная гармонія, якая дазваляе стварэць самога сябе, а не проста блукаць паміж рознымі вымярэннямі, вырашаючы, дзе б ты быў больш шчаслівым. Мастацкім адкрыццём М. Стральцова стаў вобраз урбанізаванага селяніна, створаны з глыбокім веданнем псіхалогіі чалавечай натуры і пададзены праз ёмкую супярэчлівую формулу "сена на асфальце". Асаблівасць героя гэтага тыпу ў тым, што ён можа ахвяраваць спрадвечнай спрэчкай паміж горадам і вёскай на карысць гармоніі душы, самарэалізацыі, пошуку рэзерваў і адкрыццяў у самім сабе, перажываючы сваё другое нараджэнне.

Да творчых здабыткаў Міхася Стральцова адносіцца і ўменне спалучаць формы класічнай навелы з нечаканым зместам, з сюжэтам, які проста не мае класіфікацыі. Менавіта да такіх твораў належыць апавяданне "Смаленне вепрука". Дакладней кажучы, гэта апавяданне пра ненапісанае апавяданне, пра тое, што магло б здзейсніцца, адбыцца, калі б гэты тэкст не быў "эпітафіяй", як вызначае сам Стральцоў. Увогуле, цікава тое, што тут і героем, і ахвярай адначасова з'яўляецца вяпрук. Чаму не іншая якая жывёла? Што за эстэтыка ў апісанні гэтага брудная тага, тлустага парсючка? Але ж менавіта гэты вобраз прымушае ўзгадаць пра лёс і наканаванне. Любы можа быць гаспадаром свайго лёсу, які можна змяніць, палепшыць. Наканаванне ж — тое, што адбудзецца, яго пазбегнуць немагчыма. А вяпрук якраз і ёсць жывёла, якую гадуюць, каб забіць.

Такім чынам, жыццё ўвогуле становіцца ілюзорным, умоўным, што нагадвае эстэтыку тэатра абсурду. І яшчэ адна акалічнасць звяртае на сябе ўвагу: адноснасць прасторы і часу. Прастора паўстае перад чытачом то як акрэсленая, напоўненая асобамі і дзеяннямі, то як канстанта, каштоўная сама па сабе. Час таксама ўмоўны. Той, хто ўсведамляе пачатак і канец, бачыць хуткаплыннасць і логіку часу. Для падсвядомасці і Сусвету час вымяраецца па-іншаму. "Ёсць, на жаль, рэчы, непадуладныя нам, але ж ёсць і суцяшэнне, ёсць і надзея" ("Смаленне вепрука"). Навела ўражвае асаблівасцю кампазіцыі і стылю, знаходзіцца на мяжы выкшталцонай прастасці, шчырасці і нявыказанасці падсвядомага. Тут адбываецца персаніфікацыя інтуіцыі. Яна становіцца ледзь не галоўным героем, дапамагаючы астатнім персанажам сустрэцца з сабою па-за межамі звыклых спраў, акрэсленай прасторы і абмежаванага часу.

Яшчэ адзін загадкавы, таямнічы і негаварскі персанаж твораў М. Стральцова — каханне. Мы ўзіраемся ў прыхаванасць пачуццёвай плыні, далікатнасць, недэманстраўнасць паводзін закаханых. Але каханне — адначасова і абавязковая ўмова чалавечага жыцця, і ўзнагарода, што дастаецца толькі таму, хто здолее яе ацаніць. Каханне можа прысутнічаць у выглядзе ўспаміну і надзеі. Напрыклад, малады настаўнік Сцяпан ("Дома") знаходзіцца паміж успамінамі пра былое першае пачуццё і чаканнем новага, якога яшчэ няма, яно нагадвае міраж. І тады, прыпадаючы да ўяўнай крыніцы, герой адчувае прыкрасць самападману. Так адбываецца з Міколам ("Восеньскі ўспамін"), які, паддаўшыся мімалётнаму жаданню, падмануў дзявочыя спадзяванні. Каханне можа прысутнічаць і дзейнічаць як незалежная ад абставін субстанцыя, адночы створаная Ім і Ёй. Гісторыя Васіля і Марыны ("Двое ў лесе") пераканаўча сведчыць прасамакаштоўнасць сапраўднага пачуцця, пра ягоную вялікую сілу, якая дазваляе закаханым быць побач заўсёды, нават калі іх разлучае лёс. А часам каханне дапамагае чалавеку зразумець, хто ён ёсць, як хоча пабудаваць сваё жыццё, дапамагае знайсці сябе, адшукаўшы сваю палавінку. Такі лёс чакае Яўгена ("Свет Іванавіч, былы донжуан"), які раптам адчуў сябе шчаслівым пасля аднаго, але затое таго самага важнага начнога тэлефоннага званка.

Увогуле, уражвае паліфанічнасць тэм, сюжэтаў, жанраў, у якіх праявіў сябе Міхась Стральцоў. Літаратурная крытыка ў ягоным выкананні — паўнавартасны самакаштоўны мастацкі тэкст. У аповесці-эсэ "Загадка Багдановіча" відавочна, што пісьменнік імкнецца да суразмоўя з Багдановічам, каб зазірнуць у сябе, пераасэнсаваць даўно знаёмае, удыхнуць жыццё ў блізкі яму вобраз. Мы бачым і высока ацэньваем уменне Міхася Стральцова быць далікатным і ўважлівым, шчырым і асцярожным у дачыненні да лёсу Максіма Багдановіча.

Завяршаючы гэтыя разваг, хацелася б асобна сказаць пра актуальнасць творчасці пісьменніка, якая выразна адчуваецца ў наш хуткаплынны і прагматычны час. Міхась Стральцоў, з'яўляючыся сапраўдным арыстакратам духу, умеў радавацца жыццю, дзівіцца ягонай разнастайнасці, заўважаць прыгажосць Сусвету. І ні ў жыцці, ні ў літаратуры Міхасю Стральцову не трэба было спаборнічаць, каб атрымаць ці перамагчы. Куды спяшацца чалавеку, чый жыццёвы і прафесійны талент заўсёды пры ім? "Любуючыся цудоўным, я жыў, як хацеў", — напісаў аднойчы ў XVI стагоддзі Басё. Мы не перастаём захапляцца асобамі, якія ва ўсе часы былі здольныя спасцігнуць праявы і законы жыцця ва ўсёй яго рознабаковасці, зменлівасці, гармоніі, супярэчнасці, схаваным і відавочным харастве.

**Аднойчы прачытаў у "ЛіМе" публікацыю, якая навяла мяне на палемічны роздум і падштурхнула падзяліцца ўласнымі развагамі наконт таго, пра што пісаў аўтар. Я маю на ўвазе эсэ Сяргея Грышкевіча "Аб'ём і якасць", у якім граміліся "шматтомныя сачыніцелі", якія не ўмелі ўвасобіць "любую грандыёзную ідэю на абмежаванай папяровай плошчы", а таксама прарочылася забыццё стваральнікам буйных твораў "з прэтэнзіяй на эпахальнасць".**

# Кожны піша, як ён чуе, або «Вэб руліць»!

Ягор КОНЕЎ

Вядома, я не маю намеру пераконваць шаноўнага аўтара ў адваротным. Паводле ўласнага вопыту ведаю, што нават калі скарыстаеш у час размовы пераканаўчыя аргументы, пераможаны суразмоўца будзе адчуваць сябе прыніжаным і ганьбы сваёй не забудзе. Таму звычайна я імкнуся пазбягаць спрэчак. Аднак калі аўтар агучвае тое, пра што, як кажуць, у самога "баліць", то адмаўчацца часам немагчыма.

Гадоў дваццаць таму я шмат у чым пагадзіўся б з Сяргеем Грышкевічам. У часы студэнцтва як сумленны вучань я прачытаў амаль усе прыгаданыя ім у эсэ трылогіі, тэтралогіі і пенталогіі. Памятаю, што калі проза Чыгрынава, Заля і Адамчыка засвойвалася даволі лёгка, то ад Шолахава, Шамякіна і Мележа ціха ўздыхаў, падлічваў колькасць старонак да фіналу і марыў, каб галоўных герояў хутчэй пазабівалі. Засмучала тое, што класікі зусім не дбалі наконт стварэння непрадказальнай інтрыгі або нечаканых паваротаў сюжэта. Таму хоць і разумеў, што ўзбагачаюся інтэлектуальна, аднак занятак той мне падаваўся нудным. Вядома, аніякім пернікам не змусіць мяне іх перачытаць.

У тую часіну, як і Сяргею Грышкевічу цяпер, мне падавалася, што найлепшы па аб'ёме твор — той, які можна прачытаць адным захадам. Не дзіва, што і сам гадоў да трыццаці ствараў пераважна апавяданні — больш як паўсотні былі апублікаваныя на старонках "Маладосці", "Першацвета", "ЛіМа" і "Чырвонай змены". А ў дваццаць дзевяць гадоў зацікавілі мяне постаці знакамітых суайчыннікаў — першага летапісна вядомага менскага князя Глеба і героя двух кантынентаў Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі. Цяпер ужо сам са смехам згадваю, што першапачаткова хацеў пра лёс кожнага з іх напісаць апавяданне. Але толькі паглыбіўся ў вывучэнне гістарычнага матэрыялу, як абрынулася на мяне процьма цікавых звестак, звязаных з гэтымі персанажамі. І чым болей даведваўся пра жыццё героя, тым больш адкрывалася новых якасцей яго натуры, якія праяўляліся ў анекдатычных або (часцей!) трагічных здарэннях. І атрымлівалася, што каб персанаж выклікаў хоць нейкую сімпатыю, а яго ўчынкі падаваліся пераканаўчымі, каб сюжэтныя перыпетыі спараджалі цікавасць, трэба пісаць раздзел за раздзелам. Такім чынам аб'ём аказваўся непасрэдна звязаны з якасцю.

У выніку так склалася, што замест апавядання пра Глеба Менскага ў мяне атрымалася аповесць, прысвечаная яго юначым гадам і апублікаваная ў "Маладосці" ў 2005 годзе, а замест навелы пра Касцюшку — чатыры аповесці, якія ахоплівалі перыяд яго жыцця ў 1775 — 1788 гадах і публікаваліся ў "Полымі" ў 2003 — 2009 гадах. І пакуль, як мне здаецца, мой расповед далёкі да завяршэння, бо залез я ў рэаліі XI і XVIII стагоддзяў па самыя вушы і знайшоў там столькі цікавага, што сорамна будзе не распавесці пра гэта чытачам. Таму я не магу пагадзіцца з думкай шаноўнага Сяргея Грышкевіча, нібыта ўвасабленне грандыёзнай ідэі на абмежаванай плошчы — амаль што праява сапраўднага таленту. Усё залежыць ад таго, якія задачы ставіць перад сабой літаратар. З цягам часу і набытага вопыту разумееш, што некаторыя гісторыі лепей распавядаць з працягам.

Яскравы прыклад апошняга дзесяцігоддзя ў нашай літаратуры — Уладзімір Гніламёдаў, які з часоў публікацыі "Уліса з Прускі" друкуе раман за раманам сваёй "заходнебеларускай адысеі".

Паўныя аналогіі маюцца і за мяжой.

"Патэрыяна" 1997 — 2007 гадоў аказалася б немагчымай, калі б Джоан Роўлінг апісала прыгоды сіраты-чараўніка на сямі старонках. (Прыблізна столькі займае дэталёвы пераказ сагі пра Гары Потэра.) Аднак пісьменніца, так бы мовіць, "развяла" сюжэт на сем раманаў — і цяпер мільёны дзяцей у свеце не саромеюцца насіць акуляры, паколькі ўспрымаюць іх як сімвал розуму і адвагі.

Аналагічны ажыятаж назіраецца вакол сагі Джорджа Марціна "Песня ільду і полымя", якая складаецца з сямі тысяч старонак і пакуль нават не завершаная. Аднак жа гэтая сумесь гатычнай жорсткасці, распусты і непрадказальных паваротаў сюжэта чытаецца адным захадам, паколькі сярод шматлікіх персанажаў абавязкова знаходзіцца той, з якім сябе атаясамліваеш і перажываеш за яго лёс. (Для мяне, напрыклад, такім героем стаўся Цырыён Ланістэр.) Іншыя творы Марціна — шмат гадоў ён пісаў фантастычныя раманы з элементамі жахаў — магчыма, чыталіся б куды лягчэй, калі б ён скараціў іх да жанру аповесці. Аднак у "Песні ільду і полымя" знойдзена тая ўдалая аўтарская інтанацыя, якая тым мацней прываблівае вашу ўвагу, чым даўжэй адбываецца дзеянне твора, чым дакладней прапісаныя малагераічныя і ад таго праўдападобныя характары персанажаў. Творы Марціна чарговы раз пацвердзілі тое, пра што сведчыць гісторыя масавай літаратуры: найбольш камерцыйна прыбытковым з'яўляецца жанр не апавядання і не аповесці, але рамана або цыкла раманаў. (Сюды можна далучыць таксама дэтэктывы, "вампірскія" сагі, фэнтазі і інш.).



Для нашай літаратурнай суполкі такія аналогіі могуць падацца неадэкватнымі. Калі ўлічыць абмежаваную папяровую прастору айчынных літаратурна-мастацкіх выданняў і колькасць рэальных чытачоў ва ўсёй Беларусі (як мне падаецца, каля дзвюх-трох тысяч), то наіўна чакаць, быццам нехта з нашых пісьменнікаў здабудзе гэтакі ж поспех, як Роўлінг або Марцін. З гэтага пункту гледжання Сяргей Грышкевіч, безумоўна, мае рацыю — "шматтомны жанр" у нас немэтазгодны. Аднак такая ацэнка слушная, верагодна, для бліжэйшага часу. Што тычыцца крыху аддаленай перспектывы, то тут маюцца падставы для асцярожнага аптымізму.

Цяпер хіба што самы закаранелы кансерватар не заўважае, як друкаванае слова перацякае з папяровай прасторы ў віртуальную. Мае студэнты ў Інстытуце журналістыкі на семінарах апісваюць гэты працэс досыць лаканічна і ёмiста: "Вэб руліць!" Гэтая тэндэнцыя відавочна нават на ўступных іспытах. Сёлета на спецыяльнасць "Друкаваныя СМІ" конкурс складаў меней як два чалавекі на бюджэтнае месца, а на "Вэб–журналістыку" — ледзь не тры з паловай.

Вынікі шматлікіх даследаванняў у Еўрасаюзе ды краінах СНД сведчаць, што за апошнія дзесяць гадоў колькасць чытачоў газет, часопісаў і кніжак скарацілася ўдвая. Затое колькасць карыстальнікаў сеткавых бібліятэк узрасла амаль у чатыры разы, прычым пераважна за кошт моладзевай аўдыторыі. Падлеткі, якіх ані бацькі, ані школа не маглі прыахвоціць да чытання кніжак, "пампуюць" і "глытаюць" творы, якія маюць высокія рэйтынгі на форумах або ўхваленыя ў нечых блогах. Такім чынам, літаратуру чытаюць не менш. Меней чытаюць папяровую літаратуру.

Гэты працэс шмат каму не даспадобы. Цяжка і падлічыць, колькі ўжо чуў я нараканняў на тое, што інтэрнэт — гэта ўсяго толькі збор бязглуздзіцы і парнаграфіі. Гучалі яны пераважна з вуснаў людзей сталага ўзросту. У суцяшэнне ім я звычайна кажу, што і рэальная літаратура захавае хоць невялікае, але трывалае кола сапраўдных аматараў. Кніжкі ў вокладках нікуды не знікнуць, як не зніклі, хоць шмат хто і прарочыў, газеты і часопісы пасля вынаходніцтва радыё і тэлебачання.

Аналагічныя працэсы другое дзесяцігоддзе запар назіраюцца і ў еўрапейскіх мас-медыя. Прыблізна пятнаццаць гадоў таму ў многіх тамтэйшых рэдакцыях газет і часопісаў ствараліся электронныя старонкі, якія мелі сваёй мэтаю прыцягнуць увагу карыстальнікаў глабальнай сеткі да "папяровага варыянта". Аднак колькасць падпісчыкаў практычна нідзе не павялічылася. Тады электронныя старонкі пакрысе трансфармавалі ў электронныя версіі. Колькасць супрацоўнікаў рэдакцый, якія абслугоўвалі "папяровую" версію выдання, скарачалася за кошт сыходу на пенсію, а штат электроннай версіі павялічваўся за кошт студэнтаў-выпускнікоў. Эканамічны эфект ад такога наваўвядзення стаўся відавочным недзе гадоў праз пяць-сем. "Віртуальная" аўдыторыя выданняў стала значна пераўзыходзіць рэальную. Падпіску такія чытачы звычайна не афармляюць, аднак прыбытак рэдакцый склалі паступленні ад рэкламы, якая магутнай хваляй перацякала з традыцыйных СМІ ў электронныя. У найбольшым выйгрышы аказаліся тыя ўладальнікі мас-медыя, якія раней за канкурэнтаў не ігнаравалі, а засвойвалі вэб-прастору.

Цяпер цяжкавата верыцца, што "карміцца" нашыя выданні будуць збольшага за кошт віртуальнай рэкламы, а не дзяржаўных датацый. Аднак ці шмат хто з нас верыў дваццаць гадоў таму, што персанальным камп'ютарам і шырокапалосным інтэрнэтам стануць карыстацца ўсе адукаваныя беларусы? Каб ведаць, у якіх умовах будзем з цягам часу жыць, дастаткова ўважлівей прыглядзецца да суседзяў на захадзе.

Гэтак жа мала хто ў Еўрасаюзе яшчэ нядаўна дапускаў, што гандаль электроннымі кнігамі стане выгаднай справай. Але цяпер пакупнік атрымлівае не толькі тэкст, які мог бы "спампаваць" з нейкай "халяўнай" вэб-бібліятэкі, аднак і шмат дадатковых бонусаў. Тым не менш, большасць парталаў па-ранейшаму дае бясплатны доступ карыстальнікам да тэкстаў папулярных кніжак, суправаджаючы яго знаёмствам з навязлівай электроннай рэкламай.

Такім чынам, менавіта ў магчымасцях "вэбу" я бачу перспектывы для далейшага развіцця беларускай раманістыкі. Кожны піша, на маю думку, як умее. Такія аўтары, як Андрэй Федарэнка або Адам Глобус, дэманструюць свой талент у жанры апавядання. А вось Анатоль Казлоў, як мне падаецца, болей утульна адчувае сябе ў межах аповесці, Леанід Левановіч — у межах рамана і г.д.

Мне могуць запярэчыць, што для напісання раманаў і трылогій цяпер неспрыяльны час. А калі час наогул быў надта спрыяльны для творчасці? Усё роўна ніхто не перашкодзіць пісьменніку напісаць раман ці два ды паклапаціцца пра яго займальны сюжэт і мастацкую вартасць — няхай і з разлікам на перспектывы.

## Рэдактарскае

# Як схаваць?

Андрэй ФЕДАРЭНКА



Вядомы крытык, літаратуразнаўца, выкладчыца Лада Алейнік у сваім блогу **http://ladaaleinik.livejournal.com** падняла цікавую, хоць і, на жаль, вечную ў літаратуры тэму — плагіятарства.

Адна 15-гадовая дзяўчынка піша такія апавяданні, што імі зачытваецца ўся школа. Настаўніца запытала ў спадарыні Лады, ці не можна пару твораў вучаніцы надрукаваць у якім-небудзь часопісе.

"Я параіла занесці іх у "Маладосць". Але настаўніца вельмі прасіла, каб найперш я сама пачытала. Карацей кажучы, неўзабаве атрымала я раздрукоўкі. Пяць апавяданняў — паводле меркавання калегі, лепшых".

Лада Віктараўна пачала чытаць і ўспомніла, што ўжо сустракала гэтыя сюжэты — ажно чвэрць веку таму — у часопісе "Парус". Яна вырашыла сустрэцца з 15-гадовай пісьменніцай.

"Дзяўчынка не толькі не засаромелася, — піша Лада Віктараўна, — калі я патлумачыла, што мне вядомыя сюжэты яе твораў, а нават абурылася. Кажа: "Ну і што? Цяпер усе так робяць! Вы хіба ніколі не чулі пра рэмейк?! Так, я чытала гэтыя творы, але ж у мяне сюжэты істотна адрозніваюцца. Героі іншыя — і па імёнах, і па ўзросце, і па сацыяльных статусах. І месцы дзеяння іншыя, і шмат якія эпізоды, перыпетыі... І ўвогуле, творы, пра якія вы гаворыце, друкаваліся на рускай мове, а ў мяне — па-беларуску. Па-беларуску ўсё гучыць зусім не так. Я нават вырашыла, што надрукую цыкл сваіх апавяданняў пад агульнай назвай "Чужыя гісторыі". Гэта будзе двухсэнсоўна. З аднаго боку — быццам гісторыі, якія адбыліся "не са мной". А з другога — калі хто-небудзь "дакалупаецца" — патлумачу, што не прэтэндую на арыгінальнасць, што мае апавяданні — гэта рэмейк, гэта «чужыя гісторыі, расказаныя па-новаму»".

Мне ў сувязі з гэтым згадваецца старая беларуская казка. Бацька з сынам укралі вала, зарэзалі і пачалі есці. Бацька есць спакойна, а сын як пачуе на двары крокі, дык хапае міску і бяжыць хавацца ў камору. Праз месяц памералі вяровачкамі шыі — у бацькі карак стаў удвая таўсцейшы, а ў сына ўдвая худзейшы. "Як жа так?" — дзівіцца сын. — "А так, — адказвае бацька. — Калі ты павёў вала, я цішком вярнуўся і заплаціў гаспадару. Вось і атрымалася, што я еў сваё, а ты крадзенае".

Адзін з герояў вядомай аповесці мудра заўважыў: "Украсці кожны можа, ды вось як схаваць? Вялікая зямля, а схаваць няма дзе".

Дзяўчынка можа падмануць аднога-двух рэдактараў, столькі ж крытыкаў і столькі ж, прыкладна, чытачоў. Але як пачынаць жыццё ў такой двухсэнсоўнасці? Гэта цяпер, у 15 гадоў, яна смелая. А потым — вечна трымцець у чаканні, што вось-вось усё выкрыецца, празвініць тэлефонны званок, выйдзе артыкул — і як ні круці, будзе няёмка, сорамна; кожнаму ж не патлумачыш, што гэта рэмейк, абавязкова застанецца на табе кляймо, як выпалена лілея на плячы ў лэдзі Вінтэр, і ўсе будуць паказваць пальцам і казаць: "А, гэта тая самая! Ці то ў яе ўкралі, ці то яна ўкрала, але лепш з ёю не звязвацца".

Табе, дзяўчынка, гэта трэба?



Юрка Голуб

## З кнігі «Аберуч»

* * *

*Узнікае папараць, як памяць,*
*І сябе па шыбах раздае.*
*Снег у жмені вечна растае*
*І сабою памяць не запляміць.*

*Палазы згубілі ўласны след.*
*Вецер круціць быльнікі ў рыштоку.*
*Завірухі белая паштоўка*
*Адлятае ў незваротны свет.*

*Каб надзеі з коскамі ўзгадніць,*
*Ранак заглядае ў дрэмны соннік.*
*Дзе ў снягах адстояўся сасоннік,*
*Мабыць, запыняюцца гады.*

*Не зайздросна жыць — як набяжыць.*
*Цешыш вока соснамі з жаўною.*
*І з табою нанава жывое*
*Пачынае, бы спачатку, жыць.*

## Сярод зімы

*Смакуюць святочны пірог.*
*А звон адубеў на званіцы.*
*За нораў уласны вініцца*
*Не ступіць мароз на парог.*

*І вечар сумёты намёў.*
*Завіслі пад інеем шыбы.*
*Вось, нібы нябесны, пад німбам,*
*З наўмыснае гурбы намёт.*

*Камель абкружылі з пілой,*
*Ды трасцу! — не дасца панадным.*
*Як рэха лясное балады,*
*Змяркае яе эпілог.*

*Прадвеснем на рэках у лёд*
*Заціснуць начынне сапёры.*
*Дрымотных на дне краснапёраў,*
*Відаць, не міне закалот.*

*А тут снегавік які стод.*
*Над студняй празрыстая пара.*
*Міраж: вунь бусліная пара…*
*…У белай апратцы палёт.*

## Дзянніца

*Ігліцу чытаць па складах*
*На сцежку кіруецца ранак.*
*Завесіла свет Каляда*
*Карункам вясковых фіранак.*

*А воддаль маністы злічыць*
*Спрабуе каліне лічыльнік.*
*А іх зажадаў залучыць*
*Мароз у пляцак за плячыма.*

*Хлапчук!*
*Аблавушку здымі*
*На стрэчу адчайнай дзянніцы.*
*Запісвае весткі зімы*
*У белы нататнік сініца.*

*Стаіць нерухома зеніт.*
*Падобна, за ноч знерухомеў.*
*Паслухай: дзянніца звініць!*
*Высока.*
*Марозна.*
*Харомна.*

* * *

*Снегу сухога ахапак*
*Сцюжа шпурнула ў вакно.*
*Здарыўся раптам віной*
*Снегу сухога ахапак.*
*Свету за ім не відно.*

*Шыба падобна на мапу.*
*Снегу сухога ахапак*
*Сцюжа шпурнула ў вакно.*

## Прагноз нанач

*Зноў снегіроў у багру*
*Размалявала*
*раскоша.*

*Шчодра латку на аканіцу*
*прыляпіла*
*рукавіца марозу.*

*А дым над комінам*
*летніка*
*стаў, як свечка.*

*Каб не размінуцца*
*з прагнозам*
*нанач.*

## Абразок

*На застаўленай жыццяпісам*
*паліцы*
*высах да дна*
*атрамант.*
*Зёлкі любчыку*
*асыпаліся на падлогу.*
*Стос лістоў*
*з маладосці*
*скруціла*
*шпагатам раматусу.*
*І толькі праменны смычок*
*даткліва кранае*
*струну павуцінкі.*



Фота Кастуся Дробава



Галіна Бабарыка

## Зімовы вечар

*Белай сінню, сіняй беллю*
*вечар долы ціха сцеле,*
*намалюе ён пастэллю*
*ў небе поўні яблык спелы.*
*Рытм хады чуваць далёка*
*ў тым паветры, чыстым, лёгкім:*
*снег гаворыць з кожным крокам*
*скрушным скрыпам кропак крохкіх.*
*Бела-сіні крочыць вечар,*
*час яму сысці за дзверы:*
*хутка нам атуліць плечы*
*ноч накідкай чорна-шэрай.*
*Зноў зіма сняжком цярушыць,*
*сыпле бель на лес і поле,*
*ды, на жаль, не беліць душы,*
*у якіх журбы ўсё болей.*

## Мяцеліца

*У белым раздоллі*
*Вятроў і снягоў*
*Усхліпваюць болем*
*Скрыпкі гаёў.*

*Лятучыя коні*
*Над кронамі дрэў,*
*У стылым прадонні*
*Мяцеліцы гнеў.*

*І гнеў, і жалоба…*
*Калючая рыць*
*Разгульвае побач —*
*Павек не разняць.*

*Змаганне да стомы…*
*Хутчэй бы ў сяло!*
*Хутчэй бы дадому!*
*Туды, дзе цяпло!*

*Святло і сутонне*
*Ў мірганні павек.*
*Ад белай пагоні*
*Ўцякаў чалавек.*

## Вясенняе

*У блакіце вясновым —*
*Брыганціны-аблокі,*
*Даспяваюць абновы*
*На галінах высокіх:*
*У пупышках — лістота*
*І ружовыя кветкі,*
*Іх вятрыска з пяшчотай*
*Абдымае нярэдка,*
*На паветраных хвалях*
*Сонца шле пацалункі,*
*Прыбярэцца да балю*
*Дрэва ў дзіва-карункі.*
*А пакуль пра абновы*
*Толькі марыць прырода,*
*У паветры вясновы*
*Разліваецца водар.*

* * *

*Высокае неба…*
*Далёкія зоры…*
*Адчую сябе*
*пад паглядам Сусвету*
*Маленькаю кропляй*
*бяскрайняга мора.*
*Высокае неба… Далёкія зоры…*
*Не вечна пад імі*
*ні шчасце, ні гора,*
*Ды толькі б усё*
*паўтаралася гэта:*
*Высокае неба…Далёкія зоры…*
*Унучка ўглядаецца*
*ў вочы Сусвету.*

* * *

*Здарожыўся дзень.*
*Надвячорак*
*Упаў на зямлю цішынёй.*
*Сусвет мірыядамі зорак*
*Расшыў парасон над зямлёй.*

*Усё, што за дзень пераэжыта*
*Пясчынкамі радасці, слёз,*
*Здаецца, не стала нябытам —*
*Лягло на прасторы нябёс.*

*Ляжаць каля праўды і веры*
*Крупінкі сумненняў, маны,*
*І здрады, і злосці без меры,*
*Дабра, што не мае цаны.*

*Світанак пастукае ў дзверы*
*З надзеяй,*
*што мудрасць нясе…*
*Асыплюцца зоркі…*
*І шэрасць*
*Атуліць зноў свет пакрысе.*



Іна Фралова

* * *

*Як па вокнах вясковых узоры*
*Размалюе мароз малады,*
*Як узыдуць калядныя зоры,*
*Мы спаткаемся, дружа, тады.*

*Мы спаткаемся, дружа, з табою,*
*Адагрэцца пяшчотаю слоў!*
*Да твайго я пляча галавою*
*Прыхінуся шчаслівa ізноў.*

*Будзе радасцю звонкай спавіта*
*Гэта стрэча. І зорка, як знак,*
*Блаславення нябёсаў нібыта*
*На імгненне асвеятліць бальшак.*

*Як па вокнах вясковых узоры*
*Размалюе мароз малады,*
*Як узыдуць калядныя зоры,*
*Мы спаткаемся, дружа, тады.*

## Пра снег

*Не хапае дакладнасці выцертых слоў,*
*Ад няздольнасці душыць знямога.*
*І пад цяжкаю коўдрай буршытнавых сноў*
*Абрываецца ў заўтра дарога…*
*Не хачу забываць пра прывабнасць жыцця*
*І размах яго крылаў свабодны.*
*Я чакаю цябе, ратавальнік быцця —*
*Першы снег, малады і халодны.*

* * *

*Зранку котка трэцца каля ног,*
*Ні на крок мяне не адпускае.*
*Развітаемся, прысеўшы на парог,*
*Бо цягнік нікога не чакае.*
*Застануцца ў квецені сады*
*І лясоў сасновых доўгі шэраг.*
*Я вярнуся, котачка, сюды —*
*На свой белы ад туманаў бераг.*
*Я вярнуся да сваёй вясны,*
*Завітаю ў хату на світанні.*
*А пакуль аб Беларусі сны*
*Забяру з сабой у вандраванні.*

* * *

*Табе, каханне, прысвячаюць песні, —*
*Што будуць, ёсць ці некалі былі.*
*Як звон птушыны ў небе напрадвесні,*
*Цябе так апяваюць на зямлі.*

*Каханне, ты не скончышся ніколі,*
*Ты — радасць, агнявая маладосць!*
*Ты — доля залатая і нядоля,*
*Ты лепшае з таго, што ў свеце ёсць.*

*Дзівосны край, з салодкім пахам кветка*
*І вецер-буй — усё, каханне, ты!*
*З'яўляешся ў нядобры час нярэдка,*
*Але з табой бяда як паўбяды!*

*Табе, каханне, прысвячаюць песні, —*
*Што будуць, ёсць ці некалі былі.*
*Як звон птушыны ў небе напрадвесні,*
*Цябе так апяваюць на зямлі.*

* * *

*Мне б наталіць сябе зімовай цішынёй,*
*Са снегападам пералётным заблудзіцца,*
*Пакінуць горад з яго вечнай мітуснёй,*
*Ці ў рэшце рэшт пад брамамі напіцца.*
*Заплюшчыць вочы, непрытомна анямець.*
*Не чуць не бачыць анічога, ні халеры…*
*Туды схавацца, дзе і час цячэ ледзь-ледзь,*
*Каб tet-a-tet сустрэцца з вершам на паперы.*

* * *

*Шыпшынай ірдзелі лісты на таполі*
*У час, калі мы абяцалі кахаць*
*Навекі адзін аднаго. І ніколі*
*Пярсцёнак кляліся з рукі не знімаць.*
*А часам, бывала, жыццёвую просінь*
*Заносіла снегам, а потым і скронь.*
*Усё як раней! Толькі ў гэтую восень*
*Тваю больш пяшчотна сціскаю далонь.*
*Шыпшынай ірдзелі лісты на таполі…*

# Энцыклапедыі патрэбны свой твар

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ,
фота Анатоля Клешчука

**У рамках XIX Мінскай кніжнай выстаўкі-кірмашу прайшоў міжнародны "круглы стол" на тэму "Энцыклапедыя — пашпарт краіны. Задачы развіцця агульнай інфармацыйнай прасторы". Яго арганізатары — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" і рэдакцыя газеты "Звязда" пры падтрымцы Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Сустрэчу вялі Таццяна Бялова — дырэктар выдавецтва — і Алесь Карлюкевіч — галоўны рэдактар "Звязды".**

З прывітальным словам да ўдзельнікаў пасяджэння звярнулася першы намеснік міністра інфармацыі **Лілія Ананіч**. Яна падкрэсліла, што развіццё энцыклапедычнай літаратуры звязана з новымі тэхналогіямі і, найперш, — з электроннымі дадаткамі, якія дазволяць пашырыць прастору папяровай кнігі, павялічаць магчымасці карыстання інфармацыяй, дадуць ёй насычаны візуальны характар. І ў гэтай важнай справе неабходная дзяржаўная падтрымка.

Якой быць энцыклапедычнай кнізе? На гэтае пытанне шукалі адказы не толькі кіраўнікі і спецыялісты айчыннага энцыклапедычнага выдавецтва, беларускія навукоўцы, але і пісьменнікі, паліграфісты, менеджары больш як дзесяці краін. Слушных ды цікавых прапаноў было выказана нямала. Скажам, кіраўнік Цэнтра лацінаамерыканскіх даследаванняў імя Рамула Гальегаса **Роберт Эрнандэс Мантоя** распавёў пра энцыклапедычныя праекты, якія паяднаці намаганні некалькіх краін Баліварыйскага альянсу. Разам яны зрабілі электронную энцыклапедыю, дзе ўпершыню змешчаны звесткі пра гісторыю і культуру Венесуэлы, Кубы, Эквадора, Нікарагуа, Балівіі.

Пра стасункі з беларускімі выдаўцамі расказаў **Рымантас Карэцкас** з Літвы: "Якасць — галоўная адметнасць любой кнігі, у тым ліку і энцыклапедычнай. Значыць, патрэбны выдатныя майстры слова, гісторыкі, мастацтвазнаўцы. За іх плённую працу трэба і плаціць адпаведна. А нашы ганарары мізэрныя. Тым не менш мы шукаем цікавых аўтараў, для якіх важная не палітычная кан'юнктура, а дакладнасць, праўда". Літоўскі выдавецкі цэнтр падтрымлівае сваіх беларускіх калег у многіх пачынаннях, звязаных з выкладаннем супольнай гісторыі Беларусі і Літвы.

У выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" сапраўды ёсць чаму павучыцца. Па выніках мінулага года яго калектыў стаў пераможцам у Нацыянальным конкурсе "Мастацтва кнігі", за галоўны прыз у якім змагаліся 40 выдавецтваў. Узнагароду "Вялікі залаты фаліянт" у намінацыі "Трыумф" атрымала кніга "Дзмітрый Струкаў. Альбом малюнкаў 1864 — 1867". Акрамя гэтага, выдавецтва было прызнана лепшым у намінацыях "Эўрыка" і "Залатыя скрыжалі". У вытворчасці знаходзіцца кніга серыі "Сучаснае беларускае мастацтва. XXI стагоддзе". Яе асаблівасць — цеснае супрацоўніцтва з творчымі саюзамі Беларусі, актыўны ўдзел мастакоў, скульптараў, майстроў народнай творчасці ў рабоце над выданнем. Сёлета запланаваны выхад альбомаў "Сучасная беларуская скульптура" і "Сучаснае беларускае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва".




Акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі **Аляксандр Каваленя** падкрэсліў важкі ўнёсак выдавецтва ў развіццё беларускай гістарыяграфіі: "Наперадзе нас чакае шмат спраў, у тым ліку з замежнымі выдавецтвамі. У беларускіх акадэмічных навукова-даследчых і галіновых інстытутах сабраныя ўнікальныя архіўныя матэрыялы пра ранняе Сярэднявечча, перыяд Вялікай Айчыннай вайны, якія можна скарыстаць энцыклапедыстам не толькі Расіі, але і краін СНД, Еўропы. Нас, навукоўцаў, хвалюе адсутнасць у друку глыбокіх рэцэнзій, аналітыкі энцыклапедычных выданняў. Магчыма, таму ў кнігі часам трапляюць недакладнасці, недарэчнасці. Трэба сур'ёзна, аб'ектыўна і тактоўна даваць ацэнкі кожнай кнізе, альбому, слоўніку".

Вельмі слушным падалося выступленне дырэктара Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі **Аляксандра Лукашанца**, які адзначыў: "Калі энцыклапедыя — пашпарт краіны, то яна абавязкова павінна мець свой твар, у тым ліку і моўнае афармленне. Кнігі пра Беларусь (няважна, на якіх нясьбітах) усё ж трэба выдаваць на роднай мове, а ўжо пасля — на іншых. Гэта адпавядае ўсім прававым нормам нашай дзяржавы".

З такой прапановай цалкам пагадзіўся генеральны дырэктар выдавецкага дома "Антарэс" Армен Марцірасян з Арменіі: "З культурай Беларусі я пазнаёміўся з факсімільнага выдання "Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII — XIX стагоддзяў". І ўсё зразумеў без перакладчыкаў. За якой кнігай будучыня? Друкаванай ці электроннай? Думаецца, што ўсе яны маюць права на жыццё. Канечне, трэба ствараць і электронныя версіі, бо іх працай набыць, абнаўляць, нарошчваць аб'ём".

Вырашыць складаныя задачы, якія дыктуе выдаўцам час, нельга без узаемадзеяння, творчых сустрэч і пошукаў. Таму, на думку ўдзельнікаў "круглага стала", варта стварыць міжнародны саюз (таварыства, супольнасць) энцыклапедыстаў і цэнтрам яго выбраць Мінск. А навуковец **Надыр Маммадлі** (Азербайджан) дадаў: "Я хоць і не энцыклапедыст, але з задавальненнем буду працаваць у такой арганізацыі".

Сустрэча, без перабольшвання, была цікавай і змястоўнай. Сваімі меркаваннямі пра праблемы выдання і распаўсюджання энцыклапедычнай і даведачнай літаратуры падзяліліся таксама намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Наш современник" **Аляксандр Казінцаў** (Масква), загадчык аддзела рэдкіх кніг Расійскай нацыянальнай бібліятэкі **Мікалай Нікалаеў** (Санкт-Пецярбург), пісьменнік і перакладчык **Ато Хамдам** (Таджыкістан), дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы НАН Беларусі **Аляксандр Лакотка**, дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі **Вячаслаў Даніловіч**, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі **Раман Матульскі**, дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь **Уладзімір Адамушка**, кіраўнікі і галоўныя спецыялісты выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і іншыя.

***На здымку: размова за "круглым сталом".***

## Прэзентацыя

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# «Край не згінуў...»

**На Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы адбылася прэзентацыя даследавання "Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI ст.", якое выйшла ў выдавецтве "Беларуская навука".**

Увазе чытачоў быў прапанаваны першы том даследавання, які распавядае пра падзеі канца XVIII — пачатку XX стагоддзя. Як сцвярджаюць аўтары выдання, "упершыню ў беларускай гістарыяграфіі раскрыты гістарычныя перадумовы і заканамернасці працэсу нацыянальнага самавызначэння беларускага народа; адлюстраваны шлях ад узнікнення ідэі дзяржаўнасці да фарміравання нацыянальнага самавызначэння; раскрыты шлях ад выспявання ідэі дзяржаўнасці і станаўлення нацыянальнага руху ў перыяд, калі беларуская зямля знаходзілася ў складзе Расійскай імперыі".

Зразумела, у кагосьці з аматараў гісторыі могуць узнікнуць сумненні: а ці была дзяржаўнасць у беларусаў на той час? Як вядома, тады тэрыторыя Беларусі ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі. Як лічыць акадэмік НАН Беларусі Міхаіл Касцюк, ідэя пра неабходнасць аднаўлення дзяржаўнасці была і тады. Найбольш дасведчаная частка грамадства памятала пра існаванне Полацкага і Турава-Пінскага княстваў, Вялікага Княства Літоўскага. Выходзілі газеты "Гоман" і "Наша ніва", якія абуджалі гістарычную свядомасць беларусаў. Таму для беларусаў XIX стагоддзе і сёння застаецца надзвычай актуальным перыядам. На думку М. Касцюка, даследаванне напісана з сучасных метадалагічных пазіцый: праблема разглядаецца ў прасторы і часе. У пэўнай ступені беларускія навукоўцы працягваюць свае даследаванні, часткова ўжо прадстаўленыя ў чацвёртым томе 6-томнай "Гісторыі Беларусі".

Кандыдат гістарычных навук Андрэй Унучак нагадаў, што выданне пабачыла свет у апошнія дні 2011 года. Між тым, у мінулым годзе споўнілася 20 гадоў з часу атрымання Беларуссю незалежнасці. Як мяркуе А.Унучак, пачатак яе быў пакладзены менавіта ў XIX стагоддзі, калі наша Радзіма пакутліва вызначала свой шлях: ад ідэі аўтаноміі да незалежнасці, ад думак пра неабходнасць аднаўлення ВКЛ да БССР. Даследчык ахарактарызаваў час, разгляду якога прысвечаны том, словамі Якуба Коласа. Класік беларускай літаратуры пісаў у першай рэдакцыі паэмы "Сымон-музыка": "Край не згінуў, не пагнуўся яго стан". Сёлета чытачоў чакае другі том, прысвечаны падзеям XX — пачатку XXI стагоддзя.



*Паралелі*

# Вялікая ўдача «Правілаў»

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Аляксандра Круглякова

**Сярод шматлікіх гасцей XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу была папулярная амерыканская пісьменніца Сінція Лорд. Падчас форуму адбылася прэзентацыя рускамоўнага перакладу яе кнігі "Правила. Не снимай штаны в аквариуме" (Москва: МД Медиа, 2011), а на стэндзе ЗША прайшло некалькі аўтограф-сесій аўтаркі. Спадарыня Лорд з задавальненнем адказала і на пытанні нашага карэспандэнта.**

**— Кніга мае досыць дзіўную назву. Вы такім чынам хацелі прыцягнуць увагу чытача?**

— Справа ў тым, што гэтую назву выбрала расійскае выдавецтва, таму пытанне хутчэй да іх (*усміхаецца*). Назва рускамоўнага перакладу ўтворана з двух правілаў, якія піша Кэтрын, галоўная гераіня кнігі, для свайго брата Дэвіда, хворага на аўтызм. Адно з правілаў — "Не кідай цацкі ў акварыум", бо брат часта гэта робіць, другое — "Не здымай штаны ў грамадскіх месцах", таму што часам ён нечакана здымае штаны, калі яны становяцца вільготнымі, і гэта бянтэжыць Кэтрын. Расійскія выдаўцы ў назве рамана спалучылі гэтыя два правілы. У Злучаных Штатах кніга мае назву проста "Правілы".

**— Вам падабаецца новая назва?**

— Я была здзіўлена, калі яе пабачыла. Але думаю, што гэта смешна, і я ведаю шмат прыкладаў, калі назвы "працуюць" правільна — прымушаюць дзяцей узяць кнігу ў рукі, разгарнуць яе і паглядзець, пра што яна. Нягледзячы на маё здзіўленне, думаю, такая назва кнігі мае права на існаванне.

**— У кнізе распавядаецца пра жыццё сям'і, у якой выхоўваецца хлопчык з дыягназам аўтызм. Гэта нармальная тэма для дзіцячай кнігі ў ЗША? Таму што беларускія пісьменнікі стараюцца пазбягаць такіх складаных тэм у кнігах для дзяцей.**

— Так, у Амерыцы гэта абсалютна нармальна. У мяне двое дзяцей. Дачка і сын. І калі майму сыну было два гады, яму паставілі дыягназ аўтызм. У рамане шмат фактаў з майго ўласнага сямейнага досведу. Да таго ж, многія бацькі выхоўваюць хворых дзяцей, і я думаю, што пісаць пра гэта неабходна. Мне самой было важна напісаць пра сям'ю, такую, як мая, хоць гэта вельмі складана. Але ў той жа час цяжка рабіць выгляд, што праблем няма. І калі людзі пішуць пра такія рэчы, гэта дае іншым сем'ям, што апынуліся ў падобнай сітуацыі, магчымасць адчуць: яны не адны. Калі ваш брат ці сястра хворыя, гэта вельмі цяжкае выпрабаванне і вялікая адказнасць для сям'і.



**— Якой стала зваротная рэакцыя чытачоў на кнігу?**

— У Злучаных Штатах прададзены мільён асобнікаў "Правілаў". Кожны дзень я атрымліваю лісты па звычайнай і электроннай пошце ад тых, хто прачытаў кнігу, — гэта дзеці, сем'і, школы. За кнігу я атрымала дзесяць розных узнагарод, яна вельмі папулярная ў Штатах, перакладзена на дзесяць моў свету, у тым ліку на рускую.

**— Гэта ваша першая кніга?**

— Так. Але пасля я напісала яшчэ тры. Гэта працяг "Правілаў", які мае назву "Дакраніся да блакітнага" (*Touch Blue*), ён пабачыў свет у 2010 годзе. Кніга пра дзяўчынку, якая жыве на востраве ў штаце Мэн, у гэтым штаце жыву і я. Выйшлі з друку і дзве ілюстраваныя кнігі для дзяцей. Згодна з умовамі кантракта з выдавецтвам я напісала яшчэ дзве — раман і кнігу з малюнкамі, але яны пакуль знаходзяцца ў працэсе выдання.

**— На якога чытача арыентуецеся ў сваіх кнігах?**

— Для раманаў мэтавай групай з'яўляюцца дзеці ад 8 да 14 гадоў, а для кніг малюнкаў — дзеці ад 2 да 7 гадоў.

**— Чаму вы вырашылі стаць пісьменнікам?**

— Мне заўсёды падабалася распавядаць гісторыі, нават калі я была маленькай дзяўчынкай. І мне падабалася пісаць, але я ніколі не думала, што змагу стаць пісьменнікам. Аднойчы вырашыла напісаць главу, затым напісала яшчэ адну, і ў выніку атрымалася цэлая кніга. Адправіла яе выдаўцу, загадзя чакала адмовы. І сапраўды, мне адмовілі некалькі разоў. Але затым выдавецтва *Scholastic* набыло кнігу і апублікавала яе. Гэта было вялікім здзіўленнем і вялікай удачай, патрабавала шмат цяжкай працы.

**— На вашу думку, якой павінна быць дзіцячая кніга?**

— Думаю, што кніга для дзяцей павінна мець усё, што мае кніга для дарослых. Гэта цудоўная мова, глыбіня, важкасць. Добра, калі ёсць гумар, шырокі спектр эмоцый, адпаведных узросту і пачуццям дзяцей. Творы павінны быць такімі ж якаснымі, як і для дарослых, толькі напісанымі з арыентацыяй на дзяцей.

**— Вы жывяце ў штаце Мэн. Гэта радзіма адной з самых знакамітых амерыканскіх паэтак, голасу "Веку джаза" Эдны Мілэй. Вы адчуваеце з ёй духоўную сувязь?**

— Безумоўна. Штат Мэн — радзіма многіх знакамітых пісьменнікаў, якімі я заўсёды ганаруся, і вельмі часта яны мяне натхняюць. Але вы мяне вельмі ўразілі тым, што згадалі Эдну Мілэй, яе творчасць мне асабліва дарагая, я і не думала, што яе паэзію ведаюць у Беларусі.

*На паліцы*

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

# Па родных мясцінах

**Першыя крокі ў найцікавейшую навуку — гісторыю — дапаможа зрабіць знаёмства з легендамі і паданнямі, зашыфраванымі ў тапонімах роднай зямлі. Прыкладам таму — выдадзеная РВУ "Літаратура і Мастацтва" кніга Івана Ярашэвіча "Чэрвеньшчына: гісторыя ў тапонімах".**

Іван Паўлавіч даўно цікавіцца краязнаўствам, сведчаннем — яго шматлікія публікацыі ў беларускай прэсе: на старонках часопіса "Нёман", газет "Літаратура і мастацтва", "Настаўніцкая газеты", альманаха "Томан". У згаданым выданні, якое, дарэчы, упрыгожваюць фотаздымкі І. Ярашэвіча, чытачам прапануецца шмат цікавага з гісторыі Чэрвеньшчыны. Аўтар прасочыць след Гермеса ў Ігумене (сённяшнім Чэрвені), правядзе па вулачках гарадскога пасёлка Смілавічы, дзе стагоддзямі мірна суіснуюць розныя народы, з цеплынёй і любоўю пакажа цікавыя мясціны і раскрые таямніцы паходжання назваў навакольных вёсак.

Займальнай будзе версія аўтара, што старажытныя грэкі заснавалі ў Ігумене, горадзе з тысячагадовай гісторыяй, сваю "базу", з якой маглі весці выгадны гандаль, таму назвай горад абавязаны менавіта ім. Назва Ілынка, лічыць Іван Паўлавіч, нарадзілася ад грэчаскага "сонечная"; Камейкі захавалі памяць пра майстроў, што выраблялі лодкі-камейкі ды займаліся перавозкамі па рацэ Волме; Выжары ўтварыліся ад выпаленых для землябробства кавалкаў лесу;



Турэц сведчыць, што некалі тут вадзілася вялікая колькасць тураў. Вёска Карабетаўка пайшла ад майстэрства тутэйшых жыхароў, якія выраблялі каробкі, кашы, гнутую мэблю і нават посуд з лазы, вербалозу, ракіты, арэшніку. Мясціну, куды раней звозілі выбельвацца льняныя тканіны, спачатку назвалі Бель, а паселішча, якое тут узнікла пазней, — Убель. А вось Новы Пуць да 1960-х гадоў меў назву Новыя Валадуты. Валадута — ад мясцовага слова "валадушка" (дыялектная назва заечай капусты).

Не толькі пра мінулае знойдуцца звесткі ў кнізе "Чэрвеньшчына: гісторыя ў тапонімах". Раскажа аўтар і пра сённяшні дзень. Мы даведаемся, што назва Смілавічы пайшла ад "смелых лаўцоў" (адважных, здабычлівых, спрытных паляўнічых ды рыбакоў), што ў гэтым населеным пункце нарадзіўся славуты мастак Хаім Суцін, тут ёсць і музей, прысвечаны яго жыццю і творчасці. Адсюль карані роду Ваньковічаў. Сёння тут жыве і працуе мастак Аляксандр Жук. Вядомы гэты гарадскі пасёлак сумесным прадпрыемствам па вытворчасці скуры і валюшнай фабрыкай, аграрным каледжам, сельскагаспадарчым прафесійным ліцэем.

Не ўтоіць аўтар і заклапочанасці: патрэбна дапамога ў захаванні Святой Горкі — гістарычнага цэнтра Смілавіцкага рэгіёна. Амаль зруйнавана цагляная агароджа палаца Ваньковічаў — помніка паркавага дойлідства XIX стагоддзя. Іван Ярашэвіч заклікае: "Людзі! Зберажыце справы рук нашых продкаў! Без мінулага няма сапраўднай будучыні, а яна патрэбна нашчадкам".

**Кнігу можна набыць:**

- у РВУ "Літаратура і Мастацтва" (вул. Захарава, 19);
- у краме № 13 "Белсаюздруку" (падземны пераход ля станцыі метро "Плошча Перамогі");
- у краме "Кніжны салон" (вул. Калініна, 5);
- у крамах ААТ "Белкніга".

*Азбука Морзэ*

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,
Вольга НОРЫНА

● На стэндзе выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" падчас XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу прайшла прэзентацыя новага выдання з серыі "Энцыклапедыя рарытэтаў" — альбома "Жывая вера. Ветка". Гэта сумесны праект выдавецтва "БелЭн" і Дэпартамента сродкаў масавай інфармацыі і рэкламы горада Масквы. У прэзентацыі ўзялі ўдзел першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, а таксама дырэктар Веткаўскага музея народнай творчасці імя Ф. Шклярава Галіна Нячаева. Падчас выстаўкі ў асобнай прэзентацыі быў прадстаўлены і трэці том "Энцыклапедыі для школьнікаў і студэнтаў" — "Зямля. Сусвет". Кніга распавядае пра будову Сонечнай сістэмы і планеты Зямля, Сусвету, галактык і зорак. Як паабяцалі выдаўцы, у 2012 годзе выйдзе чацвёрты том з назвай "Тэхніка", наступныя тамы праекта распавядуць пра гісторыю Беларусі, прыроду, літаратуру, мастацтва, моладзь у XXI стагоддзі.

▬ Падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу на стэндзе "Издательства Гревцова" адбылася акцыя "Буккросінг? Мы — за!". Як распавяла вядучы маркетолаг установы Кацярына Сіман, беларускі буккросінг істотна адрозніваецца ад заходнееўрапейскага. Там прынята пакідаць кнігі ў адкрытым доступе: напрыклад, на лаўках у парку. А вось у Беларусі выданні лепш шукаць на спецыяльных паліцах у пэўных установах. Ідэю буккросінгу падтрымалі прадстаўнікі Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта. Супрацоўнікі навуковай бібліятэкі гэтай установы нават прызнаваліся, што дзякуючы буккросінгу студэнты пачалі больш чытаць. Падчас правядзення акцыі К. Сіман перадала ў БНТУ, дзе маецца адпаведная паліца, дзесяць кніг з серыі "Бізнес ад А да Я".

● Як паведаміў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славакіі Марыян Сэрватка, мэтай арганізатараў стэнда на кніжным форуме было "прадставіць беларускіх сяброў, што дапамагаюць прэзентаваць Славакію як прывабную для турыстаў краіну, паказаць выдаўцоў і аўтараў такіх кніг, як "Граматыка славацкай мовы", "Беларуска-славацкі размоўнік", а таксама пазнаёміць з самай цёплай кніжкай на гэтай выстаўцы — пра нашы тэрмальныя крыніцы". Спадар пасол таксама адзначыў: "Мінск вельмі чысты і спакойны горад, дзе людзі ўсміхаюцца і вельмі любяць прыгожую кнігу", дыялог пры дапамозе якой робіць нашы краіны бліжэй адна да адной.

▬ У дзень адкрыцця кніжнай выстаўкі на стэндзе Ізраіля наведвальнікаў частавалі не толькі кніжнай прадукцыяй — 8 лютага ў гэтай краіне адзначаюць Свята сямі пладоў, якія абавязкова трэба пакаштаваць.

● У свой дзень нараджэння міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка наведаў Мінскую міжнародную кніжную выстаўку-кірмаш і азнаёміўся з выданнямі, прадстаўленымі на стэндах Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расійскай Федэрацыі, Украіны, экспазіцыяй "Культурная спадчына СНД", прадукцыяй вядучых беларускіх выдавецтваў.

▬ На аўстрыйскі конкурс "Літаратурная Вена", дзе міжнароднае журы разглядае творы пад нумарамі (прозвішчы аўтараў захоўваюцца ў тайне), сёлета з Беларусі паэтэса Валянціна Паліканіна паслала свой цыкл "Мікеланджэла" і верш "Ещё печёт, не отболело…", якія ахвотна чытае падчас сустрэч з чытачамі. Менавіта гэты верш з адпаведнай колькасцю знакаў (што было абумоўлена арганізатарамі конкурсу) напрыканцы мінулага года прынёс ёй дыплом лаўрэата ў намінацыі "Паэзія".

# Об Изумрудном городе и Чебурашке

**Каждый читатель знакомится с детскими произведениями как минимум три раза в жизни. Когда ещё ребёнком читает сам, уже матерью или отцом — приобщает к литературе своих детей, бабушкой или дедушкой — читает внукам. Знакомим читателей "Кніжнага свету" с произведениями, вышедшими в ООО "Харвест", на которые во всех трёх случаях не жалко потратить время.**
















Денис МАРТИНОВИЧ

## Кто живёт под кроватью?

Знаменитая шведская писательница **Астрид Линдгрен** известна как автор цикла о Карлсоне и тетралогии о Пеппи Длинныйчулок. А вот книга **"Крошка Нильс Карлсон"**, написанная ею в 1949 году, наверняка, мало знакома читателям. В издание вошли восемь сказок: "Мирабель", "Нет разбойников в лесу", "Принцесса, которая не хотела играть в куклы", "Эльфа и носовой платочек", "Весёлая кукушка", "Петер и Петра", "В стране между светом и тьмой" и собственно "Крошка Нильс Карлсон". На первый взгляд, персонаж, чьё имя дало название книге, представляет что-то среднее между двумя знаменитыми персонажами: Карлсоном, "в меру упитанном мужчиной", который живёт на крыше, и Нильсом, путешествовавшим с дикими гусями в произведении Сельмы Лагерлёф. Однако всё оказывается куда более интересно. Главный герой произведения, мальчик Бертиль, одинок. Его сестра умерла, а родители приходят с работы поздно. И вдруг… "Он услыхал мелкие, семенящие шажки под кроватью. <…>. И тут он увидел, что под кроватью кто-то стоит... Да-да. Это был обыкновенный мальчик, только совсем маленький, ну прямо крошечный — не больше мизинца". Это и есть Крошка Нильс Карлсон, который жил под кроватью мальчика.

В других произведениях читателей ожидают не меньшие чудеса. Например, родители одной девочки работают в саду. Но они зарабатывают так мало, что не могут позволить себе купить для дочери куклу. И тогда из семечка вырастает самая красивая кукла в мире. Или обратимся к истории больного мальчика. Прикованный к кровати, он начинает летать, удить рыбу, водить трамвай. Как это стало возможным? Ответ ждёт вас на страницах книги Астрид Линдгрен.

## Изумрудный город или страна Оз?

Принято считать, что жанр ремейка, когда писатели по-новому интерпретируют чей-то сюжет или героев, априори не может достичь уровня первоначального произведения. Но из любого правила есть свои исключения. Наверное, не каждый читатель — наш соотечественник — знает о Лаймене Фрэнке Бауме, авторе произведения "Удивительный волшебник из страны Оз". А вот **Александр Волков** наверняка известен каждому любителю детской литературы. Но между тем своё произведение **"Волшебник Изумрудного города"** он написал на основе книги американского коллеги.

Александр Волков был по образованию учителем, в течение двадцати лет преподавал высшую математику в Московском институте цветных металлов и золота. Он писал романы, повести, рассказы, пьесы. Но в истории литературы остался прежде всего как автор цикла "Волшебник изумрудного города", куда кроме одноимённого произведения также вошли "Урфин Джюс и его деревянные солдаты", "Семь подземных королей", "Огненный бог Марранов", "Жёлтый туман" и "Тайна заброшенного замка".

Сказочная повесть начинается с того, что девочка Элли и её верный пёс Тотошка случайно попадают в фургон, который оказался в эпицентре урагана. В результате их уносит в волшебную страну. Но вернуться назад девочка сможет только тогда, когда волшебник Изумрудного города исполнит желания трёх таинственных существ: Страшилы, Смелого Льва и Железного Дровосека. Именно с ними Элли отправляется в путешествие по волшебной стране, где их ожидают увлекательные приключения.

## Она иностранка, она интуристка

В 1986 году на экраны СССР вышел мультфильм "Про Веру и Анфису", в котором звучала песня Григория Гладкова:

*У девочки Веры*
*теперь есть подружка.*
*Она не котёнок,*
*она не игрушка,*
*Она иностранка,*
*она интуристка.*
*Она обезьянка*
*по кличке Анфиска.*

Слова песни принадлежат известному писателю **Эдуарду Успенскому**. Он вовсе не собирался сочинять для детей. Инженер по образованию, Успенский зарабатывал на жизнь тем, что писал сценарии для мультфильмов. А потом увлёкся созданием юмористических рассказов. Но поскольку большинство из них не пропускала советская цензура, писатель ушёл в детскую литературу. В 1974 году вышла книга "Дядя Фёдор, пёс и кот", которая стала началом знаменитого цикла о шестилетнем мальчике Дяде Фёдоре, который был очень самостоятельным. После того, как родители запретили ему оставить в квартире говорящего кота Матроскина, Дядя Фёдор ушёл из дома, вместе с Матроскиным и псом Шариком поселился в деревне Простоквашино. Они нашли клад, благодаря чему купили трактор, ездящий на супе и картошке. Впоследствии Успенский написал ряд книг, которые рассказывали о приключениях героев, полюбившихся читателям.

Кроме того, перу Успенского принадлежат произведения о Чебурашке, крокодиле Гене и старухе Шапокляк. Согласно сюжету, крокодил Гена работает в зоопарке крокодилом. Он одинок и мечтает завести друзей. На объявления, расклеенные по городу, откликаются звери и люди. Первой приходит девочка Галя с бездомным щенком, а вслед за ней Чебурашка — неизвестное науке существо с огромными ушами, большими глазами и коричневой шерстью, ходящее на задних лапах. В книге **"Истории про Чебурашку и крокодила Гену"** вы сможете прочитать рассказы "Крокодил Гена и его друзья", "Грибы для Чебурашки", "В гостях у Чебурашки", "Чебурашка и Змейчик", "Скворечник для бабочки", "Летающий Гена", "Чебурашка-Лыжник", "Проказы Шапокляк", "Шапокляк не унимается", "Чебурашка смотрит телевизор" и "Новый год с Чебурашкой". А вот книга **"Стихи и сказки"** представляет собой сборник лучших произведений о всех полюбившихся героях Э. Успенского.

## Где обедал воробей?

Знаменитый писатель **Самуил Маршак** по праву считается классиком детской литературы. Как и многие его коллеги, он работал в разных жанрах. Писал поэмы, занимался переводами. В частности, благодаря ему русскоязычный читатель познакомился с рядом произведений Шекспира, Бёрнса, Китса, Киплинга. Знанию языка поспособствовал тот факт, что Маршак некоторое время жил в Англии и даже учился в Лондонском университете.

Но самыми лучшими произведениями Маршака, бесспорно, считаются детские. Лучшие вошли в книгу **"Стихи и сказки в рисунках В. Лебедева"**. Каждое произведение содержит яркие, запоминающиеся образы, написано легко и со вкусом. Недаром многие строки Маршака остаются в памяти людей до глубокой старости. Уверен, что вам знакомо стихотворение "Где обедал, воробей?":

*— Где обедал, воробей?*
*— В зоопарке у зверей.*
*Пообедал я сперва*
*За решеткою у льва.*
*Подкрепился у лисицы,*
*У моржа попил водицы.*
<…>
*Был на праздничном обеде*
*У мохнатого медведя.*
*А зубатый крокодил*
*Чуть меня не проглотил.*

Кроме этого произведения в книгу "Стихи и сказки в рисунках В. Лебедева" вошли сказки "Курочка Ряба и десять утят", "Сказка о глупом мышонке", "Сказка об умном мышонке", "Тихая сказка", сказка-игра "Кто колечко найдёт", рассказ в стихах "Усатый-Полосатый", "Великан", "Пудель", "Багаж" и "Мяч".

## С любовью к природе

В книгу **"Лесные загадки"** вошли произведения трёх авторов: Виталия Бианки, Михаила Пришвина и Эдуарда Шима. Их объединяет то, что все трое писали для детей о природе. Но каждый пришёл к любимой теме по-своему.

Судьба **Виталия Бианки**, казалось бы, была предопределена с детства. Его отец, Валентин Львович, был учёным-энтомологом. В большой академической квартире находились вольеры и клетки с птицами, аквариумы с рыбами, террариумы с черепахами, ящерицами, змеями. Писатель вспоминал, как не верил тому, что застывшие вокруг звери и птицы — это чучела. "Они нарочно так заколдовались, потому что люди кругом", и мечтал узнать заветное слово, которое всю эту живность расколдует. Впоследствии ему это блестяще удалось в своем творчестве. Виталий Бианки написал более 300 рассказов, сказок, повестей. В книгу "Лесные загадки" вошли такие произведения автора как "Кузяр-Бурундук и Инойка-Медведь", "Хитрый Лис и умная Уточка", "Чей нос лучше?" и "Теремок".

Первой книгой о природе, которую написал **Михаил Пришвин**, стала "В краю непуганных птиц", написанная по материалам поездок по Олонецкой губернии (современная Карелия). За эти путевые очерки, наблюдения над природой и бытом автор был удостоен звания действительного члена Императорского географического общества. В советское время только в произведениях о природе и в своём дневнике он мог быть искренним перед самим собой. В книгу "Лесные загадки" вошли такие произведения автора, как "Курица на столбах", "Луговка. Рассказ старого лесника", "Ребята и утята", "Дедушкин валенок", "Лягушонок" и "Как поссорились кошка и собака".

Расцвет творчества **Эдуарда Шима** припадает на вторую половину XX века. Уроженец Ленинграда, он воспитывался в детском доме, работал столяром и садоводом, токарем и шофёром. В своих книгах "След на волне", "Пикет 200", "Весенние хлопоты", "Вода на камешках" он ставил вопросы об отношении человека к природе. "Кто переведёт нам язык зверей и птиц на человеческий язык? Вот таким переводчиком… и стал писатель Эдуард Шим, — говорили о нём критики. — Он пишет книги, которые… учат одной из главных человеческих радостей — неиссякаемой радости узнавания". В книгу "Лесные загадки" вошли "Рысь, глухарь, заяц и косуля" и "Молчком-то лучше". В первом читатели познакомятся с коварной рысью, во втором — с хитрым хомяком, благодаря чему лучше поймут тайны природы.

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление издательской деятельности, по состоянию на 15 декабря 2011 года

* 1—официальная литература, 2—научная, 3—научно-популярная, 4—производственно-практическая, 6—учебная, 7—массово-политическая, 8—справочная, 9—для досуга, 10—литературно-художественная, 12—духовно-просветительная.

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие издательской деятельности: по тематическим направлениям |
|---|---|---|---|---|---|
| ЧУП «Центр научно-технических услуг “Развитие”» | 246042, г. Гомель, ул. Исаченко, д. 38 | 400022893 | 02330/0549495, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 16.06.2009 № 67 | 30.04.2014 | научное, производственно-практическое, учебное, справочное |
| ОДО «Тривиум» | 220018, г. Минск, ул. Новаторская, 35 | 100154405 | 02330/0494279, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 8.04.2009 № 39 | 30.04.2014 | научно-популярное, справочное, издание для досуга |
| ООО «МЕЖДУНАРОДНЫЙ ЦЕНТР КУЛЬТУРЫ КНИГИ» | 220004, г. Минск, пр. Победителей, 11, комн. 920 | 100792841 | 02330/0494495, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 8.04.2009 № 39 | 30.04.2014 | научно-популярное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ООО «Пангираф» | 220005, г. Минск, пр. Независимости, 58, корп. 31А, пом. 201 | 100844521 | 02330/0003936, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 8.04.2009 № 39 | 30.04.2014 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| РУП «Типография “Победа”» | 222310, г. Молодечно, ул. Тавлая, 11 | 600074908 | 02330/0494282, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 8.04.2009 № 39 | 30.04.2014 | научно-популярное, производственно-практическое, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| КИПУП «Техническая книга» г. Жлобин | 247210, г. Жлобин, ул. Урицкого, 62 | 400071669 | 02330/0549420, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 8.04.2009 № 39 | 30.04.2014 | производственно-практическое |
| КУП «Пинская региональная типография» | 225710, Брестская обл., г. Пинск, ул. Ленина, 42 | 200181648 | 02330/0549414, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 8.04.2009 № 39 | 30.04.2014 | научно-популярное, производственно-практическое, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| Гродненское областное УПП «Лидская типография» | 231300, г. Лида, ул. Ленинская, 23 | 500012142 | 02330/0552924, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 8.04.2009 № 39 | 30.04.2014 | справочное, издание для досуга, литературно-художественное |
| Гродненское областное УПП «Гродненская типография» | 230019, г. Гродно, ул. Полиграфистов, 2, 4 | 500013667 | 02330/0552822, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 8.04.2009 № 39 | 30.04.2014 | научно-популярное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ГУ «Республиканский центр гигиены, эпидемиологии и общественного здоровья» | 220099, г. Минск, ул. Казинца, 50 | 100468797 | 02330/0549478, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 14.05.2009 № 56 | 30.04.2014 | производственно-практическое |
| ГНУ «Научно-исследовательский институт Министерства экономики Республики Беларусь» | 220086, г. Минск, ул. Славинского, 1, корп. 1 | 100289117 | 02330/0549413, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 8.04.2009 № 39 | 30.04.2014 | научное, производственно-практическое, справочное |
| ОДО «ЮНИМЕДИА» | 220113, г. Минск, ул. М. Богдановича, д. 153, комн. 903 | 101157110 | 02330/0494423, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 8.04.2009 № 39 | 30.04.2014 | производственно-практическое, справочное |
| ООО «Полипринт» | 220038, г. Минск, ул. Ботаническая, 5А, комн. 2П | 100180474 | 02330/0630749, выд. 29.06.2004 № 116, прод. 16.06.2009 № 67, внесено изменение 21.12.2010 № 206 | 29.06.2014 | научно-популярное, производственно-практическое, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ЗАО «НПП Регула» | 220036, г. Минск, ул.Волоха, д. 1, к. 316 | 190133299 | 02330/0549416, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 8.04.2009 № 39 | 30.04.2014 | производственно-практическое, справочное |
| ИЧУП «ВЭВЭР» | 220102, г. Минск, ул. Одинцова, д. 53, кв. 84 | 100003777 | 02330/0549480, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 14.05.2009 № 56 | 30.04.2014 | научное, научно-популярное, литературно-художественное |
| УО «Академия последипломного образования» | 220040, г. Минск, ул. Некрасова, 20 | 100377863 | 02330/0494403, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 16.03.2009 № 31 | 30.04.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное |
| ГУ «Белорусский институт системного анализа и информационного обеспечения научно-технической сферы» | 220004, г. Минск, пр. Победителей, 7 | 101179888 | 02330/0549464, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 22.04.2009 № 6.6 | 30.04.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| КУПУ «Минский научно-исследовательский институт социально-экономических проблем» | 220050, г. Минск, пр. Независимости, д. 8, комн. 20 | 100581934 | 02330/0494372, выд. 30.04.2004 № 94, прод. 16.03.2009 № 31 | 30.04.2014 | научное, производственно-практическое, справочное |
| ООО «Промкомплекс» | 220070, г. Минск, ул. Радиальная, д. 40, комн. 202 | 101282916 | 02330/0552673, выд. 30.04.2004 №94, прод. 08.04.2009 №39 | 30.04.2014 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| УО «Белорусский государственный технологический университет» | 220050, г. Минск, ул. Свердлова, 13-А | 100354659 | 02330/0549423, выд. 30.04.2004 №94, прод. 08.04.2009 №39 | 30.04.2014 | научное, учебное, справочное |
| УО «Брестский государственный университет имени А.С. Пушкина» | 224665, г. Брест, б-р Космонавтов, 21 | 200050321 | 02330/0549418, выд. 30.04.2004 №94, прод. 08.04.2009 №39 | 30.04.2014 | научное, научно-популярное, учебное, справочное |
| УО «Могилевский государственный университет имени А.А. Кулешова» | 212022, г. Могилев, ул. Космонавтов, 1 | 700186029 | 02330/0549417, выд. 30.04.2004 №94, прод. 08.04.2009 №39 | 30.04.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное |
| УО «Гродненский государственный университет имени Янки Купалы» | 230023, г. Гродно, ул. Ожешко, 22 | 500037559 | 02330/0549484, выд. 30.04.2004 №94, прод. 14.05.2009 №56 | 30.04.2014 | научное, научно-популярное, учебное, справочное, издание для досуга |
| ООО «ДокторДизайн» | 220000, г. Минск, ул. Рафиева, д. 30, оф. 197 | 101507830 | 02330/0552675, выд. 30.04.2004 №94, прод. 14.05.2009 №56 | 30.04.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| ЧУП «ИНТЕГРАЛЬНЫЕ СИСТЕМЫ И ТЕХНОЛОГИИ» | 220114, г. Минск, ул. Ф. Скорины, д. 40, комн. 206 | 101071733 | 02330/049448, выд. 30.04.2004 №94, прод. 08.04.2009 №39 | 30.04.2014 | производственно-практическое, литературно-художественное, издание для досуга |
| ГНУ «Объединенный институт проблем информатики Национальной академии наук Беларуси» | 220012, г. Минск, ул. Сурганова, 6 | 190365895 | 022330/0549421, выд. 30.04.2004 №94, прод. 08.04.2009 №39 | 30.04.2014 | научное |
| ГНУ «Институт тепло- и массообмена имени А.В. Лыкова Национальной академии наук Беларуси» | 220072, г. Минск, ул. П. Бровки, 15 | 100029077 | 02330/0549415, выд. 30.04.2004 №94, прод. 08.04.2009 №39 | 30.04.2014 | научное |
| ЧУП «БУХГАЛТЕРСКАЯ ГАЗЕТА» | 220073, г. Минск, пер. Загородный 1-ый, д. 20, комн. 7, | 101558560 | 02330/0552991, выд. 30.04.2004 №94, прод. 08.04.2009 №39 | 30.04.2014 | производственно-практическое, справочное |
| Научно-исследовательское РУП «Бел НИЦ “ЭКОЛОГИЯ”» | 220095, г. Минск, ул. Гуляма Якубова, 76, комн. 1 | 100083360 | 02330/0630718, выд. 10.10.2005 №144, прод. 11.10.2010 №164 | 10.10.2015 | официальное, научное, научно-популярное, справочное |
| УО «Гомельский государственный медицинский университет» | 246000, г. Гомель, ул. Ланге, 5 | 400022681 | 02330/0549419, выд. 30.04.2004 №94, прод. 08.04.2009 №39 | 30.04.2014 | научное, учебное |
| ИП Ильин В.П. | 220025, г. Минск, ул. Слободская, д. 167, кв. 196 | 100382013 | 02330/0494481, выд. 30.04.2004 №94, прод. 08.04.2009 №39 | 30.04.2014 | научно-популярное, издание для досуга |
| ИП Згировский А.А. | 220007, г. Минск, ул. Воронянского, 21-46 | 190283796 | 02330/0494284, выд. 30.04.2004 №94, прод. 08.04.2009 №39 | 30.04.2014 | научно-популярное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ИП Снапкова О.С. | 220090, г. Минск, ул. Широкая, 36-101А | 190106009 | 02330/0494340, выд. 30.04.2004 №94, прод. 16.03.2009 №31 | 30.04.2014 | справочное |
| ООО «ПРО-ДВИЖЕНИЕ» | 220126, г. Минск, ул. Стариновская, 23, пом. 1 | 190330405 | 02330/0494419, выд. 30.04.2004 №94, прод. 08.04.2009 №39 | 30.04.2014 | производственно-практическое, справочное |
| ОДО «СТАЛИЯ» | 222310, Минская обл., г. Молодечно, ул. Тавлая, 11 | 690017427 | 02330/0549468, выд. 30.04.2004 №94, прод. 15.05.2009 №56 | 30.04.2014 | литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ОДО «КОЛЛЕКШН» | 220035, г. Минск, ул. Игнатенко, д. 4, пом. 10 | 100366533 | 02330/0552970, выд. 30.04.2004 №94, прод. 08.04.2009 №39 | 30.04.2014 | справочное, издание для досуга |
| ООО «Издательский центр “Славянское слово”» | 220104, г. Минск, ул. Лыньковa, д. 15Б, оф. 2 | 100933850 | 02330/0494475, выд. 30.04.2004 №94, прод. 08.04.2009 №39 | 30.04.2014 | литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ОДО «Тирас-Н» | 220025, г. Минск, ул. Филатова, д. 10а, к. 1а | 101514024 | 02330/0549467, выд. 30.04.2004 №94, прод. 15.05.2009 №56 | 30.04.2014 | производственно-практическое |
| ПЧУП «Орех» | 220049, г. Минск, ул. Черняховского, 1-4 | 100142347 | 02330/0549482, выд. 30.04.2004 №94, прод. 14.05.2009 №56 | 30.04.2014 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ИП Логвинов И.П. | 220050, г. Минск, пр. Независимости, 19-5 | 190263261 | 02330/0494468, выд. 30.02.2004 №94, прод. 08.04.2009 №39 | 30.04.2014 | научное, литературно-художественное, справочное |
| ИП Яговдик М.Г. | 220020, г. Минск, ул. Л. Украинки, д. 12, корп. 1, кв. 570 | 190186917 | 02330/0494480, выд. 30.04.2004 №94, прод. 08.04.2009 №39 | 30.04.2014 | литературно-художественное |
| ЧУТПП «Издательский дом “ТУРИНФО”» | 220123, г. Минск, ул. В. Хоружей, д. 29, оф. 1106 | 190443973 | 02330/0552672, выд. 30.04.2004 №94, прод. 16.03.2009 №31 | 30.04.2014 | научно-популярное, справочное, издание для досуга |

# Аповесць пра сапраўднага гаспадара

**Здавалася б, пра старшыню сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва “Астрамечава” Брэсцкага раёна, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксея Скакуна напісана нямала. Уладзімір Сітуха нават паведаў пра яго і гэткіх жа руплівцаў беларускай нівы ў паэтычнай трылогіі “Скакуны”. Дый сам Аляксей Сцяпанавіч не цураецца мастацкага слова. Не толькі ў перыядычным друку выступае, але і выдаў некалькі кніг. Тым не менш чытаючы дакументальную аповесць Уладзіміра Ліпскага “Мужык”, што выйшла ў РВУ “Літаратура і Мастацтва”, лішні раз упэўніваешся ў тым, што пра добрага чалавека (героем твора якраз і з’яўляецца У. Скакун) харошае слова лішнім не бывае, бо кожны новы аўтар пра таго, абавязкова скажа нешта сваё, асабістае, папярэднікамі не заўважанае. Тым больш калі гэты аўтар — Уладзімір Ліпскі.**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Уладзімір Сцяпанавіч з тых пісьменнікаў, талент якіх раскрываецца ў розных жанрах. Не цураецца ён і дакументалістыкі. Гэта ж магчыма толькі калі пісьменнік, прытрымліваючыся канкрэтных фактаў, не адчувае сябе звязаным імі, а смела (і ўмела) адштурхоўваецца ад іх, пераходзіць да лёсаў людзей, што ўваходзяць у бліжэйшае акружэнне галоўнага героя ці працуюць пад ягоным непасрэдным кіраўніцтвам. Пры гэтым важнае значэнне надаецца рэтраспектыве. І не толькі падзеям, што спрыялі станаўленню героя. Важна таксама выявіць карані роду, а для гэтага неабходна звярнуцца да часоў больш даўніх. Нельга адмаўляць і таго, як шмат значыць удалая кампазіцыя твора.

Пра ўсё гэта У. Ліпскі ніколі не забывае. Пацвярджэнне таму і аповесць “Мужык”, у пачатку якой аўтар адштурхоўваецца ад аднаго з выказванняў А. Скакуна: “Настаў час, калі трэба разбудзіць у кожным з нас “спячую пупышку”, каб яна стрэльнула жыватворным парасткам. Селянін — кармілец дзяржавы, корань нацыі, яе плоць і ядро душы. Дык дайце ж волю селяніну, мужыку. Хай вольна, творча працуе і дастойна, па заслугах атрымлівае за сваю гаспадарскую развexamplesротлівасць”.

У. Ліпскі адразу як бы падштурхоўвае: спяшайся далучацца да лёсу таго, пра каго пойдзе гаворка ў аповесці.

“Хто ён, сённяшні мужык Аляксей Скакун, які так смела заступаецца за селяніна?

З якой гаючай крыніцы наталіўся ён ведамі, набраўся моцы і ўзвысіўся?”

Сем пытанняў задае аўтар твора. Іх колькасць невыпадковая: “Сем пытанняў, як сем дзён у тыдні, за якія тварэц і ўдыхнуў жыццё на Зямлі, і стварыў першых зямлян — Адама і Еву, і паспеў прыгожа адпачыць”.

Акрамя таго, партрэт героя “выпісаны на сямі «палет-




Кожны з іх складаецца з сямі падраздзелаў.

Падобная кампазіцыйная выверанасць дазволіла У. Ліпскаму дакладна прасачыць жыццёвы шлях А. Скакуна. Падчас адной сустрэчы з пісьменнікам Аляксей Сцяпанавіч згадаў: “Разумееце, прыехаў з радаводнай радзімы Дастаеўскага на зямлі, дзе нарадзіўся, набіраўся моцы і адкуль пайшоў у вечнасць мужны наш асветнік Казімір Лышчынскі. Паміж іх геаграфічнымі кропкамі Беларусі пралегла і маё жыццё”.

Хіба мог аўтар “Мужыка” абысці гэтыя дзве каларытныя постаці: Фёдара Дастаеўскага і Казіміра Лышчынскага?!

Перш чым стаць мастацкім летапісцам героя нашага часу, У. Ліпскі, як гэта рабіў неаднойчы, працуючы ў дакументальна-мастацкім жанры, зазірнуў у архівы, а таксама звярнуўся па дапамогу да тых, хто гэтаксама неабыякавы да нацыянальнай даўніны. Дзякуючы гэтым клопатам пісьменнік дазнаўся пра радавод свайго героя.

Пра бацькоў А. Скакуна аўтар не проста падрабязна расказвае — ён піша з душэўнай цеплынёй, ставіцца да іх з сардэчнай увагай. Менавіта бацькі прывілі яму любоў да зямлі. Ці не таму Аляксей Скакун яшчэ школьнікам часта гаварыў, што, калі вырасце, хоча стаць Ходасам — Ходас быў старшынёй калгаса ў іхняй вёсцы. Аднак пройдзе шмат часу, і Скакун, ужо Аляксей Сцяпанавіч, зразумее, што Ходас, якім ён некалі захапляўся, — гэта ўжо далёка не той ідэал, на які трэба раўняцца. Ходасы неабходныя былі для свайго часу. Яны шмат зрабілі, але ў сваіх памкненнях нават пры ўсім жаданні не маглі абагнаць час, у якім жылі і дзейнічалі.

Раскрыццё характару галоўнага героя ў развіцці і дазволіла У. Ліпскаму праўдзіва і пераканаўча паказаць, як з Алёшы з Дастоева вырас адзін з самых аўтарытэтных і вядомых кіраўнікоў сельскагаспадарчай вытворчасці краіны Аляксей Скакун. Аўтарскай увагай не абыдзены па сутнасці ніводзін перыяд ягонага жыцця.

Але на першым плане — псіхалагічныя моманты. У. Ліпскаму важна спасцігнуць сам феномен А. Скакуна. Ужо тое, што менавіта пры ім Іванаўскі раён двойчы запар перамагаў ва Усесаюзным сацыялістычным спаборніцтве, узнагароджваўся пераходным Чырвоным Сцягам ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР, ВЦСПС і ЦК ВЛКСМ, сведчыць, які гэта неардынарны чалавек, які высокі гаспадарчы патэнцыял закладзены ў ім.

У найбольшай ступені майстэрства У. Ліпскага як празаіка-дакументаліста раскрылася ў тых раздзелах, дзе расказваецца, як А. Скакун, узначаліўшы ў сакавіку 1982 года калгас-камбінат “Памяць Ільіча” Брэсцкага раёна, вывеў яго ў шэраг перадавых гаспадарак краіны. СВК “Астрамечава” — гэта дзецішча А. Скакуна. Але ж якім будзе дзіця, у многім залежыць ад бацькі. У дадзеным выпадку — ад кіраўніка гаспадаркі. Які ж ён, старшыня СВК “Астрамечава”, — даведваемся з аповесці, паступова ўсё больш і больш пераконваючыся ў тым, наколькі правільна ў свой час выказаўся Аляксандр Пушкін: “Ты понял жизни цель, счастливый человек, // Для жизни ты живёшь”.

Свайму новаму твору У. Ліпскі, думаецца, не выпадкова даў менавіта такую назву. На першы погляд, яна быццам і простая, але разам з тым напоўненая вельмі глыбокім зместам. Традыцыйна мужыком успрымаўся селянін. А хто такі сапраўдны селянін? Вядома ж, гаспадар, які дбае не толькі пра сябе, клапоціцца не толькі пра тое, каб пракарміць уласную сям’ю. Ён да ўсяго працуе і на карысць грамадства, у якім жыве і часткай якога з’яўляецца. Менавіта такім гаспадаром — канечне ж, не ў адным СВК “Астрамечава”, а ў маштабе ўсёй краіны — успрымаецца А. Скакун.

Дакументальная аповесць “Мужык” — гэта аповесць пра сапраўднага гаспадара. Міжволі напрошваецца паралель са знакамітым творам Барыса Палявога “Аповесць пра сапраўднага чалавека”. А. Скакун, як і Аляксей Марэсьеў, — таксама сапраўдны чалавек. Найлепшае ж праяўленне ягонай сапраўднасці на мірным палетку — гаспадарлівасць.

Вось пра што яшчэ падумалася мне. На шчасце, у Беларусі такіх сапраўдных гаспадароў зямлі, як А. Скакун, сярод кіраўнікоў сельгаспрадпрыемстваў нямала. Відавочна і тое, што знойдуцца сярод пісьменнікаў і жадаючых пра іх напісаць. Справа за малым: трэба, каб і самі героі будучых кніг праявілі ініцыятыву, пайшлі насустрач. Глядзіш — цягам часу і з’явіцца бібліятэчка дакументальна-мастацкіх аповесцей пра нашых выдатных сучаснікаў.

За падзеяй

# Новы герой нашага часу

**Падчас XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу прайшла прэзентацыя кнігі Уладзіміра Ліпскага “Мужык”, што пабачыла свет у РВУ “Літаратура і Мастацтва”.**

**Кацярына БЯДУЛІНА,**
**фота Кастуся Дробава**

У кнізе сабрана шмат дакументаў, аповесцей пра людзей нашай роднай зямлі. Аднак галоўны яе герой — Аляксей Скакун. Хто ён, сённяшні мужык, які смела заступаецца за селяніна? З якой крыніцы наталіўся ён ведамі, набраўся моцы і ўзвысіўся? Ці бачыць Аляксей Скакун з вышыні сваёй мудрасці жыццё селяніна, якое задумаў сам Бог? На гэтыя пытанні адказвае ў сваім двухмоўным выданні (кніга выйшла на беларускай і рускай мовах), прысвечаным Аляксею Скакуну, старшыні СВК “Астрамечава”, аўтар. Як адзначыў падчас прэзентацыі Уладзімір Ліпскі, Аляксей Сцяпанавіч — гэта чалавек, які змяніў мяккае крэсла дзяржаўнага дзеяча на крэсла старшыні трох калгасаў.

У гонар А. Скакуна гучалі сяброўскія прызнанні, выступаў ансамбль “Лявоны” з яго роднага Астрамечава. Нават песню яму прысвяцілі.

Добрыя і шчырыя словы ў гонар героя кнігі прамовілі Раіса Баравікова і Мікола Мятліцкі. Раіса Андрэеўна адзначыла: “Аляксей Скакун — гэта чалавек, які стаў легендай нашага жыцця, чалавек, які ўмее, можа дарыць нашай зямлі казку. І гэта сапраўды так! Цудоўная, непаўторная казка!”

Аўтар імкнецца, каб жыццёвыя ўрокі героя ўстрывожылі тых, хто ідзе следам, хто атрымае ў спадчыну самы дарагі скарб беларусаў — нашу пакутную, шчодрую і багатую зямлю.

Сам аўтар падкрэсліў: “Галоўная ідэя кнігі — паказаць нашага сучасніка. Гэта адзін з асноўных напрамкаў маёй творчасці. Я заўжды прыглядаюся да дастойных людзей. І адзін з іх — Аляксей Скакун. Хочацца адзначыць, што на нашай зямлі шмат тых, з каго можна і трэба браць прыклад. Сучасная моладзь трэба вучыцца, глядзячы на кагосьці. І, мяркую, абавязак кожнага пісьменніка, журналіста, настаўніка, выкладчыка, бібліятэкара — паказваць людзей, якія складаюць гонар нацыі!”

Пасля прэзентацыі многія госці падыходзілі, каб атрымаць аўтограф Уладзіміра Ліпскага, пагутарыць з Аляксеем Скакуном, разам сфатаграфавацца.



***На здымку: герой кнігі Аляксей Скакун і яе аўтар Уладзімір Ліпскі.***

## Мастак і кніга




# Да каго падобны Ветрык?

**Новую кніжку пра прыгоды маленькага Ветрыка з Вентылятара выпусціла ў свет РВУ "Літаратура і Мастацтва". Чароўную казку Генадзя Аўласенкі "Ветерок и госпожа Зима" аздобілі тыя, хто толькі рыхтуецца стаць мастакамі, — навучэнцы Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў. Пад кіраўніцтвам мастачкі Рыты Цімохавай з'явілася серыя работ, у якіх кожны ўбачыў свайго Ветрыка.**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

### Па старонках рукатворных цудаў

На занятках гуртка ў Дзяржаўнай гімназіі-каледжы мастацтваў, якія вядзе Рыта Цімохава, дзеці ўласнымі рукамі ствараюць кнігі — унікальныя выданні ў адным экзэмпляры. З уклейкамі з калькі, якую можна адгортваць. Хочаш — параўноўвай: адна старонка гучыць нібы ява, другая, прыкрытая лістом калькі, — нібы мроя. А хочаш — адгарні напаўпразрысты ліст і сумясці іх у адным вымярэнні. Вось кніжка вершаў Алеся Разанава. (Рыта Цімохава кажа, што яго творы вельмі добра структураваныя, таму лёгка перакладаюцца на мову малюнка.) Уражвае нязвыклае аб'яднанне паэтычнага тэксту з ілюстрацыяй: верш, надрукаваны на лісце калькі, прыкрывае малюнак. Адбываецца паступовае "праяўленне" вобраза. Кніжкі, у скураных і кардонных вокладках, на любімыя літаратурныя сюжэты, — гэта першыя спробы пяра і алоўка. Вяртанне да тых часоў, калі кожная кніга была на вагу золата.

Рыта Цімохава ставіць сабе мэтай вярнуць дзяцей да чытання. І першай прыступкай на лесвіцы ў краіну Літаратуры лічыць гэта амаль цудадзейнае стварэнне кнігі — як прадмета мастацтва, як свяшчэннага артэфакта.

Талент вылучае гуртkоўцаў у кола аднадумцаў. Калі ты можаш зрабіць шмат таго, пра што твае аднагодкі і не падазраюць, і спаткаеш такіх жа людзей на занятках — гэта ўжо свята.

Мы гартаем старонкі рукатворных кніжак. "Індзейцы" Веранікі Балоцінай, "Брэменскія музыкі" Паўла Бандарыка; "Пункціры" Алеся Разанава (дызайн і малюнкі Веранікі Новік). Разглядаем ілюстрацыі Мілы Калашнікавай да "Хоку" Басё. Улічыўшы папярэджанне — "заходзь, калі смелы", разгортваем кніжку "Мары і монстры", якую напісала і праілюстравала Аляксандра Перадзэ. Стварэнне кнігі для гуртkоўцаў — вучоба, станаўленне ўласнага почырку, захаванне нечага, што ўласціва толькі табе.

Рыта Цімохава расказвае: "Спрабую павярнуць дзяцей тварам да кнігі як арт-аб'екта. У Польшчы кожны год праходзяць выстаўкі такіх кніг. Пацыху пачнём адраджаць гэты напрамак і ў нас. Дзякуючы таму, што згадзілася на такі крок адміністрацыя гімназіі-каледжа, рукатворнай кнігай мы займаемся другі год. Дванаццаць чалавек, а праектаў — ужо на добрую выстаўку. Нас запрасілі ў верасні ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі, плануецца выстаўка ў Доме Масквы.



Заняткі пачынаюцца са знаёмства са структурай кнігі: вокладка, шмуцтытул, авантытул, каланцыфры, спалучэнне кампазіцыі і дызайну кнігі — тое, што павінны ведаць прафесіяналы. Абавязкова расказваю пра гісторыю кнігадрукавання, Францыска Скарыну, першую друкаваную Біблію. Дзеці натхняюцца, ім таксама хочацца зрабіць нешта рукатворнае, на састаранай паперы, замацаванае ільнянымі ніткамі. Для некаторых з іх гэта адзіная магчымасць выразіць сябе. На наватарскія рашэнні натхняюць маленькія казкі, невялікія вершы.

Каця Клёц аздобіла кнігу амерыканскага аўтара Даніэля Кэмпбэла. Адправіла праз інтэрнэт аўтару, і яму вельмі спадабалася афармленне.

Калі пазнаёміліся з казкай пра Ветрыка, рабілі ў звычайным фармаце звычайныя малюнкі. Пасля прапанавалі ў РВУ работы тых, хто знайшоў больш дакладны вобраз".

### Мой маленькі герой

Навучэнцы каледжа з радасцю зрабілі па аднымдва малюнкі для казкі пра Ветрыка. Вобраз галоўнага героя кнігі Генадзя Аўласенкі ў іх такі розны! Ён падобны да крылатага анёлка, малечы гнома, летуценнага падлетка і нават прывіда. У кожнага з будучых мастакоў розныя тэмы, тэхніка.



Дзевяцікласніцы Аляксандры Міхальчук Ветрык уяўляецца падобным да Хлопчыка-з-пальчык — усмешлівы, гарэзлівы, рухавы, ён, як лічыць дзяўчынка, мог бы сябраваць з Карлсанам: "Калі нам далі тэму, зачыталі ўрыўкі, я прачытала рукапіс цалкам. У мяне нарадзіўся вобраз такога маленькага жвавага рухавага хлопчыка. Але на самім малюнку яго не відаць — Ветрык схаваўся ў кішэні Снягуркі. Я выбрала тэхніку каляровых алоўкаў. Акцэнт зрабіла на дэталях і прапрацоўцы колеру — выбрала яркі".

"Сябраваць Ветрык мог бы і з героямі беларускіх народных казак. Галоўнае — што ён добры, — лічыць Глеб Цімохаў. — А яшчэ здольны на сур'ёзныя ўчынкі — выратаваць дапамагчы сябру".

У кнігу ўвайшлі малюнкі Ганны Няверавай, Даніїла Агібалава, Марыі Філіпавай, Ганны-Марыі Шпунт, Сафіі Вардэванян, Дар'і Далганавай, Аляксандры Аверчанкі, Ангеліны Вашчанкі, Глеба Цімохава, Марыі Станкевіч (яе малюнак упрыгожыў і вокладку выдання).

Падчас XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу наведвальнікі самі маглі ацаніць, як адчулі гуртkоўцы тэкст казкі. Кніжка "Ветерок и госпожа Зима" і выстаўка дзіцячых малюнкаў "Анёлы, якія чытаюць кнігі…" былі прадстаўлены рэдакцыйна-выдавецкай установай у агульнай праграме форуму. Але на гэтым кропку ставіць рана. Добры пачатак — першы крок у сапраўднае мастацтва стварэння кнігі — павінен мець працяг: як паведаміла намеснік дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва" Ала Корбут, удзельнікаў праекта чакае шмат прыемных сюрпрызаў. Усім пачынаючым мастакам падрыхтаваны ў падарунак цікавыя дзіцячыя выданні. Тыя, чые малюнкі ўвайшлі ў кнігу "Ветерок и госпожа Зима", пакінуць аўтографы не толькі пад уласнымі работамі, але і ў ведамасці РВУ "Літаратура і Мастацтва" — за першы ў жыцці ганарар. І хаця ў кніжку Генадзя Аўласенкі ўвайшла толькі частка малюнкаў, астатняя таксама чакае публікацыя: лепшыя з тых, што засталіся, будуць надрукаваны ў "Бярозцы".

*На здымках: ілюстрацыі да кнігі Марыі Станкевіч (вокладка); Аляксандры Аверчанкі і Глеба Цімохава.*

## Пад вокладкай

Марына ВЕСЯЛУХА




**Пазнякоў, М. П. Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы. У 2 т. Т. 1. А — М / Міхась Пазнякоў. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 400 с.**

Як зрабіць вуснае маўленне больш яркім і багатым, а пісьмовае выказванне — запамінальным і ўспрымальным? Натуральна, ёсць некалькі спосабаў. Адзін з іх — ужыванне эпітэтаў, прыметнікаў, якія адначасова малююць і сам прадмет, і паказваюць адносіны да яго. Папоўніць запас гэтых лексічных сродкаў выразнасці дапаможа слоўнік, складзены Міхасём Пазняковым. У кнізе сабраны і падзелены на семантычныя групы 450 эпітэтаў да найбольш ужывальных назоўнікаў беларускай мовы. Лексічны матэрыял ілюструецца прыкладамі з мастацкай літаратуры, фальклору, перыядычных і навукова-даведачных выданняў.




**Лісейчыкаў, Д. В. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720 — 1839 гг. / Дзяніс Лісейчыкаў. — Мінск: Медысонт, 2011. — 198 с.**

Калі толькі глядзіш на змест кнігі, якая сярод іншых уключае раздзелы "Сямейнае выхаванне, адукацыя і кар'ера святара", "Плябанская гаспадарка", "Працоўныя абавязкі", "Вольны час", становіцца надзвычай цікава. І гэта не дзіўна, бо манаграфія па сутнасці з'яўляецца адным з першых у айчыннай гістарыяграфіі спецыяльным даследаваннем, напісаным у рэчышчы канцэпцыі гісторыі штодзённасці. У рабоце Дзяніса Лісейчыкава, кандыдата гістарычных навук, загадчыка аддзела навуковага выкарыстання дакументаў і інфармацыі Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, пададзена рэканструкцыя штодзённага жыцця ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель у азначаны перыяд.




**Климкович, М., Степан, В. Тень ангела / Максим Климкович, Владимир Степан. — Минск: Мастацкая літаратура, 2011. — 238 с.**

Раман вядомых беларускіх пісьменнікаў Максіма Клімковіча і Уладзіміра Сцяпана напісаны ў не надта звыклым для беларускай літаратуры авантурным жанры. Дзеянне рамана нібыта перацякае то ў 1920-я гады, то ў часы Вялікай Айчыннай вайны. Пераносіцца з Мінска ў Маскву, у ваенныя Вільню, Варшаву, Гданьск і зноў вяртаецца ў сучаснасць. Анёл, намаляваны Дзюрэрам, не можа дапусціць, каб карціна і скарбы езуітаў трапілі ў рукі тых, хто думае толькі пра грошы. І ён становіцца на бок галоўных герояў, якія ўмеюць па-сапраўднаму кахаць.




**Мур, Дж. Героизм для начинающих / Джон Мур; пер. с англ. А. Кузнецовой. — Москва: Эксмо; Санкт-Петербург: Домино, 2011. — 320 с.**

Для таго, каб перамагчы Цёмнага Уладара, які сядзіць у Непрыступнай Крэпасці і распрацоўвае план узурпацыі ўлады ў Дваццаці каралеўствах, зусім не абавязкова быць Франкам-варварам, мясцовым эквівалентам Конана. Для гэтага трэба толькі добра вывучыць "Кіраўніцтва па практычным гераізме" Роберта С. Тэйлара. Галоўнае пры гэтым не пераблытаць дапаможнік з якім-небудзь іншым даведнікам гэтага ж аўтара — "Практычным дапаможнікам па лоўлі рыбы на муху", напрыклад, ці "Даведнікам па знішчэнні драконаў". А для чытача галоўнае — не чытаць кнігу на працоўным месцы. Бо калегі могуць неадэкватна ўспрыняць рэзкія выбухі вашага смеху.

*Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by*

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**

# Халодны дождж

## Апавяданне



Міхась Зізюк

Следчы раённага аддзела ўнутраных спраў Камітнік падняў галаву ад апрыклых папер і зірнуў у акно. Там аднастайна, ціха церушыў дробны дожджык, час ад часу, пад націскам свавольнага ветру, пырскаў на шкло мноствам дробных, бы макавае зерне, кропелек. Камітнік выпрастаўся, падняў рукі над сабою і пацягнуўся так, што ў суставах хруснула. Як яны абрыдлі, гэтыя крымінальныя справы, штодзённыя допыты, пратаколы, апытанне сведак. Ды яшчэ тэрміны падціскаюць. Ужо заўтра трэба скончыць справу па крадзяжы з сельгастэхнікі, а над ёй яшчэ гэтулькі карпець. Ды сённяшняе дзяжурства ў аператыўна-следчай групе. Калі наробіцца што — лічы прапала справа, давядзецца ехаць на месца здарэння. Следчы падышоў да акна. Будынак райвыканкама, што стаяў насупраць, пацямнеў ад непагадзі і грозна хмурыўся на свет вастраверхім дахам. На вуліцы нікога не было. Толькі па сцежцы да аддзела ўнутраных спраў няспешна клыпаў нейкі мужчына ў цёмнай кашулі, без парасона, уцягнуўшы ў плечы галаву. Ва ўсёй мужчынскай паставе адчувалася нейкая прыгнечанасць, зацятасць, быццам яго сілай цягнулі сюды.

Камітнік паспеў набраць адно толькі некалькі радкоў. На стале трывожна дзынькнуў тэлефон унутранай сувязі. Тэлефанавалі з дзяжурнай часці. От халера, як адчуваў, што нешта будзе.

— Слухаю, Іванавіч.

— Сяргей, — голас аператыўнага дзяжурнага маёра Сухадольскага гучаў неяк стомлена і абыякава, — ты ж сёння ў групе?

— Так.

— Я зараз накірую да цябе чалавека. Прымі ад яго заяву. Бо не маю часу з ім разбірацца, мяне начальнік да сябе выклікае. А потым яшчэ ізалятар праверыць трэба. То разбярыся з ім сам...

Вось не хапала яшчэ гэтага. Мала яму сваіх клопатаў. Камітнік сярдзіта затупаў па кабінеце. Неўзабаве ў дзверы ціха пашкрэбліся.

— Заходзьце, — сказаў следчы.

Дзверы прачыніліся, і ў кабінет уціснуўся мужчына год сарака пяці — пяцідзесяці з ранняй сівізной, абветраным тварам і панурым поглядам. Ён глядзеў на следчага з нейкім хваравітым страхам, рукі нервова камечылі шэрую вільготную шапку, а вочы жаласліва, з прыхаванай надзеяй узіраліся на следчага. Камітнік пазнаў у ім таго самага чалавека, што некалькі хвілін таму сунуўся ў напрамку райаддзела.

— Прысядзьце, — кіўнуў ён наведвальніку. — Слухаю вас.

Мужчына нясмела прайшоў да крэсла, асцярожна прымасціўся на краёк і апусціў галаву.

— Слухаю вас, — нецярпліва паўтарыў Камітнік.

Мужчына кашлянуў, нервова глынуў сліну і, як праз сілу, выгаварыў:

— Я, таварыш міліцыянер, хацеў бы расказаць...

На гэтых словах ён запнуўся і змучана зморшчыў твар, бы жадаючы ўспомніць тое, што хацеў расказаць следчаму.

— Не хвалюйцеся. Я вас не дапытваю, вы самі прыйшлі. Для пачатку скажыце, хто вы, адкуль, — Камітнік пастараўся крыху супакоіць наведвальніка.

Той борздзенька ўскінуў вочы на следчага і, нібы заспакоены яго парадай, ажыў:

— Я з Залесся, ведаеце, мабыць, нашу вёску. Шафёрам там працую. А завуць мяне Іван Ахрэмчык.

— Зразумела, — кіўнуў Камітнік, — а цяпер давайце па сутнасці справы. Што вы хацелі заявіць?

— Ды, як яго, не ведаю, з чаго пачаць. — Ахрэмчык на нейкі момант змоўк, але хутка стаў гаварыць. — Пачну, як кажуць, з самага пачатку. Было гэта амаль дваццаць год таму назад. Я тады, як і цяпер, працаваў шафёрам у калгасе. У той дзень мяне накіравалі ў раён па запчасткі. Выправілі позна, бо пакуль інжынер сабраў паперы, пакуль сёе-тое — дык і поўдзень. І ў горадзе не ўсё добра прайшло. Таму, калі сабраўся вяртацца ў вёску, прыцямнела. Хутка дождж уліў, халодны такі, каб на яго ліха. Нарабіў ён, той дождж. Язды мне было ўсяго паўгадзіны. Я не спяшаўся, паціху руляваў ды думаў сваё. Дарога дрэнная, амаль нічога не відаць. У такі дождж толькі дома сядзець... На дарозе нікога не было, ніводнай машыны насустрач не трапілася. І вось толькі мінуў Балацяное, дарога па лесе пайшла, як бачу: быццам нешта мільгнула ў святле фар, цень нейкі ці што? А потым па абліцоўцы коўзнула. Спачатку мне падалося, што гэта нейкі звер быў. Ці мала ў лесе звяр'я? Я тут жа спыніў машыну. Вылез, агледзеўся. А дождж так моцна сцёбае, што ўмомант вымак. Я прайшоў трошкі далей ад машыны і аж здрантвеў: каля дарогі ляжыць чалавек з роварам. Ляжыць і не варушыцца. "Як жа так?", — думаю. Я ж яго нават не зачапіў. Бо добра ж памятаю, што наперадзе машыны нікога не было. Ды і ўдару не пачуў. А думкі наўскач: хто будзе разбірацца? Усё роўна на мяне спішуць, я буду вінаваты. І загрымлю ў турму. А дома — жонка, дзеці малыя. Хто іх гадаваць будзе? Ды і дом недабудаваны. Што рабіць? Карацей кажучы, напалохаўся я, кінуўся ў машыну і ходу дахаты. Пакуль ехаў, крыху супакоіўся. Прыехаў, машыну агледзеў: не, нідзе ні драпіны, ні следу. Назаўтра аддаў запчасткі, паехаў на працу. А сам усё думаю: што там, як? Ды хутка ўсё праяснілася. На наступны дзень па вёсцы чутка пранеслася, што знайшлі на дарозе ў лесе каля Балацянога мужыка тутэйшага — Пятра Косціча. Казалі, што ён сам зваліўся з роварам і забіўся, бо быў нецвярозы. Я асцярожна потым распытаў у мясцовых і высветліў, што міліцыя на месцы нічога не знайшла, сам Косціч не меў ніякіх пабояў, апроч тых, што атрымаў пры падзенні. Таму і палічылі ўсё гэта за няшчасны выпадак. Толькі казалі людзі, што экспертыза засведчыла: Косціч быў жывы пэўны час пасля падзення і сканаў не ад траўм, а ад пераахаладжвання. І калі яму хто дапамог бы, то, магчыма, ён і не памёр бы. Спачатку я, дурань, задаволены быў, што так абышлося. Потым, калі сказалі, што ён не адразу сканаў, на сябе наракаў доўга, мучыўся, што кінуў паміраць чалавека аднаго. Але з гадамі ўсё неяк заціхла і ўспаміналася зрэдку не так балюча.

На гэтых словах мужчына прыціх, дастаў з кішэні хустачку, выцер спатнелы твар. Асцярожна кашлянуў, глянуў на следчага і працягваў далей:

— Вось, кажу, быццам усё аціхла, здарэнне тое рэдка ўспаміналася. Дзеці мае падраслі, скончылі школу. Дачка ў горад паехала, сын пасля службы ў калгасе застаўся. Ён малайчына ў мяне, працы не цураецца, за каўнер не залівае. Завочна паступіў у тэхнікум. З дзяўчынай пазнаёміўся, сказаў, што жаніцца вырашыў — нам радасць. Прывёў ён неяк дзяўчыну знаёміцца. Мы стол падрыхтавалі, сядзім, гамонім пакрысе. А калі пачалі распытваць, хто яе бацькі, мяне як абухам стукнула. Так, яна аказалася дачкой таго самага Косціча. Я ледзьве даседзеў за сталом, ноч не спаў, круціўся, не ведаючы, што мне рабіць. Што я мог ім сказаць? У іх сваё, маладое жыццё, яны кахаюць адно аднаго. Вырашылі маўчаць. Адгулялі мы вяселле, сын прывёў нявестку да нас, пачалі разам жыць. Нявестка трапілася добрая, нічога не скажу: ціхая, працавітая, сына майго глядзіць. Усё добра, адным словам. Але стаў мне чамусьці сніцца Косціч. Ды гэтак, што я сам не свой зрабіўся. То сніцца мне, як ён едзе са мной на машыне, то сядзіць у нас у хаце, то стаіць на дарозе. Утаропіцца, моўчкі пазірае на мяне. Я ўжо і да доктара хадзіў, кажу: з нервамі не ў парадку. Той прапісаў нейкія пілюлі, ды карысці ад іх ніякай. Тады ў царкву схадзіў, свечку паставіў, каб душа яго заспакоілася. І тое не дало рады. Усё роўна сніцца. Я стаў разумець, што ён хоча, каб я ва ўсім прызнаўся, каб мяне пакаралі. Дык хай жа, хай. Але як мне прызнацца, калі дзеці даведаюцца пра гэта. Яны ж узненавідзяць мяне, а, яшчэ найгорш, нявестка можа і сына майго таксама ўзненавідзець. Я ж спляжу іхняе жыццё, разбуру сям'ю. Вось цяпер я не ведаю, што мне рабіць, куды падацца. Таму і заявіўся, каб мяне пакаралі. Хай і адсяджу, але не буду мучыцца. Толькі зрабіце так, каб дзеці не ведалі, за што я буду сядзець у турме. Богам вас прашу, таварыш міліцыянер, зрабіце так, каб яны не ведалі. У вас самога ж, напэўна, дзеці ёсць.

Ахрэмчык уздыхнуў і ўзняў вочы на следчага. У іх затрапяталі слабыя агеньчыкі надзеі: раптам міліцыянер зможа прыдумаць, як дапамагчы яму.

Следчы, слухаючы Ахрэмчыка, міжволі ўявіў непагадзь, мокрую дарогу, машыну, чалавека на ўзбочыне. А таму не спяшаўся з адказам. Калі трактаваць гэтае здарэнне з боку закона, то ўсё роўна рашэнне будзе неадназначнае. Так, можна выцягнуць з архіваў тую справу дваццацігадовай даўнасці. Але няма там, хутчэй за ўсё, прамых доказаў, што Ахрэмчык на Косціча наехаў. Мо яны і былі, тыя доказы, але ж усе сляды змыў дождж. Закруціць справу па новай, па адной толькі заяве Ахрэмчыка? Дык ён і сам не ведае, ці зачапіў Косціча. Цалкам магчыма, што той аўтаматычна ўзяўся ўбок ад машыны і сам зваліўся на дарозе. Тым больш што экспертыза не знайшла на ім пашкоджанняў, звычайных для дарожнага здарэння. Абвінаваціць Ахрэмчыка можна толькі за тое, што пакінуў чалавека ў небяспецы. Але па гэтай справе ўжо сышлі тэрміны. Вось табе і задача, якую патрэбна неадкладна вырашыць. Бо перад табою чалавек, зусім не падобны да злачынцы. Толькі як яму дапамагчы?

Камітнік падышоў да акна. Ахрэмчык заварушыўся, правёўшы яго позіркам. Дождж за акном паступова заціхаў, часам яшчэ кідаючы на зямлю вільгаць, падобную на слёзы спакутаванага чалавека. Лёгкі ветрык пагойдваў верхавіну старой таполі, страсаючы буйныя халодныя кроплі на мокрую дарогу, па якой у лівень нязручна ісці, бо можна пакаўзнуцца і грымнуцца вобзем…

# Буслянка

## Апавяданне



Анатоль Кудласевіч

Сядзіць старая Тэкля на лавачцы каля плота, і роіцца ў яе галаве думкі. Блытаюцца думкі, нібы ў ліпучай павуціне, ткуцца, як палатно ў кроснах, і раскручваецца палатняны сувой маркотнай сцежкай у мінулае.

Мінулае — тое, што было калісьці, тое, што прайшло, мінула... "Але, — думае старая, — мінула і я, адвекавала век, хопіць ужо..."

Маршчыны прасекліся на старэчым твары. Выцвілі некалі сінія, як васількі ў жыце, вочы, выстудзіў скроні сівер, прыцерушыліся валасы шэрым попелам сівізны. Прабегліся цяжкія сялянскія гады па далонях — пакінулі сухія мазалі пасля сябе ды белыя шнары як горкі напамінак пра нялёгкую жаночую жытку. Шурпатыя, спрацаваныя рукі ў Тэклі, упадуць хістка ў прыпол, сашчэпяцца кручкаватымі пальцамі на чорнай спадніцы са спрожкамі, і сядзіць так старая да вечара, пакуль не зарыкае на загуменні Красуля — адзіная жывая істота, што засталася ў яе. Кот Нічыпар не дажыў да сёлетняй вясны. Халодная выдалася зіма — ух, ажно дрыжыкі прабіраюць!

А цяпер сонейка пясціць, лашчыць усё жывое. Дзве яблынькі расцвілі пад акном, сын пасадзіў шчэ перад арміяй: жухнулі белым колерам — вясна! Квітнее ўсё! Пахне!

"Бзжж-взжж, бззжж-взжж!" — лётаюць пчолкі.

І як гэта яны мёд бяруць, як яго носяць? Маленечкія, як кропелькі, а такія працавітыя. Зробіць жа Бог на дзіва чалавеку!

Цвітуць яблыньki, а сыночка няма! Адцвіў без пары... Забрала роднен ькага вада сцюдзёная. Прыйшла гадоў трыццаць назад вялікая вада на Палессе — і не стала яе крывіначкі. Нават магілкі не засталося. Пашукалі-пашукалі мужчыны дый сказалі, што ў Прыпяць панесла яе сына. Не верыла матчына сэрца, не хацела згаджацца, што адзінае дзіцятка паплыло некуды ў свет ад маці. Цэлы месяц хадзіла потым па грудках, як сышла вада, але так і не адшукала нічога. Крыж на могілках усё роўна паставіла. А як жа інакш? Хай душа хоць які-небудзь прытулак мае, а то будуць мерцвякі здзекавацца, што ні крыжа, ні дамавіны... А так і ёй месцайка ёсць, прыйдзе, нібы з сыночкам пагаворыць. Пратрэ слепаватыя вочы ручнічком з крыжа і пойдзе, пойдзе... Дахаты.

Балюча матчынаму сэрцу.

"Гегe-ге! Гегe-ге!" — гагоча гуска. "Таксама матуля, — думаецца Тэклі, — вунь як шыю выгнула да зямлі, усё каб бліжэй да дзетак". "Ціў-ціў-ціў! Ціў-ціў-ціў!" — адказваюць гусяняты і коцяцца жоўтымі клубочкамі, коцяцца на матулін голас.

Перакочваюцца гусяняткі пушыстымі камячкамі па зялёнай траве, ціўкаюць, і святлее на сэрцы ў Тэклі. Вясна — яна заўсёды нясе палёгку душы. Вунь ластаўкі стрыгуць крыламі ў паветры, шчабечуць. Лепяць сваё кубельца. "Божая птушка", — падумала Тэкля. Успомнілася: яшчэ малыя былі, а дзед Якаў, што жыў па суседстве, трос ссівелаю барадою, пагрозліва паказваючы пальцам на неба, лякаў іх: "Гаго, хто разбурае ластаўчыны гнёзды, карае Бог рабаціннем!" Дужа не хацелася насіць ганебную мянушку — толькі й чутно па вёсцы: ты руды, руды-кірпаты... Ніколі не чапалі ластавак. Яшчэ расказвалі: ляжаў Хрыстос у пячоры, увакод быў завалены каменнем, дык толькі ластаўкі ў дзюбках і насілі яму ваду, а змяя падпільнавала і цапнула за хвост, з тае пары і застаўся ён раздвоены.

"Клё-клё! Клё-клё-клё!" — заклекатала над галавой буслянка.

"Бусько, бусько, клекатун!" — успомніла Тэкля дзіцячую прыказку. Бегала і яна калісьці басанож за буслямі, крычала наўздагон: "Бусько, бусько, клекатун! Ловіць жабу за каўтун!"

Дзе той бусько, куды падзеўся? Паляцеў бусел Тэклінага дзяцінства ў незваротны вырай, не вернецца ніколі да яе маладой. Не бегаць болей нацянькі па паплавах ды пакосах, не кошкаць, не збіраць чайчыных яек. Непрыкметна падкралася старасць, застукала кіёчкам у браму жыцця: кепска глядзяць на свет Божы вочы, кепска ходзяць па зямлі ногі. А была ж і яна маладою, зямлі пад нагамі не адчувала...

Даўно зрабілі буслы на Тэклінай хаце буслянку, але не заўважала яе Тэкля ўсё сваё жыццё — неяк не было часу, ці што. А буслянка клекатала ўсе доўгія гады. Ляцеў няўмольны час... праводзіла свайго Яўхіма на вайну... і чакала-чакала... сыночка гадавала, радавалася... а потым і яго, адзінца свайго, пестунка, магілу жоўтым пясочкам засыпала. Вось і ўсё жыццё. Ці да буслянкі было? Клекатала буслянка, старэла Тэкля і, калі час скіраваўся на магілкі, заўважыла раптам, што ўсё жыццё на хаце быў напамінак пра дзяцінства — бусько-клекатун...

Па ўсёй вёсцы толькі на яе хаце і засталіся буслы. Не любяць яны новыя дахі, крытыя шыферам ды бляхай. А ў Тэклі хата старэнькая, страха — з чароту. Яшчэ да вайны справіў Яўхім новую хату, не нажыліся, праўда, у ёй, не паспелі... Сама Тэкля перабіралася, адна рабіла ўлазіны...

Ой, колькі ж часу прайшло з тае пары? Старая ўжо яна, мінулася яе маладосць, асыпалася чырвонымі кветамі вясна... Чакала хата: усё глядзела трыма акенцамі на захад, куды пайшоў гаспадар. Чакала Тэкля, рыпелі веснічкі: выглядвала на дарогу, калі сонца хавалася за небакрай, усе справы зроблены і няма куды падзецца з маркотнымі думкамі. "А ці не яго хада? Не... Не ён. А можа, заўтра? Бываюць жа цуды на свеце..." Так і састарэлі яны: Тэкля і яе хаціна. Скасабочыліся вуглы ў хаце, вырываў чарот на страсе, адна буслянка — вечна маладая, юная, асабліва вясною. Прыгнула гора Тэкліну галаву да долу. Цяжка ўжо ёй хадзіць па зямельцы. Пара збірацца ў дарогу. Ці не забыла яна чаго сярод жывых? Не, нічагуткі! Чакае недзе Яўхім, дальбог, зачакаўся.

Там чакае ён, малады, дужы, прыгожы. А ці ж пазнае яе, састарэлую і пабітую жыццём, некалі сваю сінявокую Тэклечку? А была ж і яна маладою, статнаю была: каса да пояса... Ведала і яна шчасце. "Ты гэта, Тэклечка, ты, любачка?" — "Ох, Яўхімка, — адкажа яму, — біла ж мяне доля, ох і біла ж..." І заплача наўзрыд, утыкнецца тварыкам у плячо — і загалосіць. Што ж ёй усё жыццё гэтыя слёзы ў сабе трымаць? Адвядзе душу... Ці не скаланецца яго сэрца? Ці не сціснецца ад тугі?

"Што ж гэта я?.. Памілуй мя Госпадзі, святы Хрысце, Дзева Марыя са ўсімі святымі… Ой, цяжка мне, цяжка…"

— Я гэта, Яўхімка, я…

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

# Шукаем сябе?

**Прэм’ера чатырохсерыйнага мастацкага фільма “Талаш” (вытворчасць Нацыянальнай кінастудыі “Беларусьфільм”, 2012) адбылася на Першым канале Беларускага тэлебачання. У аснове сюжэта новай стужкі — матывы аповесці Якуба Коласа “Дрыгва”. Аўтар сцэнарыя і рэжысёр-пастаноўшчык — Сяргей Шульга, аператар — Сяргей Бондараў, мастак — Алег Шараваraў, кампазітар — Анатоль Лях. Ва ўсіх ролях здымаліся беларускія акцёры. Мастацкі кіраўнік фільма — легенда расійскага кінематографа Генадзь Палока.**



Фота Аляксандра Дзмітрыева

## Першыя ўражанні

Вядома, што паводле аповесці “Дрыгва” Якуб Колас напісаў п’есу, якая пад назвай “У пушчах Палесся” была пастаўлена ў 1937 г. на сцэне БДТ-2; потым да яе неаднойчы звярталіся аматарскія тэатральныя калектывы. У 1939 г. кампазітар Анатоль Багатыроў стварыў оперу на лібрэта Яўгена Рамановіча паводле той самай аповесці. У Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі давялося пабачыць афішу прэм’еры з назваю “Дрыгва”. Верагодна, оперу хутка перайменавалі “з эстэтычных меркаванняў”, бо ў гісторыю яна ўвайшла як паспяховы спектакль “У пушчах Палесся” Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР, паказаны ў 1940 г. падчас Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве і адзначаны Дзяржаўнай прэміяй СССР (тагачаснай сталінскай). Вось, здаецца, і ўсё... Іншым творам Якуба Коласа больш пашанцавала і на сцэнічнае, і на экраннае ўвасабленне.

Але гаворка зараз не пра гісторыю жыцця літаратурных вобразаў нашага класіка ў візуальных мастацтвах. І не пра тое нават, чым розняцца “Дрыгва” і “Талаш”. Дарэчы, трапная назва, быццам ключавое слова, нясе ў сабе сэнсавы акцэнт, зроблены стваральнікамі фільма, і нібы адсякае прэтэнзіі з боку тых, каму хацелася б разглядаць новую стужку як спробу звычайнай экранізацыі. Так, Сяргей Шульга разам з акцёрам Генадзем Гарбукам, у якім знаўцы іканаграфіі знаходзяць партрэтнае падабенства з Васілём Талашом, засяроджваецца на вобразе галоўнага героя — персанажа з рэальным гістарычным прататыпам, але ж легендарнага і ў чымсьці пераасэнсаванага (а інакш і немагчыма ў стварэнні мастацкага вобраза!).

Калі ўсё ж такі параўноўваць экраннае відовішча з тэкстам аповесці, шматлікія адрозненні заўважыш адразу. У аповесці да Талаша звяртаюцца “дзядзька Рыгор” — герой Гарбука прадстаўляецца сапраўдным імем свайго прататыпа: Васіль Ісакавіч. Яго малодшы сын Панас у фільме робіцца Сымонкам, атрымлівае рысы таленавітай творчай натуры вядомага персанажа Коласавай паэмы пра самародка-музыку і — кароткі трагічны лёс жорстка зламанай кветкі. Войт Васіль Бусыга на экране — Сцяпан, Мартынава жонка Ева перайменавана ў Таісу, камісар Нявідны “змяніў” месца свайго паходжання — з Гомеля на Бабруйск. У “Дрыгве” Талаш цікуе за тым, як зграбна ваўкі распраўляецца з вепруком, “карае” ляснога забойцу, дзічыну прэзентуе бальшавікам, а ваўчыные футра носіць на сабе; для героя фільма падстрэлены ім вялізны дзік робіцца сапраўдным паляўнічым трафеем і галоўным козырам у перамовах з “таварышамі чырвонымі армейцамі”. Аўтар стужкі стварае лінію сваяцтва войта Бусыгі з панічом Збышкам, развівае сцэну адабрання жаўнерамі апошняга Талашова сена, прапаноўвае сваё бачанне расправы з фанатычным бальшавіком Нявідным: апошняе — праз спевы — процістаянне ідэалагічных ворагаў і расстрэл на беразе ракі; уводзіць сімвалічны эпізод смяротнага двубою Мартына і Сцяпана. У аповесці ёсць дзіўнаваты персанаж па прозвішчы Галініч — госць панскай вечарыны, які выказваецца пра імкненне беларусаў да незалежнасці сваёй краіны ад усходніх і заходніх суседзяў; у фільме на гэтую тэму спрабуе разважаць, трымаючыся ў асяроддзі бальшавікоў сваёй, паляшуцкай, праўды, самабытны народны герой Талаш; пра невытлумачальны тутэйшы менталітэт гаворыць пан Длугошыц.

Адрозненні ў імёнах, стасунках, сітуацыях толькі падкрэсліваюць: фільм трэба ўспрымаць як работу ў поўным сэнсе творчую, у пэўным — самастойную.

Адразу ж адчувальна, што фільм не дубліраваўся на мову класічнай літаратурнай крыніцы, а здымаўся на беларускай мове, якая пераканаўча, нязмушана гучыць з экрана (натуральная інтанацыя, асаблівасці нацыянальнай фанетыкі, арганічныя дыялогі, асэнсаваныя рэплікі). Гэта прынцыповае дасягненне айчыннага кінематографа, які шукае сёння сваю сутнасную нацыянальную адметнасць. Зусім лагічна, што ёсць персанажы, якія размаўляюць толькі па-руску (чырвонаармейцы) ці толькі па-польску (паны, гаспадары і госці маёнтка ў Длугошыцах). Аднак можна заўважыць пэўную непаслядоўнасць стваральнікаў стужкі ў тым, што пераклад польскай гаворкі зроблены не на беларускую, а на рускую мову і падаецца не праз субтытры, а агучваецца, заглушаючы жывы голас, інтанацыю акцёраў у кадры, “перакрэсліваючы” істотную частку іх ігры. Заадно можна выказаць шкадаванне, што тытры на пачатку стужкі не даюць гледачу неабходную інфармацыю пра тое, хто ёсць хто, бо пададзены проста пералік акцёраў, без пазнакі адпаведных роляў. Ці зроблена гэта як пастскрыптум, у фінальных тытрах? Пытанне без адказу, бо “культура” дэманстрацыі фільмаў на тэлеканалах пакідае жадаць лепшага: як правіла, уся заключная інфармацыя (добра, калі не разам з апошнімі кадрамі) літаральна перакрываецца анонсам наступнай перадачы.

Хто ёсць хто — важна ведаць, каб аддаць персанальна кожнаму акцёру долю захаплення яго ігрой. Кожнаму, бо, да гонару рэжысёра, тут нават сярод эпізадычных роляў няма прахадных і малапрыкметных. Для ўсіх персанажаў знойдзены пэўныя псіхалагічныя характарыстыкі; неадназначнасць самога гістарычнага часу люструецца ў неадназначнай дынаміцы экранных вобразаў. Майстэрскае сола Генадзя Гарбука (мудры маналог пранікліваga і задуменнага позірку на буйных планах; нетаропкая, скупая на словы гаворка; загадкавая глыбіня і красамоўнасць кожнай паўзы) падтрымлівае вялікі ансамбль заслужаных, народных, паспяховай моладзі, таленавітых дэбютантаў. Яны служаць на Купалаўскай сцэне, у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М.Горкага, у РТБД, у Тэатры-студыі кінаакцёра. У экранным аповедзе — няспешным, як тагачасны лад жыцця палешукоў, нібыта знарочыста запаволеным, без мантажных выкрунтасаў і тэхнічных эфектаў, без інтрыгі, прынаднай для сучаснага кінаспажыўца, — россып жывых запамінальных партрэтаў: Аўгіня — Настасся Баброва, Мартын — Дзяніс Паршын, Сцяпан — Павел Харланчук, Сцяпанаў бацька — Аўгусцін Мілаванаў, Збышак — Віталь Краўчанка, пажылы пан — Аляксандр Ткачонак, Саўка Мільгун — Валерый Зяленскі, Нявідны — Вячаслаў Паўлюць, польская пані — Зінаіда Зубкова, Таіса — Святлана Анікей, бацька яе — Генадзь Аўсяннікаў...



Фільм не ўражвае прыўкраснасцю прыпяцкіх краявідаў, якая ёсць у вядомай экранізацыі Мележавых “Людзей на балоце”. Ён, з-за прычын аб’ектыўных, здымаўся даволі далёка ад сутоку Прыпяці ды Дняпра, родных мясцін Талаша. Але яго кадры прываблліваюць назіральнасцю за жывой беларускай прыродай: вось промні сонейка гуляюць у смарагдавым зарасніку; вось бабёр плыве, рассякаючы водную роўнядзь; вось лугавая кветачка хітае пяшчотнаю галоўкай; вось паўстае ў насцярожлівым і велічным маўчанні заснежаная пушча...

Агучана стужка гожа. У гукавой партытуры — мінімалізм, няма злоўжывання пабытавымі шумамі; высакародная “музыка цішыні” адцяняе мелодыку мовы, прытым ашчадна скарыстане інструментальнае гучанне з інтанацыямі самабытнага беларускага меласу дадае мяккую эмацыянальную афарбоўку ў псіхалагічны настрой адпаведных эпізодаў (ці то подых аркестра з лёгкім шолахам цымбал, ці то трывожна-працяглая басовая нота кларнета, ці то далікатнае сімфанічнае развіццё пранікнёнай тэмы ў лірычнай кульмінацыі, калі сустракаюцца пастаелыя Аўгіня ды Мартын). Думаецца, невыпадкова С.Шульга запрасіў у якасці аўтара музыкі да фільма не “раскручанага” кіношнага кампазітара, а сябра дзяцінства: разам з А. Ляхам ён вучыўся нейкі час у Рэспубліканскім каледжы пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Іх аднакласнікі добра памятаюць гэтых таленавітых хлапчукоў: крэатыўны тэмперамент эрудыта Сяргея, фартэпіянныя імправізацыі Анатоля на тэкст задачак па геаметрыі ды яго спробу напісаць казачную оперу...

Крытыкі яшчэ неаднойчы выкажуцца з нагоды новай стужкі. Але сёння, калі нацыянальнае кіно, скажам шчыра, на раздарожжы, у пошуках шляху да сябе, не варта пачынаць з прэтэнзій да таго, хто спрабуе яго знайсці або хаця б вызначыць. Вынік працы мастака трэба ацэньваць, зыходзячы з яго творчай пазіцыі. І добра ўжо тое, што яна ёсць.

## Госці ў Коласавым доме

На мінулым тыдні ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася творчая сустрэча са здымачнай групай фільма “Талаш”. Імпрэза, якая сталася першай у вялікай чарадзе сёлетніх мерапрыемстваў музея, прысвечаных 130-годдзю з дня нараджэння народнага паэта, прайшла з нечаканым аншлагам: у прасторнай зале не хапіла месцаў для ўсіх прысутных, многія ўладкоўваліся ў сумежных памяшканнях. Сабралася амаль уся творчая група, на сустрэчу з якой, у ліку іншых, прыйшлі супрацоўнікі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, малодшы сын песняра Міхась Міцкевіч, дырэктар Нацыянальнай кінастудыі “Беларусьфільм” Алег Сільвановіч, прадстаўнікі адміністрацыі Першамайскага раёна сталіцы.

Адкрываючы вечарыну, дырэктар музея Зінаіда Камароўская падкрэсліла, што для ўсіх супрацоўнікаў Коласавага дома фільм “Талаш” стаўся сапраўднай падзеяй. І звярнула ўвагу на тое, што зняты ён менавіта “па матывах” вядомай аповесці, адчуў на сабе ўплыў іншых старонак літаратурнай спадчыны нашага класіка і не люструе той твор, які пісаў Якуб Колас. Мастацтвазнаўца Наталля Сцяжко, спрычыненая да стварэння фільма праз рэдактарскую працу, гаварыла пра тое, што Якуб Колас, яго творчасць — гэта наша класіка, і зусім не шмат у нас здымаецца такіх фільмаў, тым больш — на беларускай мове. Асабліва прыемна ўразіла, прызналася Н.Сцяжко, што з дэкларатыўнага твора, які мы вывучалі ў школе, Сяргей Шульга зрабіў “цёплы” сцэнарый, унёс лірычныя моманты, вылучыў у фільме адносіны між людзьмі, правёў выразную тэму кахання.

Аказалася, што ідэя перачытаць “Дрыгву” сродкамі кіно нарадзілася не ў кінематаграфічным асяроддзі. Прадстаўляючы здымачную групу, рэжысёр фільма найперш запрасіў да мікрафона славутага купалаўца, народнага артыста Беларусі Генадзя Гарбука, бо менавіта ён аднойчы запытаўся ў Сяргея Шульгі, ці перачытваў той хрэстаматыйную Коласаву аповесць, і прызнаўся, што даўно ўжо марыць сыграць легендарнага Талаша. Даволі боязна было брацца за гэтую ролю пасля таго, як яе ўвасобіў на Коласаўскай сцэне вялікі беларускі артыст Аляксандр Ільінскі, якому давялося нават сустракацца з прататыпам свайго героя. Але фільм вымагаў новага падыходу да вобраза Талаша...

Удзельнікі сустрэчы распавядалі пра асаблівасці працы над стужкай (сцэнарый, між іншым, разлічваўся на васьмісерыйны твор, у працэсе працы давялося скарачаць аб’ём фільма ўдвая), разважалі пра свае ролі, дзякавалі педагогу-кансультанту па польскай мове Алене Казанцавай. І з вуснаў такіх розных людзей гучала шчырай споведдзю прызнанне ў любові да беларускай мовы, трывога і нават боль за яе лёс, надзея на росквіт роднага Коласава слова на абсягу нашай зямлі.

Пры канцы сустрэчы Зінаіда Камароўская ўручыла сцэнарысту-рэжысёру фільма “Талаш” кнігу Якуба Коласа “На ростанях” з подпісам сына песняра — Міхася Канстанцінавіча. І пажаданнем, каб на працягу гэтага года ў Сяргея Шульгі з’явілася думка пра новы фільм, натхнёны вобразамі класіка нацыянальнай літаратуры.

***На здымках: народны артыст Беларусі Генадзь Гарбук у ролі дзеда Талаша; Якуб Колас і Васіль Талаш (1943).***

**Апошнім часам Беларускі саюз музычных дзеячаў папоўніўся прафесійнымі кампазітарамі, якія вядуць актыўную грамадскую, асветніцкую работу, удзельнічаюць у праектах БСМД. Гэта не толькі члены Асацыяцыі маладых беларускіх кампазітараў, але і тыя прадстаўнікі новых творчых пакаленняў, што ўжо маюць у айчыннай музычнай культуры адметнае імя, і сталыя майстры, якіх мы пачціва называем класікамі. Прапануем увазе чытача рэцэнзіі на канцэрты, якія адлюстроўваюць творчыя набыткі вядомых кампазітараў — членаў БСМД.**

# Сімфонія — раман у гуках

**Кацярына БАНДАРЭНКА,**
**кандыдат мастацтвазнаўства,**
**дацэнт**

**Канцэрт, прысвечаны 75-годдзю знакамітага беларускага кампазітара Кіма Цесакова, адбыўся ў вялікай зале сталічнай філармоніі. У выкананні Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі прагучалі інструментальныя творы юбіляра, у якіх ва ўсёй магутнасці ўвасобіўся талент аўтара-сімфаніста, яго філасофскі роздум пра вечныя пытанні быцця і вострае адчуванне сучаснасці.**

Кім Цесакоў — адзін з вядучых кампазітараў краіны, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат прэміі прафсаюзаў БССР, Рэспубліканскай прэміі імя В. Віткі, ганаровы грамадзянін г. Чэрвеня — піша ў розных жанрах. Ён адзін з першых у Беларусі аўтараў радыёопер ("Барвовы золак" паводле раманаў І. Мележа і "Палын — трава горкая" на лібрэта А. Вольскага), вялікай колькасці араторый і кантат, музыкі для фільмаў і спектакляў, твораў для дзяцей і юнацтва. Але галоўныя мастацкія дасягненні К. Цесакова звязаныя з сімфанічнай і камерна-інструментальнай музыкай. Ім створаны 7 сімфоній, 4 канцэрты, 10 струнных квартэтаў і вялікае мноства опусаў для розных інструментаў і інструментальных складаў. Цікавасць да сімфанічнага жанру, аднаго з найбольш складаных і змястоўных, абумоўлена ўплывам творчай асобы найбуйнейшага кампазітара-сімфаніста XX ст. Дзмітрыя Шастаковіча, з якім беларускі кампазітар пазнаёміўся ў маладыя гады, калі вучыўся ў Новасібірскай кансерваторыі. Сімфоніі К. Цесакова, як і творы яго сусветна знакамітага калегі, разнастайныя па змесце і ідэйна-філасофскай накіраванасці. Сярод іх дзве вылучаюцца праграмнай задумай: Сімфонія № 2 "Памяці Веры Харужай" і Сімфонія № 4 "Курапаты", якія ўвасабляюць погляд сучасніка на падзеі мінуўшчыны. Сімфонія № 3 для аркестра і габоя сола адлюстроўвае пошукі ў галіне камернага сімфанізму, дэманструе абнаўленне аўтарскай музычнай мовы. Кожны з сімфанічных твораў К. Цесакова — гэта асаблівы свет пачуццяў і вобразаў, новая музычная і светапоглядная канцэпцыя.



Творы Кіма Дзмітрыевіча неаднаразова і з вялікім поспехам выконваліся за мяжой, гучалі ў канцэртных залах Аўстрыі, Германіі, Францыі, Іспаніі і Польшчы. І даўно ўжо ўвайшлі ў залаты фонд беларускай музычнай класікі.

Выбраныя партытуры прагучалі ў аўтарскім канцэрце кампазітара.

Вечар адкрыўся "Эпіталамай" для струннага аркестра — творам, прасякнутым тонкім лірызмам, вобразамі вясновага квітнення прыроды і светлым пачуццём кахання. Гэты гімн каханню і радасці жыцця адразу настроіў слухачоў на ўрачысты і высакародны лад. Затым прагучалі Канцэрт № 2 для цымбалаў з аркестрам, твор, які захапляе святочным настроем і яркім фальклорным каларытам, і Канцэрт для габоя з аркестрам, у якім сучасная музычная мова адлілася ў строга класічную, дасканалую форму. Кульмінацыяй праграмы сталася выкананне Сімфоніі № 5, з прадмовай да якога выступіў сам кампазітар. Маэстра паведаміў слухачам, што твор, напісаны пад уплывам захаплення "Іліядай" Гамера, мае эпіграф: "Ад кахання багоў нараджаюцца сусветы, ад кахання людзей нараджаецца чалавек". Гэта своеасаблівая праграма сімфоніі тым не менш не вычэрпвае ўсяго багацця яе зместу, таму што, паводле слоў аўтара, "класічная музыка з'яўляецца абстрактнай, але кожным успрымаецца ў канкрэтных вобразах". Пранікнёнае і закончанае выкананне Сімфоніі № 5, дарэчы, аднаго з улюбёных твораў самога кампазітара, выклікала ў зале хвалю аднадушнага суперажывання. Кожны слухач адчуў сабе далучаным да разгортвання масштабнага эпічнага гукавога палатна, напоўненага вобразамі стварэння і зруйнавання, спакою і барацьбы, святла і цемры. Складаная музычная тканка сімфоніі, сапраўдная музыка XXI стагоддзя, уразіла моцнай сканцэнтраванасцю думкі, уласцівай толькі найлепшым творам мастацтва.

Кветкі ды цёплыя словы захаплення і пашаны, выказаныя Кіму Дзмітрыевічу ў той вечар многімі слухачамі, сведчаць, што нацыянальная музычная класіка, адсунутая "на другі план" шматлікімі "шоў-праектамі", тым не менш, патрэбная беларускаму слухачу, як глыток свежага паветра.

***На здымку: заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Кім Цесакоў.***

# На крылах нястрачанай памяці

**По ўсёй краіне ў мінулым годзе адзначалася 120-годдзе з дня нараджэння вялікага паэта Максіма Багдановіча. Яго творчасць заўжды прыцягвала ўвагу гісторыкаў і крытыкаў і натхняла не адно пакаленне мастакоў. Сярод іх наша суайчынніца — кампазітар Аліна Безенсон. Яна не толькі напісала выдатныя творы паводле паэзіі М. Багдановіча, але і выступіла ў ролі аўтара музычнага праекта, прысвечанага памяці беларускага класіка. Канцэрт адбыўся ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі.**

**Інга ЛІПАЙ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства,**
**старшы выкладчык кафедры харавога вакальнага мастацтва, намеснік дэкана факультэта музычнага мастацтва**
**БДУКіМ**

У выкананні акадэмічнага хору (мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Павел Шэпелеў) і сімфанічнага аркестра (дырыжор Юрый Караваеў) Белтэлерадыёкампаніі, а таксама салістаў Вольгі Рузінай, Святланы Даражок, Яніша Нялепы, Алега Кавалеўскага і Андрэя Кунцэвіча прагучалі буйныя творы беларускіх кампазітараў Андрэя Бандарэнкі, Аліны Безенсон, Вячаслава Кузняцова і Віктара Кісценя.

Уражлівай карцінай перад слухачом паўсталі паэтычныя вобразы М. Багдановіча, якія сімвалізуюць родны край, само аблічча паэта, яго жыццёвы лёс. Сумны адзінокі лясун (сімвал пушчанскага краю) яскрава ўвасоблены ў лірычнай кантаце "Ціхія песні" В. Кузняцова. Вобраз "птушкі-вяшчункі" шэрай зязюлі (сімвала народнапесеннай паэзіі) адлюстраваны ў кантаце "Ціхі вечар" В. Кісценя. Галоўнай адметнасцю лірыка-драматычнага канцэрта "У краіне светлай" Андрэя Бандарэнкі сталася суровая карціна народнага жыцця, любоў да роднага краю.

Толькі не птушкай-прарочыцай і сумным маркотным лесуном паўстае перад намі постаць Максіма Багдановіча. Яго сімвал — "Страцім-лебедзь", моцны, горды птах, які і натхніў Аліну Безенсон на стварэнне аднайменнай драматычнай араторыі.

Яшчэ адзін опус А. Безенсон на вершы М. Багдановіча гучаў у той вечар: паэма "Над морам" для барытона, хору, фартэпіяна, арфы і ўдарных інструментаў. Абодва творы аб'ядноўвае бунтоўны вобраз нязгоднага падпарадкоўвацца плыні жыццёвых падзей.

Араторыя "Страцім-лебедзь" стала сапраўднай кульмінацыяй усяго канцэрта. Яе задума ўзнікла яшчэ ў 1994 годзе, але працаваць над творам кампазітар пачала значна пазней. Партытура была завершана ў 2001-м і адразу атрымала высокую адзнаку такіх мэтраў нашага нацыянальнага музычнага мастацтва, як Віктар Роўда і Генадзь Праватораў. Менавіта пад іх кіраўніцтвам у 2003 г. быў здзейснены запіс араторыі ў студыі Дома радыё. Праз год адбылося сцэнічнае ўвасабленне: прэм'ера прайшла ў Гродне ў выкананні камернага хору (кіраўнік Ларыса Іконнікава) і сімфанічнага аркестра (дырыжор Уладзімір Барматаў) Гродзенскай гарадской капэлы і мела каласальны поспех у слухачоў.

Вось і падчас філарманічнага канцэрта араторыя нікога не пакінула абыякавым, тым больш што да гэтага часу яна была значна дапрацавана. Сродкамі музычнага выяўлення А. Безенсон здолела засяродзіць увагу на значна шырэйшым сэнсе аповесці — прызначэнні сапраўднага мастака самаадддана працаваць дзеля праслаўлення свайго народа. Падобна да галоўнага героя Страцім-лебедзя, які адмовіўся ад Ноева каўчэга і трагічна загінуў, ратуючы іншых птушак, М. Багдановіч таксама заўчасна пакінуў жыццё, да апошняга змагаючыся за нацыянальную самасвядомасць землякоў-беларусаў. Глыбіні чалавечай душы працінаюць пранікнёныя радкі "ад усіх цяпер патомкі ёсць, ды няма адных — Страцімавых".

Сапраўды, для прадаўжэння роду неабходна мець нашчадкаў. Але гэтага недастаткова. Важна ўсведамляць, што гісторыя кожнага народа складаецца з яго сацыякультурнай памяці. Беспярэпынны працэс асэнсавання назапашанага творчага досведу не дае раствараіцца айчыннаму мастацтву ў распаўсюджанай маскультуры. Да захавання нацыянальнай спадчыны ўвесь час імкнуўся Максім Багдановіч, а гэты працэс сёння працягваюць сваёй творчасцю сучасныя мастакі.

***На здымку: кампазітар Аліна Безенсон ля афішы канцэрта.***

## Нашы юбіляры



**Міхаіл Якаўлевіч ФІНБЕРГ** — дырэктар-мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор заслужанага калектыву "Нацыянальны акадэмічны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь", народны артыст Беларусі, лаўрэат прэміі Саюзнай дзяржавы, лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, лаўрэат спецыяльнай прэміі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь імя У. Мулявіна, лаўрэат прэміі ЛКСМБ, прафесар;



**Алег Міхайлавіч ЧЫРКУН** — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, кампазітар;



**Валерый Аляксандравіч КУЧЫНСКІ** — заслужаны артыст БССР;



**Аляксандр Уладзіміравіч ФЁДАРАЎ** — заслужаны артыст Беларусі, дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, дырыжор дзяржаўнага канцэртнага аркестра "Няміга", палкоўнік;



**Лючыя Леанардаўна ЛАСТАЎКА** — дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі;



**Барыс Іванавіч ДАВЫДАЎ** — выкладчык Гомельскага каледжа мастацтваў імя Н. Ф. Сакалоўскага;



**Сяргей Юр'евіч ЛІШЧЭНКА** — дырэктар-мастацкі кіраўнік Магілёўскай гарадской капэлы.

Сябры! На вашы пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адкажа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА.

**Тэлефоны:**
***(017) 222-37-33 — працоўны;***
***(029) 507-55-05 — МТС;***
***(029) 699-32-00 — Velcom.***

**Васіль РАГАЎЦОЎ,**
**доктар філалагічных навук, прафесар**

# Насустрач роднай мове

**Алеся Каўруса добра ведаюць у нашай краіне як руплівага даследчыка-мовазнаўца, які тонка адчувае не толькі значэнне слова, але і яго адценні, імкнецца, каб захаваліся і перадаліся наступнікам самабытныя, непаўторныя рысы беларускай мовы.**

Абсяг дзейнасці А. Каўруса — найперш мова мастацкай літаратуры і сродкаў масавай інфармацыі, беларуская тэрміналогія, культура мовы, стылістыка. Пра гэта яскрава сведчаць назвы ягоных кніг, напісаных дбайна, рупліва, старанна… А яшчэ — ашчадна, з душою, з непадкупнай шчырасцю: “З крыніц народнай мовы”, “Стылістыка беларускай мовы”, “Культура слова”, “Слова наша роднае”, “Мова народа, мова пісьменніка”, “Дакумент па-беларуску”. У суаўтарстве з М. Круталевічам А. Каўрус выдаў таксама дапаможнік для студэнтаў ВНУ “Стараславянская мова”.

А. Каўрус — аўтар шматлікіх артыкулаў, рэцэнзій, змешчаных пераважна ў часопісе “Полымя”, а таксама ў многіх рэспубліканскіх газетах, у тым ліку і ў “ЛіМе”. Грунтоўныя артыкулы пра мову асобных пісьменнікаў (У. Дубоўкі, Я. Коласа, Я. Купалы, І. Пташнікава, Я. Скрыгана, М. Танка, Р. Шкрабы) занялі годнае месца ў навукова-папулярнай энцыклапедыі “Беларуская мова”. Апошнія амаль паўтара дзесятка гадоў А. Каўрус актыўна і плённа супрацоўнічае са штомесячным навуковым і метадычным часопісам “Роднае слова”, дзе друкаваліся ягоныя “Словы без прапіскі: пазаслоўнікавая лексіка беларускай мовы”. Сярод іх — гаваркія словы, словы-залацінкі, якія не толькі называюць пэўную рэаліо, але і вобразна, непаўторна-свежа характарызуюць яе. Як добра было б, каб гэтыя “бяздомныя” словы знайшлі сабе надзейны прытулак: былі выдадзеныя асобным слоўнікам!

Матэрыялы і вынікі назіранняў А. Каўруса над маўленчай практыкай (пачатак 1960-х гг. і да нашага часу) сабраныя аўтарам і выдадзеныя асобнай кнігай накладам 600 асобнікаў, якая, няма сумнення, парадуе прыхільнікаў роднае мовы: “Да свайго слова: пытанні культуры мовы”.

Адметнасць кнігі ў тым, што, як справядліва адзначаецца ў прадмове, “аўтар не паказвае вядомых «гатовых» лінгвістычных звестак, а найперш аддае перавагу пытанням мала або зусім не распрацаваным у беларускай лінгвістыцы і методыцы”.

У першым раздзеле “Агледзіны слова” (у падраздзеле “Шукайма слова”) А. Каўрус абгрунтавана даводзіць, што некаторыя словы, якія прыйшліся недаспадобы асобным



акадэмічным мовазнаўцам (*наступства, спадарства, выстава, напой, аповед, напрыканцы*), маюць права на жыццё, што і пацвярджаецца маўленчай практыкай апошніх гадоў. Яны арганічна ўпісаліся ў лексічны склад беларускай літаратурнай мовы.

У падраздзеле “Збіраецца скарб: з тэрмінатворчасці 40—90-х гг. XX ст.” гаворка вядзецца пра пошукі адпаведнікаў рускамоўным тэрміналагічным адзінкам з не ўласцівымі беларускай мове суфіксамі *-ущ, -ющ,-ащ, -ящ, -ем, -им*. Як адзначаецца ў кнізе, ужо ў “Руска-беларускім слоўніку” (1953) да шмат якіх тэрмінаў падабраныя беларускія адпаведнікі, якія “дэманстравалі і ўстальёўвалі нацыянальную адметнасць і самабытнасць беларускай мовы”. Параўн.: *образующая — утваральная, равнодействующая — раўнадзейная, растворяемость — растваральнасць, нисходящий — сыходны, успокаивающий — заспакаяльны*. Што ж да зваротных дзеепрыметнікавых формаў, то яны перакладзеныя беларускімі аддзеяслоўнымі прыметнікамі з суфіксамі *-н, -к, -л: напрактиковавшийся — напрактыкаваны, запыхавшийся — задыханы, качающийся — хісткі, укоренившийся — укаранелы*.

Шмат цікавага знойдзе чытач у падраздзеле “Слова ў кантэксце”, дзе, у прыватнасці, вядзецца гаворка пра недарэчнасць ужывання ў сказе двух і больш фармальна падобных слоў. У кнізе не толькі фіксуюцца стылёва заганныя сказы, але і прапануюцца варыянты іх праўкі.

Звяртаецца ўвага на немілагучнасць сказаў, у якіх побач стаяць некалькі кароткіх слоў, якія канчаюцца на зычны, напрыклад: *Праходзілі* ***паўз наш дом*** *караваны вярблюдаў*. Прапануецца варыянт сказа, які сапраўды папрыгажэў, стаў больш мілагучным: *Праходзілі* ***міма (каля)*** *нашага дома караваны вярблюдаў*.

Разглядаюцца выпадкі беспадстаўнага ўжывання прыназоўніка *па*, асабліва калі ён выступае замест іншых прыназоўнікаў, з больш канкрэтным значэннем. Цікавыя разважанні даследчыка наконт сінанімічных (*каля — ля*), а таксама варыянтных прыназоўнікаў (*з — са*). Спасылаючыся на творы класікаў беларускай літаратуры (у прыватнасці, Я. Коласа), А. Каўрус прыходзіць да слушнай высновы: “…прыназоўнік *з* перад збегам зычных не з'яўляецца парушэннем літаратурнай мовы”.

У раздзеле “З беларускай граматыкі” А. Каўрус, абапіраючыся на прыклады, не без падстаў абвяргае дыялектны (як лічаць некаторыя даследчыкі) статус дзеяслоўных формаў загаднага ладу на *-ма*, напрыклад: *Парадуемся радасцям зямным // і ўсё ж — не* ***забываймася*** *аб вечным* (А. Вольскі). *Што ж,* ***пачакайма****, новых кніжак з “самвыда”* (Н. Галіяровіч). ***Згадайма*** *такія цэнтры, як “Менск”, “Полацак”* (В. Скарабагатаў). ***Загляньма*** *ў раздзел* [кнігі]… (Л. Карань). Як справядліва лічыць даследчык, “пра нарматыўнасць формаў загаднага ладу з канчаткам *-ма* пераканальна сведчыць тое, што іх ужываюць аўтары, для родных гаворак якіх гэтыя формы не характэрныя, а таксама дзеячы культуры, якія нарадзіліся ў Мінску ці іншых гарадах”.

У “Беларускай граматыцы” (1985) сцвярджаецца, што дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу не ўтвараюцца ад дзеясловаў з націскам на *–аць (-яць)*, утвораных пры дапамозе прыстаўкі ад прыставачных дзеясловаў незакончанага трывання: *паскідаць, паздымаць*. Як слушна адзначае А. Каўрус, гэта датычыцца рускай мовы. Што ж да беларускай мовы, то і ад падобных дзеясловаў такія дзеепрыметнікі ўтвараюцца даўно (цягам добрага стагоддзя) і працягваюць утварацца сёння. Дарэчы, з такімі формамі сустракаемся, як паказвае даследчык, і ў акадэмічным “Тлумачальным слоўніку беларускай мовы” (1977—1984): *паскіданы, паздыманы, пазбіраны, паздзіраны, параздаваны, паразрываны* і інш.

Аналізуючы шматлікія прыклады ўжывання *не* з дзеепрыметнікамі-выказнікамі, А. Каўрус дапоўніў наяўныя правілы напісання адмоўя. На яго думку, асобна трэба пісаць *не* і з поўнымі дзеепрыметнікамі, што ўжываюцца як выказнікі, а не толькі з кароткімі (як гэта прадугледжана дзейным правілам).

Па-свойму цікавы трэці раздзел кнігі — “Лінгвістычныя абразкі”. У ім, у прыватнасці, разглядаецца адна з фанетычных адметнасцей беларускай мовы — вымаўленне *е, я* ў няпершым перад націскам і ў паслянаціскных складах. Згодна з арфаэпічнымі нормамі ў гэтай фанетычнай пазіцыі неабходна вымаўляць гук “э” з прыгукам “а”: *це*[а]*гавіты, це*[а]*жкаваты, зе*[а]*ле*[а]*наваты; восе*[а]*нь, Гоме*[а]*ль, гае*[а]*м, ведае*[а]*ш, шырокае*[а] *поле*[а]. Пра гэтую асаблівасць беларускай мовы варта было б сказаць колькі слоў і ў школьных падручніках. Прапанова А. Каўруса цалкам слушная, бо маўленне — адзін з істотных паказчыкаў агульнай культуры чалавека.

У перыядычным друку можна сустрэць варыянты формаў роднага склону прозвішчаў накшталт *Малец, Зносак*: *Малеца — Мальца, Зносака — Зноска*. У кнізе даецца абгрунтаваны адказ: у беларускай мове назоўнікі мужчынскага роду з суфіксам *-ец- (-эц-)* тыпу *хлопец* пры скланенні страчваюць суфіксальны галосны: *хлопец — хлопца*. Гэта мае дачыненне і да прозвішчаў: *Мальца, Зноска*.

Няма аднастайнасці ва ўжыванні назоўнікаў мужчынскага роду тыпу *боль, жаль, цень* у форме меснага склону адзіночнага ліку; можна сустрэць: *у болі — у болю, у жалі — у жалю, у цені — у ценю*. Варта прыслухацца да прапановы А. Каўруса: “Калі б назоўнікі тыпу *боль, жаль* ужываліся з «мужчынскім» канчаткам *–у (-ю)* у месным склоне, гэта садзейнічала б засваенню іх сапраўднага (мужчынскага) роду, а ў канчатковым выніку папярэджвала б граматычныя памылкі”.

Закранаючы спрэчныя моўныя пытанні, А. Каўрус, як гэта і належыць сапраўднаму навукоўцу, не навязвае чытачу сваё меркаванне як адзіна магчымае, не прадпісвае норму, а “далучае чытача да пошуку і выбару найбольш прыдатнай формы слова, спалучэння слоў, будовы сказа”.

У раздзеле “Водгукі” крытычна асэнсоўваюцца погляды іншых вучоных на не ўпадабаныя імі словы або іх формы, якія, аднак, сталі агульнаўжывальнымі, таму што адпавядалі патрэбам маўленчай практыкі.

Апошні раздзел “Асцерагаймася памылак” прысвечаны выяўленню і кваліфікаванаму аналізу шматлікіх моўных памылак, з якімі даследчыку даводзілася сустрэцца на старонках кніг, часопісаў, газет.

Кніга А. Каўруса “Да свайго слова: пытанні культуры мовы” напісана на высокім прафесійным узроўні, вызначаецца глыбокім, тонкім аналізам фактычнага матэрыялу і абгрунтаванымі высновамі.

Як вынікае з анатацыі, кніга прызначаецца выкладчыкам, настаўнікам, журналістам, супрацоўнікам выдавецтваў, радыё і тэлебачання. Няма сумнення, што яна стане неацэнным дапаможнікам для студэнтаў-беларусазнаўцаў — будучых выкладчыкаў роднай мовы і літаратуры.

**Наталля ЗАЯЦ,**
**кандыдат філалагічных навук**

# Агледзіны слова

**Свае агледзіны роднага слова вядомы і паважаны ў краіне лінгвіст Алесь Каўрус пачаў амаль паўвека таму: першае навуковае выступленне пазначана 1963-м годам. Сёння ў яго набытку — велізарная колькасць прац.**

Новая кніга “Да свайго слова. Пытанні культуры мовы” — гэта своеасаблівы зборнік выбранага, які змяшчае артыкулы, абразкі, водгукі, напісаныя ў розны час і ўжо вядомыя па перыёдыцы. Багаты досвед аўтара як навукоўца, выкладчыка, рэдактара, яго энцыклапедычныя веды і зайздросная працаздольнасць прадвызначылі каштоўнасць і ўнікальнасць артыкулаў выдання. Алесь Аляксандравіч не паўтарае вядомага, а прапануе новыя, заўсёды цікавыя звесткі, з мэтай павысіць культуру мовы разглядае распрацаваныя слаба ці зусім не распрацаваныя пытанні фанетыкі, марфалогіі, сінтаксісу, стылістыкі.

Імпануе пазнавальны — дасціпны, навукова-папулярны, пісьменніцкі — стыль Алеся Каўруса, што робіць кнігу даступнай і зразумелай не толькі спецыялісту-філолагу, але і любому чытачу. Выгадна адрознівае зборнік ад падручнікаў і дапаможнікаў дэмакратычны спосаб падачы звестак: аўтар, як падкрэсліваецца ў прадмове, “не дае імператыўных, загадных рэкамендацый, не прадпісвае норму, а далучае чытача да пошуку і выбару найбольш прыдатнай формы слова, спалучэння слоў, будовы сказа”. Падобны падыход бачыцца вельмі ўдалым і плённым. Катэгарычнасць, безапеляцыйнасць граматык, а здараецца, што і неадпаведнасць змешчаных там правіл моўнай практыцы можа выклікаць непаразуменне і нават непрыняцце. Неяк школьніцай я засумнявалася ў дасведчанасці аўтараў падручніка па беларускай мове, якія прадпісвалі ўжываць словаформы “пойдзем, будзем”, а не штодня чутыя дыялектныя “пойдам, будам”. Адзіны аргумент настаўніцы “так у правілах” быў недастатковым, а таму нядзейсным і непераканаўчым.

Алесь Аляксандравіч умее паказаць, чаму патрэбна гаварыць менавіта так, запэўніць, што ўласны маўленчы досвед і суб'ектыўны густ — вельмі ненадзейныя паказчыкі пры выбары правільных слоў, выразаў, канструкцый. Удумлівы і руплівы даследчык, ён аргументавана, красамоўна, дасціпна, часам з лёгкай іроніяй даказвае нежыццёвасць меркаванняў, пры дапамозе якіх яго апаненты адстойваюць альтэрнатыўную пазіцыю. Многія артыкулы зборніка могуць паслужыць для навукоўцаў і журналістаў узорам доказнай, этычнай палемікі (“Шукайма слова”, “«Звязда» як назва газеты”, “Як разумеем слова. *Джынджык. Узнацк*”, “Не ўзнімайце рукі... на мову”).

Аўтар адстойвае права на існаванне новых лексем, утвораных паводле традыцыйных для беларускай мовы мадэляў, рэабілітуе беспадстаўна адрынутыя словы, вяртае з небыцця несправядліва забытыя формы (“*Прафесійнік, правінцыйнік* ды іншыя”, “Крыўджанае слова. Пра назоўнік *накірунак*”). Палемічнасць, скіраванасць да дыялогу падкрэсліваецца ўжо самімі назвамі лінвістычных тэкстаў: “Вымаўляем так, як пішам?”, “Дапамагла памылка. Ці быў дзеепрыметнік *наспеты*?”, “Рыцар з правінцыі Ламанча. Як сказаць інакш?”. Магчыма, пытанні без гатовых, аднаэначных адказаў “справакуюць” некага на ўласнае вывучэнне праблемы.

Думаецца, найбольш істотнай вартасцю зборніка з'яўляецца актуальнасць, запатрабаванасць і практычная карысць прадстаўленых тут артыкулаў: праблемы, якія ў іх разглядаюцца, народжаныя самім жыццём. Да прыкладу, пачутыя аўтарам памылкі журналістаў Беларускага радыё падштурхнулі да напісання матэрыялу “Ісці ад жывой мовы. Заўвагі да «Моўнай хвілінкі»”.

Надзвычай жыццёвымі атрымаліся артыкулы, прысвечаныя такой важнай лінгвістычнай, сацыяльнай і псіхалагічнай праблеме, як напісанне прозвішчаў (“Шануйма сваё імя і род”, “*Ленька — Лянько, Капейка — Кап...йко*. Як пісаць прозвішча?”, “*Вус, Вусік... Усаў*”). Так ужо сталася, што шмат хто па волі “граматеяў”-пашпартыстаў ці па ўласным жаданні змяніў выразна матываваныя беларускія прозвішчы на штучныя, дзіўныя, больш “культурныя” (?): Качарга — на Качарго, Птушка — на Птушко, Крупеня — на Крупеніо... Падобная практыка выклікае праблемы з лінгвістычным афармленнем такіх слоў, нярэдка прыводзіць да абсурдных сітуацый: “Згадалася. Падчас маёй (Алеся Каўруса. — **Н. З.**) працы ў педуніверсітэце вучыліся на філфаку дзве родныя (паводле іх слоў) сястры. Тая, што на стацыянары, ішла ў студэнцкіх беларускамоўных дакументах як *Лянько*, тая, што на завочным аддзяленні, — як *Ленька*”. Ілюстрацыямі да граматычных выкладак у гэтых артыкулах паслужылі прозвішчы канкрэтных людзей — нашых сучаснікаў: літаратара Міхася Кенькі, паэтаў Генадзя Кляўко і Віктара Ярца (аўтар лічыць натуральным ужыванне менавіта такой скланавай формы), крытыка і даследчыцы літаратуры Жанны Капусты... Гэта напаўняе лінгвістычны матэрыял чалавечай асабовасцю, чытанне яго ўспрымаецца як нездагаданае, але прыемная сустрэча са знаёмымі.

Такім чынам, было б памылкай гаварыць пра кнігу толькі як пра падборку мовазнаўчых рэкамендацый. Многія лінгвістычныя назіранні, у першую чаргу гэта датычыцца водгукаў і абразкоў, пры ўсёй іх навуковасці наблізкаюцца да сферы літаратурна-мастацкай: настолькі яны эмацыйна выразныя, па-асабліваму кранальныя (“Імя «беларускай дзяўчыны»”). Адчуваецца, наколькі аддаць аўтар сваёй справе, як шчыра імкнецца абудзіць у іншых цікавасць да мовы.

# Рэдактарскія пакуты

Алег ЖДАН

**Вядома, пакуты рэдактараў — дробязь у параўнанні з пакутамі аўтараў. Што значыць тваё дбанне над рукапісам у параўнанні з пакутамі аўтаранад чыстым аркушам (або перад дысплеем камп'ютара)? Але і радасці меней. Публікацыя апавядання, аповесці ці рамана — для аўтара вялікае свята, а для рэдактара звычайная справа, кладзі на стол наступны рукапіс, учытвайся і, калі ласка, ніякіх эмоцый. А як ужо вельмі добра напісана — пацешымся пазней, калі праверым кожнае слова, фразу, думку. Пацешымся тады, калі прыйдуць водгукі чытачоў і меркаваннеіх супадзе з тваім.**
**А можа, і пабядуем: не змог адбіцца ад аўтара, хоць ведаў: публікацыя гэта нікому радасці не прынясе. Чытачы нашы — людзі часцей за ўсё выхаваныя і ўдзячныя: радуюцца ці бурчаць цішком, пра сябе. Але як напішуць, што аповед пісьменніка імярэк нічога не варты, — так яно і ёсць.**
**Шукаць суцяшэннясэнсу няма. Чытачу падавай добрую прозу або вершы, нават калі ты лаўрэат якой-небудзь рэспубліканскай прэміі або нобелеўскі намінант.Моладзь піша пра каханне, старыя — пра маладосць. Маладыя шлюць рукапісы электроннай поштай або раздрукаваныя на прынтары, старыя — часта ў школьных сшытках унукаў, крыва-коса, не надта пісьменна. Але і тыя, і другія чакаюць добрага слова. Мы не скнары. Калі ёсць за што, абавязкова адзначым, пахвалім. Але і праўду трэба сказаць. Кожнаму рэдактару хочацца, каб аўтар, пакідаючы рэдакцыю, усміхаўся і дзякаваў.**
**На жаль, так не атрымліваецца. І часта гэта не аўтараў, а наша віна.**


Фота з сайта www.photosight.ru

## «Тытанік»

Рукапіс быў вялізны. Здавалася, стальніца прагнулася пад ім. Можна ўявіць, колькі працы было ўкладзена, колькі думак, пачуццяў і надзей абуджаў ён. Здавалася, аўтар адчуве палёгку — і фізічную, і маральную — паклаўшы яго на стол. Ён сваю справу зрабіў. Сказаў. Паклаўшы рукапіс на стол, ён перанёс адказнасць за яе будучыню на рэдакцыю. І мы яе, адказнасць, адчулі.

Першыя старонкі абнадзейвалі: мова, стыль, завязка сюжэта — усё добра, цікава, нават значна. Амаль трацінү я прачытаў, забыўшы пра час. Аднак радасць, якую адчуваў спачатку, раптам змянілася трывогай. Потым — панікай… Так, пэўна, пачуваліся пасажыры "Тытаніка", калі зразумелі, што тонуць. Увогуле ў сярэдзіне тэксту стала ясна, што раман ідзе на дно. Што пасажыры, гэта значыць чытачы, менавіта тут пачнуць ратавацца ўцёкамі.

Вядома, я дачытаў рукапіс. Абдумаў. Параіўся з калегамі. Падрыхтаваўся да сустрэчы і гутаркі. Напісаў невялікую рэцэнзію. Сустрэліся.

Ён не паверыў ніводнаму слову. "Я даваў чытаць раман добрым знаёмым. Усім падабаецца". Зразумела, доўга працаваў, зжыўся з героямі, падзеямі, сюжэтам. "Не верце добрым знаёмым! Добрыя знаёмыя рэдка гавораць праўду. Яны – добрыя і баяцца сапсаваць з вамі адносіны!"— "Каму тады верыць? У каго спытаць, хто скажа праўду? Вы?" — "Мы. А яшчэ можна спытаць у Чэхава, Буніна, Талстога. Іх, суддзяў, цэлы пантэон. Трэба адно слухаць уважліва ці ўглядацца і, галоўнае, — верыць".

Відаць было, што забраць і несці рукапіс яму цяжэй, чым прынесці. Быццам стаў ён яшчэ большым.

Часам мы сустракаемся. Я з надзеяй узіраюся ў яго вочы: можа быць, усё ж удалося закінуць зерне сумнення ў душу?

Не, занадта вялікі раман. Надта шмат працы, думак, пачуццяў і спадзяванняў звязана было з ім.

## Хабар

Часам пасля публікацыі аўтары гавораць: "Дзякуй!" А жанчыны часам і каробку цукерак прыносяць да гарбаты. Але ж гэта мы, рэдактары, павінны сказаць аўтару дзякуй за добры твор. Мы павінны падарыць яму каробку цукерак!

А здараецца, аўтары-мужчыны прапаноўваюць:
— Вып'ем па кілішку?
— Дзякуй, не магу.
— Чаму? — здзіўляецца аўтар.
— Не п'ю.

Глядзяць адкрыўшы рот. Як так? Зусім-зусім? А калі па маленькай? Калі ледзь-ледзь? Не? Ну-у... А можа... Ну-у...

Глядзяць так, нібы тады й публікацыя не патрэбна. Нават ва ўласных вачах яна губляе значнасць і вагу. Вось калі б надзерціся так, каб "на бровах", каб ад ганарару застаўся адно ўспамін — во, гэта зусім іншая справа. Было б пра што ўспомніць ды распавесці.

Яшчэ не так даўно хадзіць па рэдакцыях "на бровах" лічылася нармалёвым для таленавітага пісьменніка, сёння — іншая справа. Даўно не бачыў у рэдакцыі чалавека на добрым падпітку.

Марнеюць традыцыі пакалення "шасцідзясятых"...

Я тады працаваў у аддзеле публіцыстыкі. Прыйшоў да мяне пажылы мужчына, гадоў сямідзесяці, можа й старэй. Прынёс успаміны пра вайну — даволі цікавыя. Мы апублікавалі іх. Неўзабаве ён прыйшоў зноў, сеў у крэсла побач, працягнуў мне скрутак з-пад малака: "Тут бутэлечка хатняга віна ды шакаладка для вашай унучкі". Што, адправіць яго дахаты разам з бутэлечкай і шакаладкай? Пакрыўджу старога. Добра, сказаў я, дзякуй. Пагаварылі пра сёе-тое... Не, не клеілася гутарка. Нарэшце, ён падняўся, неяк няўпэўнена, шмаргануўшы носам, паўтарыў, што ў скрутку бутэлечка хатняга віна... Сышоў. Скрутак яго я сунуў у сумку. А калі расчыніў дома, убачыў, што не толькі бутэлечка віна там і шакаладка. Але і кавалачак каўбаскі, скрылік сала, лустачка хлеба і маленькі салёны агурочак... Гэта значыць, стары хацеў адзначыць са мной сваю першую публікацыю, а я вырашыў — хабар...

А ўжо зусім нядаўна адзін з аўтараў выклікаў мяне ў калідор і ціха прамовіў: "Калі аповесць пойдзе, ганарар перавяду на ваш хатні адрас". — "Пераводзіце, калі хочаце абразіць мяне", — адказаў я. Твар яго стаў шэрым. Не, вядома, ён не збіраўся абразіць мяне. Проста цяперашнія норавы дазваляюць зрабіць рэдактару такую прапанову.

## Трыста долараў

Быў час, калі я нідзе не працаваў і, такім чынам, перабіваўся з хлеба на квас. Тады і звярнуўся да мяне сталы чалавек з просьбаю адрэдагаваць рукапіс. Я доўга пакутаваў, цямячы, які кошт прызначыць за сваю працу і, нарэшце, рашыўся: "Трыста долараў". Ён адразу пагадзіўся — відаць, гатовы быў і да больш значнай сумы. Рукапіс быў вялікі — прыкладна дваццаць пяць аўтарскіх аркушаў, і, вядома, далёкі ад рэдакцыйнай гатоўнасці. Па змесце — традыцыйны вытворчы раман. Сядзеў я над ім, праклінаючы трыста долараў і ўласную прагнасць, амаль усё лета, з дня ў дзень. Нарэшце, скончыў, вярнуў рукапіс аўтару. Праз два месяцы ён патэлефанаваў і паведаміў, што кніга выйшла, хацеў бы падарыць мне асобнік. Жаданне натуральнае, я таксама хацеў бы мець сведчанне свайго "рынкавага" поспеху. Сустрэліся, паціснулі адзін аднаму рукі. Кніга была тоўстая, у цвёрдай вокладцы, на добрай паперы. Наша літаратурная эпапея завяршылася.

Якое ж было маё здзіўленне, калі я ўбачыў, што ніводнай сур'ёзнай папраўкі аўтар не прыняў! Пагадзіўся толькі з арфаграфічнымі праўкамі.

Што, я павінен быў вярнуць грошы? Не ўжо, дзякуй. Пачуццё было такое, быццам гэта мой рукапіс знявечыў непісьменны рэдактар. Нібы гэта я бяздарна выкінуў трыста долараў…

## Хто ёсць хто

Здаецца, сёння ў асяроддзі буйных прадпрымальнікаў і службоўцаў стала прэстыжным мець кніжачку ўласных вершаў ці хоць бы прозы. А яшчэ пажадана — публікацыя ў "тоўстым" часопісе. Прынамсі, убачыць такіх у рэдакцыі — не рэдкасць. Вядома, зусім буйныя не апусцяцца да рэдакцыі, яны — наўпрост да галоўнага рэдактара часопіса, а то й да дырэктара холдынга. Аднак зусім рэдакцыю не абмінеш. Даводзіцца мець зносіны падчас падрыхтоўкі рукапісу, — калі ён таго варты. (Сустракаюцца здольныя людзі і сярод бізнесменаў, і службоўцаў.) І вось тут, у рэдакцыі, высвятляецца, хто ёсць хто. Вы што? Вы не ведаеце, хто я? Як гэта — не мае значэння? З вашымі праўкамі пагадзіцца ніяк не можна.

Але ж і мы, рэдактары, не можам пагадзіцца — з банальным сюжэтам, безаблічнымі героямі, а часам і малапісьменным тэкстам. Прычына нашай зацятасці простая: за намі чытач, які не выкажа аўтару свае думкі пра яго твор. Ён выкажа гэта нам.

Праўда, апошнім часам, як з'явіліся ў інтэрнэце літаратурныя сайты, аўтары шмат што могуць даведацца пра сябе…

## Рэдактары

Мне як аўтару давялося працаваць з рознымі рэдактарамі – і ў Маскве, і ў Мінску. Былі сярод іх высокапрафесійныя, былі і не вельмі. Добры рэдактар — школа для аўтара. І чым больш прынцыповы, упарты, настойлівы, тым больш карысны. У кожнага рэдактара свой стыль, свой характар. У Маскве быў у мяне рэдактар, які ўсіх нязгодных падымаў на смех. Паспрабуй з такім не пагадзіцца! Абсмяе на ўвесь свет... Была рэдактар-жанчына, якая запрашала да сябе на боршч, на блінцы з маслам, на каву. Тая ж сітуацыя: як не пагадзіцца з яе заўвагамі! Асабліва калі слушныя. Але ж кароткія мае аповеды пра нашых, беларускіх рэдактараў, што калісьці працавалі ў часопісе "Нёман".

## Уладзімір Жыжэнка

Што-што, а пачуцця гумару Уладзіміру Аляксандравічу бракавала рэдка.

...Мы сустрэліся ў Оршы на чыгуначным вакзале, я ехаў з Мсціслава, ён, помніцца, з Крычава. Ехаць у Мінск можна было двума спосабамі: электрычкай або пасажырскім цягніком. Цягнік ад'язджаў і прыбываў раней, затое электрычкай — танней. Уладзімір ужо ўзяў білет на цягнік і пачаў разважаць: "Можа, здаць білет і паехаць з табой электрычкай?" — "Так, гэта будзе танней", — сказаў я. "Уга, але тады я павінен узяць бутэльку гарэлкі і закуску — атрымаецца яшчэ даражэй. Не, паеду цягніком".

Але не пра пачуццё гумару гаворка. Пра рэдактара. Перакладчыка. Яшчэ дакладней — пра асобу.

Ён так шмат прачытаў рукапісаў за сваё жыццё, так добра зразумеў тэхналогію пісьменніцкай працы, што даўно ўжо не захапляўся ніякімі нашымі творамі, толькі аб'яўляў — пойдзе, не пойдзе. Зрэшты, нам нічога больш і не трэба было. Кампліменты? Барані бог! Не трэба. Кампліменты нам скажуць будучыя пакаленні. Галоўнае зусім не ў хвале, а ў тым, каб не прагучала забойная фраза, тлумачальная і знішчальная: "Вы не таленавіты!" Часцей за ўсё такі аўтар больш не з'яўляўся ў рэдакцыі. Але часам па незразумелай прычыне Уладзімір Жыжэнка мог палюбіць слабога аўтара, важдацца з ім, а то і перапісваць тэксты, суправаджаючы аж да ўступлення ў Саюз пісьменнікаў. Здаралася, што ў новым статусе гэты аўтар уваходзіў у рэдакцыю ўжо з іншым апломбам, і тады Уладзімір Аляксандравіч не без усмешкі прамаўляў: "Маўр зрабіў сваю справу!"

О, гэта быў знакаміты рэдактар! І перакладчык. Васіль Быкаў, Вячаслаў Адамчык, Уладзімір Караткевіч, Васіль Хомчанка, Віктар Карамазаў, Алесь Асіпенка… — і гэта не поўны спіс аўтараў, якія дзякуючы яму сталі вядомыя рускім чытачам. Ну а колькі раманаў, аповесцей ды апавяданняў адрэдагаваў — пералічыць нельга.

У студэнцкія гады, падчас вучобы ў БДУ, ён уваходзіў у зборную ўніверсітэта па валейболе. Ён быў высокі, зграбны, рысы твару нагадвалі куміра шматлікіх жанчын — артыста Ланавога. Адпаведным было і стаўленне жаночай палавіны ўніверсітэта. Аднак Уладзімір цікавіўся імі вельмі ўмерана.

Канечне, пра яго трэба было б распавесці падрабязна, грунтоўна, але я ведаў яго толькі як аўтар. Таямніцы яго жыцця для мяне за сямю пячаткамі. Можа быць, гэта зробіць хтосьці іншы, хоць наўрад ці: сыйшлі яго калегі і блізкія… На заканчэнне скажу проста: добры след пакінуў гэты чалавек.

## Уладзімір Кудзінаў

У Мінск ён, рускі, ці, як часам кажуць, "сапраўдны рускі", патрапіў звычайным для маладога чалавека шляхам: па размеркаванні пасля заканчэння Маскоўскага будаўнічага інстытута. Жыў з жонкай на здымнай кватэры, бегаў па будпляцоўках, мерзнуў узімку, парыўся ўлетку… Тут і пачаў пісаць апавяданні. Яго заўважылі, пачалі друкаваць, а там і запрасілі на рэдактарскую работу ў часопіс.

Я пазнаёміўся з ім, калі ён быў ужо рэдактарам аддзела прозы ў "Нёмане".

Гэта быў шчаслівы перыяд яго жыцця: кахала жонка, падрастала дачка, выходзілі з-пад пяра добрыя апавяданні. Беларускія пісьменнікі марылі, каб перакладаў іх менавіта ён, Уладзімір Кудзінаў, бо беларускую мову ён адчуваў, а літаратурнай рускай валодаў як рэдка хто ў Мінску. На яго перакладчыцкім рахунку аповесці і раманы Пташнікава, Місько, Карпюка ды іншых пісьменнікаў.

Апавяданні мае, з якімі я звярнуўся да яго, былі, вядома, далёкія ад дасканаласці (як, выбачайце, і цяпер). Аднак я адчуў цяпло ў голасе і пацягнуўся да яго. Выпадак дапамог: нам давялося ехаць у адзін бок, і я апынуўся ў яго кватэры. Жонка прыгажуня, дачка прыгажуня. Ён са знешнасцю інтэлігента канца XIX стагоддзя. Усмешка, што як быццам затойвалася паміж барodкай і вусамі. Вельмі шчырая гутарка за поўнач...

Госцю заўсёды здаецца, што гаспадары шчаслівыя людзі. Зразумела: на людзях мы выстаўляем свае лепшыя якасці, лепшыя пачуцці. Вось і мне здавалася, што жыццё іх простае, а шчасце надзейнае. Пазней стала ясна, што ўсё гэта далёка не так.

Сямейнае жыццё развалілася раптоўна.

Адзін з аўтараў "Нёмана" паспрабаваў намаляваць тую гісторыю — гісторыю жаночай здрады — славы яму гэтае пісанне не прынесла. Гэтак жа як і срэбранікаў. Скажу толькі, што Уладзімір нядоўга пражыў пасля той катастрофы: ён кахаў гэту жанчыну.

Можа быць, што кола тых, хто памятае яго, не шырокае. Але ўсе, хто быў знаёмы з ім, успамінаюць заўсёды са смуткам. І часта паўтараюць адну фразу: "Як доўга яшчэ мог бы жыць чалавек!"

Так гавораць толькі пра добрых людзей.



Міхась КЕНЬКА,
фота Кастуся Дробава

**Народны мастак Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, скульптар Іван Міско свае высокія званні і ўзнагароды заслужыў шматгадовай нястомнай працай. Мастаком ён марыў стаць з дзяцінства, у яго рана выявіліся здольнасці да малявання. У цяжкія пасляваенныя гады не хапала паперы — тады размалёўваў свежапабеленую печ. Партрэт Чапаева, копіі карцін з кніжак, пейзажы — вось яго першыя малюнкі. Паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча. Вучыўся жывапісу, але хацелася большай прасторы, аб'ёмнасці. Аднойчы зазірнуў у скульптурны клас і зразумеў: вось яно, прызванне!**

# Космас Івана Міско

Іван Міско перайшоў на скульптурнае аддзяленне, з захапленнем працягваў вучыцца. Затым — Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, праца ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР, удзел у выстаўках і творчых конкурсах, пленэрах. Адна за адной з'яўляліся скульптурныя работы. У творчым супрацоўніцтве са скульптарамі М. Рыжанковым, А. Заспіцкім і архітэктарам А. Трафімчуком быў створаны мемарыял маці-патрыётцы Настассі Купрыянавай у Жодзіне — работа, якая атрымала шырокую вядомасць, была адзначана Дзяржаўнай прэміяй СССР.

Пачатак касмічнай эры па-асабліваму паўплываў на творчасць Івана Міско. Ён настолькі захапіўся касманаўтыкай, што зрабіў яе асноўнай тэмай сваёй далейшай творчай працы. Скульптурныя партрэты касманаўтаў, кампазіцыі на касмічную тэму, медалі, барэльефы — мабыць, болей ніхто ў свеце не стварыў столькі работ на гэтую тэму. Не дзіўна, што дзяржаўныя заказы на ўвасабленне бюстаў касманаўтаў-беларусаў П. Клімука і У. Кавалёнка былі прапанаваныя менавіта яму. Івана Міско запрасілі ў Зорны гарадок, там ён зрабіў нямала эскізаў да скульптурных партрэтаў. Калі пачаліся палёты па праграме "Інтэркосмас", Іван Якімавіч ўзяўся ляпіць партрэты замежных касманаўтаў і астранаўтаў, якія ў ёй удзельнічалі.

Касмічная тэма — не адзіная для Івана Міско. Ён стварыў нямала партрэтаў прадстаўнікоў самых розных прафесій: канструктара, Героя Беларусі Міхаіла Высоцкага, калегі-скульптара Мікалая Волкава, артыста Генадзя Аўсяннікава, хармайстра Віктара Роўды, фалькларыста Рыгора Шырмы. У галерэі вобразаў — Францыск Скарына, Янка Купала, Якуб Колас, Мікола Аўрамчык, Алег Лойка, Анатоль Іверс, Уладзімір Караткевіч, Максім Горкі, расійскі празаік Міхаіл Чванаў і інш. Тройчы звяртаўся Іван Міско да скульптурных выяў Івана Шамякіна. Спачатку ён зрабіў мемарыяльную дошку, усталяваную на доме, дзе жыў пісьменнік. Потым вылепіў барэльеф у яго гонар. А ў 2009 годзе скульптурны бюст увянчаў надмагілле Івана Пятровіча. Аблічча Уладзіміра Караткевіча І. Міско ўвасобіў на мемарыяльнай дошцы, якая была летась адкрыта ў Ракаве на доме сям'і Рагойшаў, дзе пісьменнік часта бываў. Грандыёзная работа была здзейснена для далёкага Башкартастана: помнік славутаму рускаму класіку Сяргею Аксакаву, зроблены ў рэкордна кароткі тэрмін, да чарговых Міжнародных Аксакаўскіх дзён. Бронзавую адліўку па прапанове зямляцтва беларусаў у сталіцы суседняга Татарстана — Казані было вырашана зрабіць там. Гатовыя формы даставілі ў Казань, дзе ў ліцейні ТАА "Эксперыментальны вытворчы завод (ВКНИИВОЛТ)", якім кіруе беларус Сяргей Марудэнка, помнік увасобіўся ў бронзе і ў верасні 2010 года быў урачыста адкрыты.

Іван Якімавіч рыхтуецца да свайго 80-годдзя і сустракае юбілей з надзеяй ажыццявіць яшчэ многія задумы. Пра іх ён загадзя гаварыць не любіць, але адну не хавае: "Мае работы ўстаноўленыя шмат дзе, у тым ліку ў Расіі, Германіі, Ліване, а вось у родным Слоніме ніводнага майго твора пакуль няма. Я хацеў бы зрабіць для землякоў помнік вялікаму гетману Міхаілу Казіміру Агінскаму, які жыў у Слоніме, шмат зрабіў для яго росквіту, фінансаваў будаўніцтва Агінскага канала".

Штодня Іван Міско прыходзіць а восьмай гадзіне ў майстэрню, там чакаюць яго станкі з пачатымі скульптурнымі работамі. Яго прынцып — "кожны дзень рукі павінны быць у гліне". І ад гэтага прынцыпу не адступаецца. Да сваёй персанальнай выстаўкі, якая адкрыецца ў красавіку ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, ён спяшаецца зрабіць некалькі новых партрэтаў і кампазіцый, завяршае пачатае, пачынае новае. Пажадаем жа яму плёну ў гэтай працы, натхнення і здароўя!

Алег АНАНЬЕЎ

# Тэатр + жывапіс = ...

**Мастацкі праект — у сучаснай культуры паняцце ёмістае, шматзначнае. Штораз гэта сінтэз мастацтваў, які нараджае новыя светы. Зрабіць так, каб паэтычнае слова набыло маляўнічасць, а жывапіс можна было не толькі ўбачыць, але і пачуць, як ён гучыць і спявае, — вось тая мэта, якой імкнуцца дасягнуць у Гомельскай абласной бібліятэцы імя Леніна, рыхтуючы новы ўніверсальны праект. У спалучэнні розных відаў творчасці паўстала і персанальная выстаўка майстра тэатральна-дэкаратыўнага мастацтва, жывапісца, члена Беларускага саюза мастакоў Пятра Захарава. Яна носіць рэтраспектыўны характар, бо прысвечана 75-годдзю творцы, які жыве і працуе ў Мазыры.**

Экспазіцыя разгарнулася ў панараму з дваццаці жывапісных палотнаў розных гадоў: пейзажаў, нацюрмортаў, партрэтаў. Ёсць тут і маштабныя эскізы сцэнаграфіі, бо больш як 40 гадоў Пётр Захараў быў галоўным мастаком Мазырскага драматычнага тэатра імя Івана Мележа. Таму выстаўка мае такую вобразную назву: "Тэатр + Жывапіс = Каханне".

У свой час Пётр Сяргеевіч двойчы быў адзначаны Залатым медалём на Усесаюзных фестывалях народных тэатраў. Ім афармлена больш як 70 спектакляў у Гомельскім абласным, Магілёўскім і Смаленскім драматычных тэатрах паводле твораў Янкі Купалы, Кандрата Крапівы, Івана Мележа, Андрэя Макаёнка, Георгія Марчука, Алеся Петрашкевіча, Віталя Вольскага. Сярод іх — "Паўлінка", "Несцерка", "Брама неўміручасці", "Людзі на балоце", "Трыбунал", "Партызаны", "Адкуль грэх?", "Прымакі"... А яшчэ — "«Шкірдзюкі» займаюць абарону" паводле п'есы вядомага гомельскага драматурга Васіля Ткачова.

Паводле яго эскізаў у Мазыры на Замкавай гары ўзведзены драўляны замак у стылі абарончых збудаванняў XVII стагоддзя. За вялікі ўнёсак у нацыянальную культуру П. Захараў адзначаны медалём "За заслугі ў выяўленчым мастацтве".

Стылістыка створаных Пятром Захаравым эскізаў дэкарацый да спектакляў сугучная новаму, XXI стагоддзю. Выразна і экспрэсіўна. Сімвалічна і велічна. І ўсё гэта пры актыўнай яркасці каларыту.





Дзівоснае спалучэнне ўсіх гэтых якасцей мастак потым перанёс у жывапіс, надаўшы яму эпічнае гучанне і паэтычную ўсхваляванасць. Шчырасць — характэрная рыса пейзажаў П. Захарава. "У мяне з дзяцінства закладзена любоў да прыроды, — кажа ён. — Для мяне Мазыр — мая малая радзіма. Тут я чэрпаю сваё натхненне".

Падчас адкрыцця выстаўкі адбылося ўрачыстае віншаванне юбіляра. Ганаровую грамату ўпраўлення культуры Гомельскага аблвыканкама яму ўручыла старшыня абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў Л. Зуева. Шмат цёплых слоў выказалі заслужаны дзеяч мастацтваў Р. Ландарскі, галоўны рэжысёр Смаленскага абласнога драматычнага тэатра імя А. С. Грыбаедава В. Баркоўскі, рэжысёр Гомельскага абласнога драматычнага тэатра, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі В. Чэпелеў, пісьменнік В. Ткачоў, сябры і калегі мастака.

Адбылася акцыя дарэння П. Захаравым Гомельскай абласной бібліятэцы жывапіснага палатна "Першы снег"... Бярозавы гай паўстае як нейкі шматствольна-шматструнны музычны інструмент. Гай гучыць... пранікнёна і паэтычна... Адчуванне, што чуеш — ціхую мелодыю прыроды...

Своеасаблівым падарункам мастаку і ўсім прысутным сталася літаратурна-музычная кампазіцыя "Ціхая мая радзіма..." у выкананні артыста Гомельскага абласнога драматычнага тэатра, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Аляксея Бычкова. У аснове яго аўтарскага паэтычнага спектакля — творчасць Мікалая Рубцова. Вершы чаргаваліся з песнямі, рамансамі, баладамі. Акампануючы сабе на гітары, мастак слова па-майстэрску стварыў тую ўнікальную атмасферу, якая аб'яднала на вернісажы пісьменнікаў і жывапісцаў.

"Тое, як Аляксей Бычкоў прадставіў гэтага выдатнага расійскага паэта, зноў перакапала мяне: час Рубцова не сышоў. Можа быць, менавіта цяпер, у эпоху хуткасцей і мабільных зносін, яго вершы асабліва запатрабаваныя", — так адгукнулася на імпрэзу Тамара Кручэнка, пісьменніца, журналіст, карэспандэнт газеты "Гомельская праўда". Суладнае меркаванне выказала і паэтэса Ганна Атрошчанка: "Я ўжо ў другі раз слухаю гэты пранікліва монаспектакль. І зноў усведамляю, што ўсё ў Рубцова напісана сэрцам, і Аляксей Бычкоў выканаў тое на струнах сваёй душы". А заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Роберт Ландарскі прызнаўся: "Для мяне музыка і жывапіс заўсёды непарыўна звязаныя. Часам пішу карціну — і чую музыку. Ну а калі гэты сінтэз творча прадуманы, як у сённяшнім праекце, — гэта сапраўднае свята душы. Жывапіс і паэзія сталі і бачнымі, і пачутымі".

Слухаючы захопленыя водгукі пра вечарыну-вернісаж, пра ўнікальны музычна-паэтычны праект Аляксея Бычкова, выкажу меркаванне, што такія аўтарскія кампазіцыі варта паказваць усім.

*На здымках: Пётр Захараў і яго пейзаж "Першы снег".*

Святлана КОШУР,
старшы навуковы супрацоўнік
Карэліцкага раённага
краязнаўчага музея

# Як лодка пад ветразем

**Валянцін Рамановіч пражыў толькі 33 гады, пакінуўшы высокамастацкія творы, якія ў Беларусі, на жаль, не ведаюць, бо захоўваюцца яны ў музеях іншых краін. Мастак нарадзіўся на беларускай зямлі ў праваслаўнай сям'і беларуса Сцяпана Рамановіча і Аляксандры Зотавай, якая паходзіла з роду расійскіх іканапісцаў. Бацькі-настаўнікі выхоўвалі Валянціна на рускай мове, таму, нягледзячы на далейшае знаходжанне ў польскамоўным асяроддзі, ён лічыў сябе рускім і дзённікі, якія вёў з юнацтва, пісаў па-руску. Іронія лёсу: сёння імя гэтага мастака ёсць у польскай энцыклапедыі і адсутнічае ў беларускіх, літоўскіх, расійскіх, хаця нарадзіўся ён на тэрыторыі былой Навагрдчыны ў тагачаснай Расійскай імперыі, а вучыўся і працаваў у Вільні. Гэта якраз адзін з тых выпадкаў, пра якія прафесар Адам Мальдзіс казаў, што беларуская нацыя выступіла ў ролі донара, вобразна кажучы, аддаючы сваю кроў іншым народам.**

Валянцін Рамановіч нарадзіўся ў мястэчку Карэлічы Навагрудскага павета 7 кастрычніка 1911 года. Так сведчаць дакументы Віленскага ўніверсітэта, але з дзённіка мастака даведваемся, што свой дзень нараджэння ён адзначаў 20 кастрычніка — паводле новага стылю.

Бацька мастака — Сцяпан Канстанцінавіч — паходзіў з беларускай сялянскай сям'і, што спрадвеку жыла ў вёсцы Падкасоўе на Навагрудчыне, непадалёк ад Шчорсаў, дзе некалі шчыраваў у сваім маёнтку асветнік і мецэнат граф Храптовіч. Атрымаўшы адукацыю ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, Сцяпан Рамановіч падаўся вучыцца ў Вільню, дзе пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Аляксандрай Зотавай, настаўніцай малодшых класаў.

Сям'я Рамановічаў прыехала ў Карэлічы ў 1910 годзе. У 1915-м Рамановіча перавялі на Палессе, але Сцяпана Канстанціавіча цягнула на радзіму, таму ў 1921 г. сям'я вярнулася ў Падкасоўе, адтуль зноў перабралася ў Карэлічы, дзе С. Рамановіч выкладаў матэматыку ў польскай сямігодцы. Валянцін спачатку вучыўся дома, у школу пайшоў у Падкасоўі, працягваў вучобу ў Карэлічах, а ў 1924 г. паступіў у Навагрудскую польскую гімназію імя А. Міцкевіча. Там на адной з выстаў дэманстраваліся малюнкі будучага мастака. Ад яго сваякоў з Вільнюса мне ўдалося атрымаць копію вучнёўскага білета Валянціна і рэпрадукцыю адной з яго ранніх работ, датаванай 1928 годам, — партрэт Льва Талстога. Тады ж юнак пачаў пісаць вершы і весці дзённік.

Скончыўшы гімназію, Валянцін стаў студэнтам мастацкага факультэта Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя. Валянцін Рамановіч вучыўся ў таленавітых мастакоў: Ф. Рушчыца, А. Штурмана, Б. Яманта, Т. Несялоўскага, Б. Кубіцкага, але найбольш паўплывалі на яго творчасць выдатны графік Е. Гопан і адзін з галоўных прадстаўнікоў віленскай школы жывапісу Людамір Сляндзінскі.

Ва ўніверсітэце Валянцін пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Альдонай Нябельскай. (Лёс адмерыў ім не так ужо шмат гадоў шчасця. Пасля раптоўнай смерці мужа Альдона Рамановіч пераехала ў Варшаву, дзе працавала ў музеі мастаком-рэстаўратарам. Яна зрабіла ўсё магчымае, каб захаваць творчую спадчыну мужа.) У 1934 г. В. Рамановіч здаў экзамен, які даваў права выкладаць маляванне ў школах і настаўніцкіх семінарыях. Але Валянцін працягнуў вучобу — на медыцынскім факультэце, быў асістэнтам на кафедры анатоміі, праводзіў практычныя заняткі са студэнтамі-медыкамі. Але і тут праявілася творчая натура мастака: ён выкладаў курс "мастацкай анатоміі" для студэнтаў мастацкага факультэта, рыхтаваў анатамічны альбом і меў намер выканаць для яго ілюстрацыі (гравюры).

Творы В. Рамановіча пачалі з'яўляцца на выстаўках у Вільні і Варшаве. Сярод ранніх твораў жывапісу — "Срэбная рака", "Жоўтая рака", "Сосны", "Зіма". Але найбольш яго цікавіла графіка. Ён шмат працаваў над тэхнікай стварэння графічных работ і эксперыментаваў з рознымі матэрыяламі. Творы "Касцёл св. Міхала ў Вільні" і "Саркафаг Льва Сапегі" (1934) сведчаць пра дасягненні мастака ў пошуку выразных сродкаў для ўвасаблення задумы. Пасля ўдзелу ў 2-й Міжнароднай выстаўцы дрэварыту ў Варшаве (1936) В. Рамановіч атрымаў запрашэнне з Інстытута мастацтва ў Чыкага паўдзельнічаць у 6-й і 7-й Міжнародных выстаўках літаграфіі і дрэварыту.

З 1937 г. ён уваходзіў у склад "Групы Віленскай", удзельнікамі якой былі ў асноўным выхаванцы мастацкага факультэта Віленскага ўніверсітэта (А. Нябельская-Рамановіч, Л. Касмульскі, Э. Кучынскі, М. Сяўрук, К. Урублеўская, К. Чурыла і інш.), разам з імі браў удзел у выстаўцы 1939 г. Там прадставіў творы жывапісу, якія сталіся вынікам шматлікіх вандровак па мясцінах з цікавай гісторыяй.

У пачатку 1939-га мастак зрабіў пробныя адбіткі экслібрысаў — свайго і жонкі Альдоны, а таксама гравюры "Над Свіцяззю" — відавочна, што гэтае цудоўнае возера зачаравала мастака не менш, чым азёры каля Тракайскага замка. А 9 снежня таго ж года Валянцін Рамановіч атрымаў дыплом прафесійнага мастака.

Шмат месяцаў ён прысвяціў рабоце па вывучэнні і кансервацыі замка ў Тракаі, колішняй рэзідэнцыі вялікіх князёў літоўскіх. Улюбёны ў старажытныя муры, уражаны прыгажосцю навакольнай прыроды, мастак працаваў натхнёна і апантана. У гэты час ён напісаў шэраг работ алеем, зрабіў шмат замалёвак, якія пазней леглі ў аснову гравюр цыкла "Трокі". Запісы ў яго дзённіку пераконваюць, што В. Рамановіч сапраўды вельмі любіў гэты маляўнічы куточак, а справы па кансервацыі Тракайскага замка спалучаў з цудоўным адпачынкам: ён быў аматарам плавання на лодцы пад ветразем.

У 1940-м В. Рамановіч займаўся працай па кансервацыі замка ў Коўне, у выніку чаго з'явілася работа "Ковенскі замак". На пачатку 1941-га стварыў аўтапартрэт і партрэт Стэфана Баторыя. Убачыўшы гэтыя работы, Ежы Гопан назваў свайго вучня адным з наймацнейшых сучасных мастакоў, якія працуюць у тэхніцы гравюры па медзі. Пры канцы студзеня 1941 г. мастака зноў накіравалі на працу ў Трокі, адкуль бярэ пачатак яго "лебядзіная песня" — цыкл медзярытаў, прысвечаны Тракайскаму замку.

Замак, які мастак прывык бачыць летам у атачэнні расквітнелай прыроды, нязвыкла вылучаўся на фоне засыпаных снегам дрэў і празрыстага хмызняку, але і зімовы пейзаж хваляваў ды натхняў Валянціна. Увесну ён перадаў на чарговую віленскую выстаўку некалькі сваіх твораў — толькі што завершаныя работы тракайскага цыкла і некалькі папярэдніх, а напярэдадні вайны даведаўся, што іх набудзе музей мастацтва.

Жыццё ў акупіраваным горадзе не прыносіла мастаку станоўчых эмоцый. За чарговую работу тракайскага цыкла ён узяўся, каб зняць напружанне ад перажытага ў першыя дні вайны. Мастак пабываў каля яўрэйскага гета, і яму падалося, што ён трапіў у змрочны мурашнік. Пазней быў моцна ўражаны, калі ўбачыў чалавека, павешанага фашыстамі на дрэве на плошчы, побач — натоўп людзей і жанчыну, якая страціла прытомнасць… Такіх сюжэтаў няма на гравюрах В. Рамановіча, але ў некаторых работах з'яўляюцца матывы страху і смерці. Трывога праціне "Ветразь", дзе адлюстроўваецца намаганне людзей вытрываць у экстрэмальнай сітуацыі. Некалькі чалавек, плывучы пад ветразем, імкнуцца супрацьстаяць стыхіі, з цяжкасцю ўтрымліваючы раўнавагу на моцных хвалях, якія, здаецца, вось-вось перакуляць лёгкую лодку. На іншым медзярыце таксама з'яўляецца ветразь — удалечыні, як сімвал надзеі. Заробкі Валянціна кармілі амаль усю сям'ю: бабулю, маці, жонку, а пазней яшчэ і сястру Алену з малым дзіцём. Ён адчуваў адказнасць за ўсіх блізкіх і таму браўся за ўсялякую мастацкую працу, што магла прынесці грошы: рысавальшчыка ў замку, рэстаўратара карцін і абразоў, рэкламіста; прадаваў праз антыкварню свае гравюры, даваў урокі. Калі не было іншага выйсця, Валянцін выменьваў прадукты за ўласную вопратку.

Аднойчы ноччу мастак зноў пачуў гул самалётаў, рэха далёкіх выбухаў і запозненых гук сірэны. Неўзабаве з'явілася на свет гравюра "Страхі", а пазней — "Смерць". Праца над апошняй неаднаразова перарывалася паветранай трывогай. Так, пад гукі сірэны, з'явілася на меднай пласціне выява старога ў лодцы. Паводле задумы гэта быў Харон — перавозчык душ нябожчыкаў у падземнае царства Аіда.

Падзеі, якія адбываліся ў горадзе, прыгняталі Валянціна: арышт 100 заложнікаў, 10 з якіх назаўтра расстралялі; уцёкі яўрэяў праз трубы каналізацыі з гета, якое фашысты сабраліся ліквідаваць, пахаванне жывапісца А. Штурмана… Ад змрочных думак, як заўсёды, ратавала творчасць.

Пасля вызвалення Вільні ён быў запрошаны ўпаўнаважаным у адну з устаноў, якая раней займалася справамі кансервацыі помнікаў, а ў новых умовах — рэгістрацыяй ваенных страт. Мастак складаў спісы віленскіх помнікаў культуры, адначасова стварыў чарговую гравюру тракайскага цыкла — "Работа". Тэхніка гравюр Валянціна Рамановіча настолькі ўразіла спецыялістаў, што яму прапанавалі месца загадчыка хімічнай лабараторыі пры кафедры глыбокай гравюры ў Акадэміі мастацтваў, запрасілі таксама працаваць кансерватарам у музей.

Апошняя работа тракайскага цыкла — "Сава" ("Чорныя лілеі"), створаная ў верасні 1944 г., увасобіла ў сабе ўсё лепшае, чаго мастак дасягнуў у творчасці. Ад гэтай казачна прыгожай, загадкавай, неверагодна паэтычнай і рамантычнай гравюры, напоўненай самымі тонкімі перажываннямі майстра-віртуоза, немагчыма адвесці вачэй. І толькі кветкі колеру жалобы — чорныя лілеі — нібы прадказваюць трагедыю самога творцы.

У пачатку снежня 1944 г. праца над цыклам "Трокі", у які ўвайшлі 32 гравюры па медзі, была завершана, яго адразу набыў віленскі музей. Але ўбачыць альбом сваіх твораў, пра які так марыў мастак, яму не давялося. Арыштаваны органамі НКУС і кінуты ў турму, ён загінуў у Лукішках прыкладна на пачатку лютага 1945 года. Дакладная дата яго смерці і месца пахавання невядомыя.

Так творчы ўзлёт быў перапынены заўчаснай смерцю. Засталіся нязздзейсненыя планы і мары. Яго талент не паспеў разгарнуцца на ўсю моц, але ў тых творах, якія пакінуў нам В. Рамановіч, адчуваецца рука сапраўднага Майстра.

Пасля трагічнай гібелі мастака яго творы экспанаваліся на выстаўках у Торуні (Польшча) у 1945, 1946, 1958 і 1987 гадах. У Беларусі яго работы ўпершыню былі паказаны ў Карэліцкім раённым краязнаўчым музеі на выстаўцы "Мастацкі свет Валянціна Рамановіча" ў 2001 годзе дзякуючы пляменнікам мастака Паўлу і Аляксею Багдановічам, якія прыехалі на вернісаж з Вільнюса. На ўрачыстасці прысутнічалі таксама беларускія мастакі — Уладзімір Басалыга, Кастусь Качан, Рыгор Сітніца, пісьменнік Яўген Лецка, якія адзначылі высокі мастацкі ўзровень работ Валянціна Рамановіча і заўважылі, што вяртанне яго імені на радзіму — значная падзея ў культурным жыцці Беларусі.

На выстаўцы ў Карэліцкім раённым краязнаўчым музеі, прымеркаванай да 100-годдзя з дня нараджэння мастака, быў прадстаўлены цыкл гравюр "Трокі" і ўнікальныя фотаздымкі 1930-х гадоў. Даведацца больш падрабязна пра лёс мастака, убачыць рэпрадукцыі яго работ і фотаздымкі можна ў маёй кнізе "Лебядзіная песня Валянціна Рамановіча", якая пабачыла свет напрыканцы мінулага года.



*На здымку: Валянцін Рамановіч — гімназіст.*

# Мужчынская справа

**У Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адкрылася выстаўка "Ваенна-гістарычная мініяцюра Ігара Гарбунова", прысвечаная 200-годдзю Айчыннай вайны 1812 года.**

**Кацярына БЯДУЛІНА**

Ігар Гарбуноў — дактарант Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, дацэнт кафедры дызайну мастацка-графічнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Ён з дзяцінства марыў быць моцным і мужным, каб абараняць слабых, каб стаць героем-вайскоўцам, быць "мужам з чынам" (менавіта такі сэнс мае слова "мужчына") і пры гэтым заставацца ў душы рамантыкам. Стаўшы дарослым, адчувае сябе маленькім хлопчыкам, які майструе салдацікаў з каляровага пластыку. Кожнай новай рабоце папярэднічае падрабязнае вывучэнне гісторыі і этнаграфіі краю. Ён ствярае музейную бутафорыю. Вядомы сваёй актыўнай выставачнай дзейнасцю ў шматлікіх гарадах Беларусі: Мінску, Віцебску, Гародні, Магілёве, Ваўкавыску, Бабруйску…

— Натхненне прыходзіць зусім нечакана, — распавядае Ігар Васільевіч. — Кожны вечар раскладваю перад сабою каляровы пластык і паглыбляюся ў творчасць. Існуе шмат вытворцаў і фірм, якія выпускаюць штосьці падобнае. Але, як правіла, усё, што імі створана, — гэта ў асноўным заслуга камп'ютарных тэхналогій. Людзей, якія працуюць з пластыкам рукамі, не так ужо і шмат.

Адна з асноўных мэт, якую паставіў перад сабой аўтар, — паказаць, як змянялася вайсковая ўніформа падчас розных войнаў. Можна параўнаць вайсковыя касцюмы розных народаў ды перыядаў і заўважыць, што з часам іх выгляд рабіўся больш строгім.

Фігуркі, створаныя майстрам, — адзіныя ў свеце. Багацце матэрыялу, прадстаўленага на выстаўцы, абумоўлена тым, што яе экспанаты ствараліся гадамі. Ды выраблялiся пад мікраскопам метадам ручнога рэзання. Гэта вельмі складаная работа, якая патрабуе цярпення і ўсед-лівасці. Толькі ўявіце сабе, як цяжка працаваць над кожнай часткай маленечкай фігуркі! Так і хочацца сказаць пра Ігара Гарбунова: гэта чалавек, які не прывык сядзець склаўшы рукі. А яго творчасць быццам бы гаворыць за аўтара: "Няма нічога немагчымага. Патрэбна проста набрацца цярпення".



***На здымках: на шахматным полі выстраіліся дзве "арміі" на чале з каралямі.***

***Фота прадастаўлена Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.***

## Свет фантазіі

**Клаўдзія БОСАК**

# Уцеха для сэрца

**На хойніцкай зямлі жыве нямала таленавітых людзей, народных умельцаў. Адна з іх — Людміла Лобан, якая ўсё свядомае жыццё вышывае, у асноўным крыжыкам. І цяпер, на заслужаным адпачынку, шмат часу прысвячае любімаму занятку.**

Лёс не песціў гэтую сціплую жанчыну. Яшчэ малою засталася сіратой: бацька не вярнуўся з вайны, маці трагічна загінула на лесанарыхтоўках. Дзяўчынка жыла ў Хойніцкім дзіцячым доме. На ўсё жыццё запомніла яна сваіх выхавальнікаў — П. Сурганаву, Ф. Злотнікаву, Г. Стахоўскую, Т. Марчанку, якія не толькі клапаціліся пра дзяцей, але заўважалі і развівалі іх творчыя здольнасці. Менавіта яны прызвычаілі дзяўчынку да вышыўкі. Пасля дзіцячага дома Людміла ўладкавалася вышывальшчыцай на фабрыку мастацкіх вырабаў. Працавала сумленна і старанна, пра што сведчаць шматлікія ўзнагароды, сярод якіх і Ганаровая грамата Вярхоўнага Савета БССР.

Што толькі не вышывала Людміла Арсенцьеўна за мінулыя гады. Цяпер у калекцыі майстрыхі — сапраўдныя творы мастацтва. Радуецца жанчына таму, што сёння можна без праблем набыць ніткі для вышывання, тканіну. Не так, як было ў дзяцінстве, калі даводзілася не проста купляць, а здабываць мулінэ.

Ад прыгажосці, створанай рукамі вышывальшчыцы, не адарваць вачэй! Тэмы для будучых шэдэўраў Людміла Арсенцьеўна бярэ ў асноўным з часопісаў. З нядаўняга часу ў яе творчасці пачала прэваліраваць рэлігійная тэматыка. Жанчына расказала, што аднойчы ўбачыла абраз святога Серафіма Сароўскага, і ёй так захацелася яго вышыць, што не змагла ўтрымацца.

— Самае складанае, калі працуеш над абразом, — адлюстраваць адухоўленых рысы твару, таму што вобраз святога павінен быць як жывы, несці ў сабе духоўнасць, — распавяла Людміла Арсенцьеўна. — Вышыванне — уцеха для душы. За пяльцамі магу сядзець гадзінамі.

У майстрыхі шмат задум, планаў, ідэй. А запалу, натхнення і руплівасці ёй не пазычаць. Мастацкі густ, пачуццё колеру, уменне бачыць выраб з першых шыўкоў — гэтыя якасці побач з цярпеннем і мэтанакіраванасцю дапамагаюць у нялёгкай, але такой прыгожай справе. Застаецца дадаць, што Людміла Лобан шчодра дзеліцца створанымі карцінамі. Дорыць іх родным і блізкім. Яе творы ёсць у аматараў вышыўкі з Украіны і Расіі.

**Анатоль БАРЫС**

# Чароўны крыжык

**Чатыры гады таму з'явілася студыя аматараў вышыўкі "Чароўны крыжык". Пачыналася ўсё з выстаўкі рукадзелля работнікаў Барысаўскага завода медпрэпаратаў, арганізаванай да 8 Сакавіка. Экспазіцыя складалася з 170 работ, аўтарамі якіх былі больш як 20 жанчын рознага ўзросту. Лепшыя майстрыхі атрымалі граматы ад прафкама (з улікам меркавання гледачоў), сярод іх і Таццяна Нажданава.**

Падчас святкавання Дня беларускага пісьменства ў Барысаве мясцовыя майстрыхі выставілі свае работы побач з гасцямі са сталіцы — удзельніцамі грамадскага культурнага аб'яднання "Вышывальшчыца". Яго кіраўнік Алена Бакаева параіла барысаўчанкам арганізаваць свой клуб аматараў вышыўкі. Таццяна Нажданава падтрымала гэтую ідэю. З яе ўдзелам у сакавіку 2009 года адкрылася выстаўка твораў вышывальшчыц у гарадскім Палацы культуры. Сярод аўтараў быў і адзін мужчына — Алег Афонін, які з дапамогай вышыўкі адлюстраваў прывабны вобраз жанчыны.

Уже дзесяць гадоў вышывае правізар барысаўскай аптэкі № 172 Наталля Чудакова. Гэтай справе яе навучыла сяброўка, педагог па працоўным навучанні Галіна Лісава. А любоў да рукадзелля прывіла ў свой час маці, Ганна Міхайлаўна Арэстовіч, якая навучыла дачку вязаць нажуткі, кепачкі, шыць сукенкі.

Са стварэннем "Чароўнага крыжыка" было вырашана некалькі задач. Па-першае, аб'ядналіся людзі, якія займаюцца цікавым рамяством, а па-другое, знялася праблема занятасці пенсіянераў, якія складаюць касцяк студыі. Кіраваць ёю даверылі Таццяне Нажданавай. Інжынер-тэхнолаг па спецыяльнасці, яна займаецца вышыўкай ужо дзесяць гадоў. Не застаюцца ў баку і яе муж Уладзімір, дочкі Алена і Ірына: знаходзяць схемы, сюжэты, складаюць новыя.

Летась многія з задавальненнем азнаёміліся з экспазіцыяй студыйцаў "Ад нітачкі да шэдэўра" ў Барысаўскім краязнаўчым музеі. А яшчэ "Чароўны крыжык" падтрымлівае цесную сувязь з мінскім аб'яднаннем "Вышывальшчыца" — ужо не раз ладзіліся сумесныя выстаўкі.

## Афарызм

*Цяпер знаю:*
*З усіх моў –*
*Найцяжэйшая мова людская.*

**Максім ТАНК**

## З глыбінкі

# Фота. Жывапіс. Графіка

У Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя М. Багдановіча адкрылася выстаўка твораў маладзечанскіх мастакоў і, дарэчы, добрых сяброў Анатоля Акуліка, Генадзя Селядца і Васіля Лазоўскага пад кароткай назвай "Яны".

Каларытныя здымкі выкладчыка музычнага каледжа імя М.-К. Агінскага Генадзя Селядца першымі сустракаюць наведвальнікаў — нібыта запрашаючы на выстаўку. Жывапісныя работы выкладчыка дзіцячай мастацкай школы Васіля Лазоўскага — яе завяршэнне, так бы мовіць, рэзюмэ. Яны сталі дастойным "абрамленнем" графікі мастака-афарміцеля гандлёва-эканамічнага каледжа Анатоля Акуліка.

Каля яго карцін немагчыма не спыніцца. Іх лініі-маланкі нібыта выстрэльваюць у наведвальніка і надоўга затрымліваюць каля сябе. І вось ты стаіш у роздуме каля "Ускраіны" ці "Часу сталасці", бачыш нешта сваё, патаемнае, і ўспаміны-асацыяцыі вярэдзяць душу… Можна толькі здагадвацца, колькі цярпення і ўседлівасці патрабуе такая тэхніка з яе вытанчанымі дэталямі, выверанымі да міліметра, амаль матэматычнымі лініямі, якія талент і фантазія мастака ператвараюць у філасофію, паэзію, музыку. Адкрыццё выстаўкі, аздобленае выступленнем дуэта скрыпачак — навучэнак школы мастацтваў — стала сапраўдным святам для аматараў харастава.

**Анжаліка КРУПЯНЬКОВА, г. Маладзечна**

# Паміж вясной і восенню

У літаратурным жыцці Ляхавіччыны — падзея: выйшаў у свет паэтычны зборнік Валянціны Пабягайлы.

Першыя свае вершы Валянціна Іванаўна некалі сціпла прынесла ў рэдакцыю "Ляхавіцкага весніка". Пасля іх публікацыі пасыпаліся цёплыя водгукі чытачоў, якія натхнілі аўтарку на далейшую творчасць. І вось — прэзентацыя зборніка вершаў, якую арганізавалі работнікі цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы. У літаратурнай гасцёўні сабраліся людзі розных узростаў. Выкладчык школы мастацтваў Мікалай Шкляпік узяў на сустрэчу свой любімы музычны інструмент — кларнет, каб прадэманстраваць, наколькі блізкія па гучанні лірычныя музычныя творы і паэзія Валянціны Іванаўны. Гэта была цёплая і шчырая сустрэча, на якой кожны хацеў падзякаваць аўтару за пранікнёныя паэтычныя радкі.

У чым сакрэт папулярнасці вершаў Валянціны Пабягайлы ў землякоў? Пэўна, у тым, што піша яна пра тое, што хвалюе кожнага з іх. Пра каханне і сямейныя клопаты, пра харастава прыроды і лёс роднай краіны, пра родную мову. Ды і па натуры сваёй яна — аптымістка, жыццялюб, нераўнадушная да ўсяго, што адбываецца навокал. Назва зборніка яе вершаў —"Паміж вясной і восенню". І здаецца, што ўсё ж існасць паэткі бліжэй да вясны.

**Аліна ЛАПІЧ, г. Ляхавічы**


Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ





Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў
Наклад — 2869
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 16.02.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 745
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12